# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (83) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2018 г.




**Традыцыйнае белаўзорыстае ткацтва Панямоння адроджана ў Лідзе.
Элемент нематэрыяльнай культурнай спадчыны.
Гістарычна-культурная каштоўнасць Рэспублікі Беларусь.**







***Філамат Ануфры Петрашкевіч,*** *каля 1863 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 83 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2018 г.


## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі: па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам доктара Яўгена Маркевіча лідскія ткачыхі адраджаюць белаўзорыстае ткацтва.**



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік **Валерый Васільевіч Сліўкін,** старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар **Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна
**АДРАС САЙТА:** http// naszaslowa.by
http// nslowa.by

Наклад 250 асобнікаў
8 друк. аркушаў
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № 3250.
Часопіс падпісаны да друку 30.09.2018 г.
Часопіс надрукаваны 29.11.2018 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес. - 3,12 руб.
індывід. 6 мес. - 6,24 руб.
Кошт у розніцу: вольны.

ISSN 2218-1792




# На Лідчыне асвечаны мемарыял “Невядомым паўстанцам 1863 года”



***Спіс паўстанцаў Лідскага павета чытаюць Валер Мінец, Алег Лазоўскі і Вітольд Ашурак***

5 жніўня ў былым фальварку Шчытнікі паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы адбылося ўшанаванне памяці паўстанцаў 1863 года.

Сёлета споўнілася 155 гадоў ад пачатку паўстання, да гэтай даты актывісты лідскіх грамадскіх арганізацый закончылі афармленне мемарыялу “Невядомым паўстанцам”, паколькі дакладна вядома, што тут пахаваны паўстанцы, а вось, хто, выявіць не ўдалося.

Сабраліся людзі з многіх месцаў Беларусі: з Менска, Слоніма, Дзятлава, нават Гомеля, ну і, канешне, з Лідчыны.

Фэст-рэквіем пачаўся з чытання спіскаў паўстанцаў Лідскага павета. На сёння ў гэтых спісках 424 імені. Гонар чытаць спісы быў аказаны ад Лідскага раёна старшыні Ёдкаўскай суполкі ТБМ Валерыю Мінцу, ад Ліды - сябру Лідскай гарадской рады ТБМ Алегу Лазоўскаму, ад г. Бярозаўкі - кіраўніку Бярозаўскай суполкі Партыі БНФ Вітольду Ашурку.

Чытанне спіскаў доўжылася амаль гадзіну. За гэты час паспеў пайсці і перастаць летні дождж. Як сказаў прысутны тут старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў само неба заплакала над трагічнымі лёсамі ўдзельнікаў паўстання і ўсяго нашага народа.

Пасля чытання спісаў адбылася памінальная служба, якую адправілі святары Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы айцы Леанід Акаловіч і Вікенці Кавалькоў. Яны ж асвяцілі камень мема-



***За паўстанцаў моляцца айцы Леанід Акаловіч і Вікенці Кавалькоў***



Спявае Зміцер Захарэвіч



Сяржук Чарняк і Ніна Багінская



Удзельнікі фэсту-рэквіему ў гонар паўстанцаў

рыялу і крыжы пасля рэстаўрацыі.

Пасля малітвы прагучалі патрыятычныя песні ў выкананні слынных беларускіх бардаў Андрэя Мельнікава, Таццяны Матафонавай, Зміцера Захарэвіча і Сяржука Чарняка. Алег Лазоўскі прачытаў верш Станіслава Судніка "Кроў Франціішка" памяці паўстанца Францішка Багушэвіча, які ваяваў і быў паранены на Лідчыне.

Фэст-рэквіем прайшоў з дазволу лідскіх уладаў. Цяпер ад іхняй добрай волі залежыць унесці мемарыял у спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў раёна.

***Яраслаў Грынкевіч.***

# Сплаў па Нёмане, прысвечаны 100-годдзю БНР




Стагоддзе БНР – падзея, пра якую варта нагадваць і нагадваць.

Патрыёты з Лідчыны, Бярозаўкі, Менска, Гародні адправіліся 21 верасня Нёманам у 100-кіламетровае падарожжа на зробленых уласнымі рукамі плытах у гонар 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі.

Плыты «25 сакавіка» (дзень абвешчання Беларускай Народнай Рэспублікі) і «27 ліпеня» (дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР) майстравалі амаль месяц, а само падарожжа па Нёмане заняло каля тydня. Мэта падарожжа - не толькі ўшанаваць, але і адукаваць.

- Гэтую экспедыцыю мы задумалі яшчэ напрыканцы мінулага года. Пачынаем ад Бярозаўкі і канцавы прыпынак дзесьці ў раёне мястэчка Лунна. Там, непадалёк ад мястэчка, ля вёскі Багатырэвічы магіла паўстанцаў 1863 года. Мусім яе наведаць і ўшанаваць памяць змагароў за незалежнасць, - распавёў адзін з ініцыятараў экспедыцыі, сябар сойму Партыі БНФ Вітольд Ашурак.

Па ягоных словах, падчас маршруту плануецца спыняцца ў вёсках Беліца, Пескаўцы, Моцевічы, Орля, Дубна, Лунна, і ў горадзе Масты, зразумела.

- Мэта экспедыцыі - папулярызацыя беларускай гісторыі сярод шырокіх колаў беларускага грамадства. З гэтай нагоды падрыхтаваны інфармацыйнныя буклеты "БНР-100", прызначаныя для распаўсюду сярод вяскоўцаў, банеры "БНР-100" для пэўнай візуалізацыі, - заключыў Ашурак.







Правесці плыты прыехала не так шмат народу, але тут былі кіраўнікі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік і Сяргей Чарняк, які прэзентаваў дзве песні, напісаныя з нагоды сплаву, а практычна ўсе ўдзельнікі сплаву - сябры ТБМ.



***Нёманскія "рачныя ваўкі" Вітольд Ашурак і Сяргей Пантус***

**СПЛАЎ У БНР**

Лёгкія хвалі, ласкавыя хвалі
Плешчуцца мірна аб нашы плыты,
Нёману ціхенька мы прашапталі:
- Нас да свабоды нясі, мы - браты.

***Прыпеў:***

Між Дайнавы абшараў,
За велічнаю марай
Па Нёмане, па Нёмане сягоння і цяпер,
Паміж жыццёвых бураў,
Насустрач авантурам,
Па Нёмане, па Нёмане плывём у БНР.

Лёгкія хвалі, ласкавыя хвалі,
Лашчыцца вецер у нашых сцягах,
Кожнай галінкай пяшчотна махаюць
Нашыя дрэвы на двух берагах.

***Прыпеў.***

Нёман былінны, легендамі слынны,
Ты нас у крыўду павек не дасі.
Бацька радзімы, надзейны адзіны,
Далей жа, далей, нас да волі нясі.

***Прыпеў:***

Між Дайнавы абшараў,
За велічнаю марай
Па Нёмане, па Нёмане сягоння і цяпер,
Паміж жыццёвых бураў,
Насустрач авантурам,
Па Нёмане, па Нёмане плывём у БНР.

***Музыка С. Чарняка.***
***Словы С. Судніка.***

Дрэннае надвор'е і моцны сустрэчны вецер не далі дайсці да Лунна, але яшчэ больш падахвоцілі завадатараў, якія паабяцалі паўтарыць сплаў на наступны год, аднак пачаць яго раней.

***Паводле СМІ.***

# Кроніка Ліды



У пачатку ліпеня 2018 года Лідскі школьнік Сяргей Лаза заваяваў "срэбра" на Міждународнай алімпіядзе па фізіцы ў Якуцку.





У пачаткау ліпеня Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ордэнам Маці ўганараваны лідзянкі Вольга Тэвель, Таццяна Рышкевіч, Ірына Палуян, Анастасія Рочава.




У жніўні ў Лідзе выйшла кніга Станіслава Судніка "Пілігрымка дадому", 88 ст., 180 ас.



У Лідзе 7 верасня каля кавярні "Біг-Смак" з'явілася роварапаркоўка ў выглядзе рыцара.

Скульптура знешне падобная на інтэрпрэтацыю літаратурнага героя Сервантэса Дон Кіхота. Яе аўтарамі з'яўляюцца мясцовыя кавалі - Раман і Аляксандр Кудраўцавы.




8 верасня Ліда святкавала 695-годдзе з дня заснавання.

Тут праходзіў і 4-ты фестываль Lidbeer. Наведвальнасць свята дасягнула рэкорднай колькасць - 130 тысяч прыезджых.






16 верасня ў Мажэйкаўскім доме культуры Лідскага раёна прайшоў другі адкрыты рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары ...ды халодныя ранкі". Сёлетні склад удзельнікаў уражвае - 20 канкурсантаў з чатырох раёнаў Гарадзенскай вобласці.

27 верасня ў Лідзе ў арт-прасторы Ga11ery, па Міцкевіча, 31 распачалі працу лідскія курсы "Мова нанова".



# Лідскія юбіляры 2018 года

## Лідскі дэкан - філамат, ксёндз Дзіянісі Хлявінскі

### *Да 225-годдзя з дня нараджэння*

**Хлявінскі Дзіянісі** (Chlewinski Dioniz, 1793-1870) быў адзіным святаром сярод філаматаў.

*Таварыства філаматаў заснавана ў 1817 г. па ініцыятыве групы студэнтаў, сярод якіх быў Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і Ануфры Петрашкевіч, потым да таварыства далучыліся Ян Чачот, Францішак Малеўскі, ксёндз Дзіянісі Хлявінскі і іншыя. Таварыства было створана дзеля навуковай і грамадскай працы, узаемадапамогі ў паглыбленні адукацыі, маральнага самаўдасканальвання.*

*Філаматаў было некалькі дзесяткаў чалавек. Для працы з вялікім колам студэнтаў вясной 1820 г. Тамаш Зан стварае таварыства філарэтаў - аматараў дабрадзейнасці. Таварыства філарэтаў налічвала больш за 200 сяброў, у тым ліку двух святароў. Таварыства філарэтаў узначальвалі філаматы. У 1822 г. кіраўніцтва ўніверсітэта загадала распусціць Таварыства філарэтаў. Інцыдэнт 3 траўня 1823 года ў Віленскай гімназіі, калі на дошцы крэйдай вучань напісаў "Віват Канстытуцыі 3-га Траўня!" прывёў да шырокамаштабнага расследавання і ліквідацыі студэнцкага руху.*[1]

*У Імператарскім Віленскім універсітэце асобнага факультэта тэалогіі не было. І толькі на факультэце навук маральных і палітычных працавалі кафедры тэалогіі і кананічнага права. Таму будучыя святары навучаліся менавіта на гэтым факультэце ці ў Галоўнай семінарыі пры ўніверсітэце. Трое навучэнцаў гэтага факультэта належалі да таемных таварыстваў. Ксёндз Дзіянісі Хлявінскі - філамат, а філарэтамі з'яўляліся два піяры: ксяндзы Міхал Брадовіч і Юзаф Каласанты Львовіч.*

Ксёндз Хлявінскі быў старэйшы за Міцкевіча і за большасць астатніх сяброў таварыства. Ён нарадзіўся ў 1793 г. Духоўную семінарыю скончыў Вільні ў 1816 г. і прыняў сан святара. Потым служыў ва ўніверсітэцкім касцёле і адначасова вывучаў права. Жыў пры касцёле Св. Яна. У чэрвені 1818 г. напісаў працу на конкурс "Пра падаткі" і 31-га кастрычніка таго ж года быў прыняты сябрам-карэспандэнтам таварыства філаматаў. Дзейным сябрам таварыства стаў 16.03.1819 г., а 9-га траўня таго ж года на агульным паседжанні таварыства Тамаш Зан павіншаваў яго з гэтай нагоды. У таварыстве Хлявінскі займаўся рознымі арганізацыйнымі пытаннямі, быў памагатым бібліятэкара, а потым і бібліятэкарам таварыства.

Ксёндз Хлявінскі скончыў універсітэт са ступенню магістра права. Ён не належаў да шэрагу знакамітых філаматаў, і інфармацыі пра яго не шмат. Але Хлявінскі прымаў дзейны ўдзел у жыцці таварыства, чытаў лекцыі на навуковых паседжаннях, браў удзел у дыскусіях, а пасля Петрашкевіча стаў бібліятэкарам філаматаў і на асабістыя сродкі купляў кнігі, напрыклад "Слоўнік польскай мовы" ў 6-ці тамах. На яго кватэры нейкі час жылі Ян Чачот і Тамаш Зан. Неаднаразова ў яго кватэры праходзілі паседжанні таварыства, часам з каўбасой і мёдам. Ён разам з Тамашом Занам і Янам Чачотам, на паэтычным двубоі які адбыўся на імянінах Зана 21 снежня 1818 г., напісаў верш "Барацьба з мёдам" (“Walka miodowa”)[2].

Памяць аб Хлявінскім засталася ў перапісцы філаматаў[3]. Так Францішак Малеўскі ў лісце да Ануфрыя Петрашкевіча ад 19.11.1820 г. паведамляе што інфармацыю аб бібліятэцы філаматаў можа даць ксёндз (Хлявінскі)[4]. Ян Чачот на імяніны Хлявінскага напісаў знакамітую песню "Ды пакіньце ж горлы драць" на беларускай мове[5]. У лісце да Міцкевіча ад 16 лістапада 1819 года Чачот пісаў: *"Ой, мілыя нашы браты! І на вашай мове для нас склаўся вершык. Спявалі мы "Да пакіньце горла драць". Матыў маем для яе найцудоўны! Тамаш (Зан) з гэтай песняй не толькі ў нас, але і перад спевакамі ў пансіёне выстаўляўся. І здабыў сабе вялікую славу! Старыя былі яшчэ ў большым захапленні. "Ах, як цудоўна! От гэта, - казалі, - сапраўды народны спеў! А які цудоўны матыў! Што там вашы італьянскія ля, ля, ля... як неба ад зямлі!" ... Да імянін Дзіянісія я напісаў некалькі мужыцкіх песень, сярод якіх астатняя "Да пакіньце ж горла драць", найбольш прыйшлася даспадобы Тамашу; прыдумаў, як ведаеш, да яе матыў і гэтай песняй усюды, як цыган на кірмашы, хваліцца ..."* [6]. А ў лісце да Міцкевіча ад 10.05.1820 г. Тамаш Зан піша аб філаматах: *"Ян (Чачот) страшыць сваімі трывогамі. Міхал (Рукевіч) прапануе меры перасцярогі, наш ксяндзуля (Хлявінскі) дае эканамічныя распараджэнні і парады наконт абраднасці"*.[7]

Ксёндз Дзіянісі, як і ўсе мы, не быў ідэальным чалавекам. Сябры таварыства мелі да яго прэтэнзіі. Напрыклад ён не заўжды ўдала, без дазволу таварыства, кантактаваў з іншымі людзьмі з прапановамі ад імя філаматаў. Няўдалай была прапанаваная ім для ўступленне ў таварыства кандыдатура Шымкайлы[8].

Напрыканцы 1820 г. Хлявінскі стаў пробашчам ў парафіі Стараельня пад Наваградкам, парафія была маленькай - усяго "40 дымоў" [9]. Мела даўнюю гісторыю - яшчэ ў 1650 г. падканцлер ВКЛ Леў Сапега фундаваў тут касцёл з лістоўніцы і прызначыў пробашча. У 1864 г. парафія была скасавана з нагоды маалікасці вернікаў, а касцёл стаў капліцай[10].

Міцкевіч і іншыя філаматы былі незадаволены тым, што не атрымалася ўладкаваць бацьку Чачота на месца эканома плябаніі гэтай парафіі. У лісце ад 28 сакавіка 1821 г. Ф. Малеўскі паведамляе Міцкевічу: *"Ян* (Чачот) *вярнуўся з кантрактаў і піша сам да цябе, пэўна напіша і аб брыдкім учынку ксяндза (Хлявінскага) ..."* [11], і 28 сакавіка Чачот піша Міцкевічу: *"Разумееш, не кожны філамат трымаецца дадзенага слова ... каб ведаў, што ксёндз, па сканчэнні маіх кантрактаў 20 сакавіка ледзь у Наваградку паказаўся, здагадаўся бы што ... нічога не атрымаецца. Што за дзіўны, што за дзівосны ксёндз!"*[12] У лісце да Чачота ад 31 сакавіка 1821 г. Міцкевіч выказвае сваё абурэнне Хлявінскім[13].

Застаецца невядомым ці мог Хлявінскі залатвіць гэтую справу, бо ягоная парафія была прыватнага калятарства[14].

Пробашч са Стараельні яшчэ нейкі час падтрымліваў кантакты з таварыствам, пра гэта сведчыць тое, што ён выступіў на паседжанні 7 траўня 1821 г. і даваў свае кнігі філаматам. Аднак адлегласць і занятасць аслабілі сяброўскія сувязі. Тым не менш у 1828-1829 г.г. Хлявінскі разам з Ігнатам Дамейкам перакладаюць на польскую мову для літоўскіх татараў Каран. Упершыню фрагмент гэтага перакладу (1-7 суры) быў выдадзены ў 1848 годзе ў Познані[15]. Дапамагаў перакладаць і рабіў карэктуру тэксту Карана татарын з Падляшша Ян Мурза Тарак Бучацкі (Jan Murza Tarak Buczacki). Гэты пераклад стаў асновай так званага Карана Бучацкага (Koran Buczackiego), які быў выдадзены ў Варшаве ў 1858 г.[16] Для працы над перакладам Карана ў 1828 г. Хлявінскі прыязджаў у маёнтак Заполле пад Лідай, дзе ў той час жыў Дамейка[17].

У 1846 г. ксёндз Хлявінскі стаў пробашчам і дэканам ў Лідзе, дзе і служыў на працягу 20 гадоў.

У 1853 г. Ксёндз Дзіянісі Хлявінскі за свае грошы ахвяраваў Фарнаму касцёлу абраз святога Язэпа ў пазалочанай раме, напісаны жывапісцам Мікульскім. У 1855 г. ён каля плябаніі ўладкаваў мураваны ляднік і ахвяраваў Фарнаму касцёлу драўляны абраз Святога Казіміра ў пазалочанай раме, намаляваны мастаком Мірскім[18].

Перад паўтаннем 1863 г. ствараў на Лідчыне таварыствы цвярозасці. Да канца 1859 г. 39 408 чалавек на Лідчыне публічна, у храмах, прынялі на сябе абавязак устрымлівацца ад ужывання алкаголю. Паўстанец 1863 г. Мірон-Браніслаў Нарбут пісаў, што калі ён пасяліўся ў Лідзе, *"п'янства ўжо амаль не было, але шулерства існавала"*. Сітуацыя асабліва памянялася, калі бурмістрам горада стаў Ян Андрушкевіч - *"чалавек праўдзівы, энергічны і разважлівы"*, а пробашчам і дэканам лідскім - ксёндз Дзіянісі Хлявінскі, ксёндз *"сваімі трапнымі прамовамі навучаў паству ў касцёле і значна паўплываў на падвышэнне маральнасці гарадской супольнасці"* [19].

Рускі афіцэр Любарскі ў сваіх мемуарах, не абходзіць бокам ролю лідскага Фарнага касцёла пры падрыхтоўцы паўстання. Ён расказвае, як аднойчы, у нядзелю зайшоў у Фарны касцёл і замест напалову пустога храма *"тут прысутнічаў літаральна ўвесь горад, нібы на адпуст (храмавае свята). Не могучы растлумачыць сабе гэтую з'яву, я адчуваў, што бесперапынна прыбываюць усё новыя і новыя багамольцы і ўтвараюць суцэльную масу, якая ціснула з усіх бакоў. Тым не менш, я цярпліва пераносіў ціск і задуху, сочачы з цікаўнасцю за ходам імшы, каб параўнаць яе з праваслаўнай"*. Каталіцкая служба скончылася, але людзі не разыходзіліся, і вось *"на высокай кафедры на бакавой сцяне з'явіўся невядомы прапаведнік у сутане капуцына і адразу прыкаваў да сябе агульную ўвагу. Капуцынскага кляштара ні ў горадзе, ні ў суседстве не было; такім чынам, новая асоба з'явілася здалёку. Гэта быў чалавек гадоў пад трыццаць, з паголенай па-манаску галавой, высокі і сухарлявы, апрануты ў тоўстае цёмна-шэрае сукно і падперазаны вяроўкай; на левым запясці - буйныя пацеркі, у выглядзе ланцуга, з вялікім крыжам. Даўгаваты твар, рэзкая зморшчына паміж бровамі, нос гарбінкай, тонкія стуленыя вусны і глыбокія, іскрыстыя вочы, абведзеныя сіняватымі кругамі, - усе гэтыя рысы выяўлялі ў капуцыне розум, энергію, рашучасць. Ён схіліўся над кафедрай як бы ў нямой малітве, потым выпрастаўся на ўвесь рост, абвёў фасфарычным поглядам прысутных, падняў уверх правую руку і загаварыў. Гаворка яго, спачатку ціхая і спакойная, паступовае прымала гарачае адценне, часам прыпадабнялася бурнай хвалі і кідала на слухачоў грамы заклікаў"*. Ксёндз прамаўляў пра Радзіму і да такой ступені меў магнетычны ўплыў на людзей, што *"натоўп, здавалася, гатовы быў рынуцца туды, куды ён пакажа. Дастаткова сказаць, што я, пабочны і выпадковы слухач, мімаволі адчуваў нервовую дрыготку ва ўсім целе, а з масы слухачоў няспынна вырываліся гучныя ўздыхі, і сотні кулакоў шчыра стукалі ў замілаваныя грудзі. Сціісла гэтае палітычнае казанне можна прыблізна фармуляваць так: "Бог пасылае выпрабаванні нават сваім абраным народам. Мы ... заўсёды вызнавалі праўдзівую каталіцкую веру, ... - тую веру, па-за якой няма выратавання чалавечым душам, і тым не менш Богу заўгодна было выпрабоўваць свой ўпадабаны люд, дазволіць каб яго заняволіла варварская і ерэтычная ўлада, якая адняла грамадзянскія правы і свабоду сумлення, усё, што складае самы дарагі і святы здабытак чалавека на зямлі. Мы бясконца доўга і цярпліва пераносілі свае пакуты, і Выратавальнік свету зараз пераканаўся ў непахіснай пэўнасці свайго народа Яго святым запаветам. Слухайце ...! Імем Усемагутнага Бога ўзвяшчаю вам, ... што надышоў канец нашым катаванням. Набліжаецца хвіліна, калі Бог разаб'е вашы кайданы і даруе нам згубленае зямное шчасце. Збавіцель ідзе да нас, і блажэнны той муж, якога ён сустрэне падрыхтаваным. Будзьце ж гатовыя прынесці ўсякія ахвяры на алтар Айчыны; ахвяруйце ўсім, хто чым*



***Касцёл у Асаве***

*валодае, нясіце давераным людзям грошы, рэчы, увесь здабытак, а калі прыйдзе час - жыццё. У імя святога нашага касцёла і дарагой Айчыны бацькі павінны на час адмовіцца ад сваіх сямействаў, мужы ад жонак, мацярэй і дзяцей, нявесты ад жаніхоў, падначаленыя ад свайго начальства і дружна выступіць на справу вызвалення Бацькаўшчыны .... Але гора таму, хто па абыякавасці ці ад страху застанецца ўбаку ад усеагульнага руху. На іх абрынецца з неба гром і ўразіць на смерць без пакаяння, зніч ператворыць у попел усю іх маёмасць, а на тым свеце чакае здраднікаў вечная пякельная пакута. Маліцеся, ды хай Ісус Хрыстос і Маці Божая асвятляюць сэрцы вашыя і накіроўваюць вас на богадагодныя вычыны... На калені!".*

Афіцэр піша, што увесь касцёл, уключна з гараднічым[20] і ўсімі павятовымі ўладамі ўкленчыў, не сталі на калені *"толькі я і адзін з паліцэйскіх, які стаяў наперадзе мяне. Капуцын бліснуў вачамі і ўладна прагаварыў: "Я бачу, што тут, у гэтым святым храме, прысутнічаюць іншаверцы; але ўсё роўна, замаўляю і іх злучыцца ў агульнай малітве, інакш яны адразу панясуць кару Божую". Становішча выйшла крытычнае. .... паліцыянт пачаў уладкоўвацца на калені, ... , а я, скарыстаўшыся гэтай паўзай, прасунуўся за шырокую калону, каля якой стаяў. Ксёндз супакоіўся і зноў працягваў сваю блюзнерскую і абуральную прамову, пратрымаўшы на каленях пакорлівую паству з чвэрць гадзіны". Пры канцы, капуцын выйшаў з алтара "з выразам смутку і стомы на твары і, сціпла патупіўшы вочы, пачаў прабірацца праз натоўп з велізарным падносам на руках. Яго суправаджаў павятовы суддзя*[21] *з запасным падносам, апушчаным уніз. З усіх бакоў працягнуліся рукі, і ахвяраванні багатым дажджом пасыпаліся на паднос прапаведніка: медзякі, срэбра, асігнацыі, нават вельмі буйныя, кашалькі і партманетка з усім змесцівам, бранзалеты, завушніцы, гадзіннікі, адразу ўтварылі такую кучу, што класці больш не было куды. Напоўнены паднос змяняўся запасным з рук суддзі, які адносіў усё сабранае ў алтар і зноў спяшаўся да капуцына з пустым падносам"* [22]. Тут Любарскі, пэўна, каб не ўдзельнічаць у зборы грошай, уцёк з касцёла, таму не пачуў як першы раз ў горадзе там заспявалі новыя песні, *"быццам бы рэлігійныя, але па сутнасці рэвалюцыйнага зместу". Капуцын больш не з'яўляўся ў Лідзе. Але гэта быў "адзін з самых фанатычных эмісараў польскага "жонду". Ён беспрашкодна пераязджаў з горада ў горад, з мястэчка ў мястэчка, усюды прамаўляў свае казанні і збіраў багатыя ахвяраванні. Калі ж успыхнула паўстанне, дык гэта ... (ён) апынуўся ў атрадзе Лелявеля* [23]*, натхняў паўстанцаў з крыжам у руках і, нарэшце, у адной сутычцы быў забіты".*

Аднак Дзіянісі Хлявінскі быў ўзнагароджаны медалём і крыжам за вайну 1853-1856 гг., а ў 1866 г. залатым наперсным крыжам. Такія ўзнагароды ад расійскай ўлады каталіцкім святарам былі з'явай нячастай, і гэта можа сведчыць аб цесным супрацоўніцтве і ўзнімае шэраг пытанняў. Але, магчыма, што гэта праявы працы бюракратычнай машыны, якая карае ці узнагароджвае па свайму плану, не надта паглыбляючыся ў справы.

Да таго ж, нягледзячы на сталы ўзрост, у 1866 г. Дзіянісі Хлявінскі быў пераведзены пробашчам касцёла ў вёску Асава Радуньскага дэканата Лідскага павета. З 1870 г. ён служыць у Эйшышках і ў гэтым жа годзе памірае ва ўзросце 77 гадоў (з іх 54 гады - святарства).

На жаль інфармацыі пра яго працу на Лідчыне і Наваградчыне пакуль больш няма.

Ігнат Дамейка ў сваіх мемуарах называў яго "вельмі руплівым і працавітым святаром" [24].

***Леанід Лаўрэш.***

[1] Філаматы і Філарэты. Мінск, 1998 г. С.7-24.

[2] Czubek Jan. Archiwum Filomatow. T.2. Krak?w, 1922. S.1-33.

[3] Ks. Tadeusz Krahel. Ksiadz filomata. ks. Dionizy Chlewinski, dziekan i proboszcz lidzki. // Ziemia Lidzka. 1998. № 6 (34). S. 9-10.

[4] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Krakow, 1913. S.36. (O kasie napisze ci Szerok, o bibliotece (NB w czerwonej, bejcowanej jak rydz szafie) ksiadz, vicesagens twoj. Jez, jak wiesz, w Szczorsach siedzi i zime przesypia. Mamy nadzieje, ze tlustszy powroci.)

[5] Ильин Александр. Берестейские и свислочские страницы дела № 632// Гістарычная брама. 2001. № 1 (18).

[6] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 1. Krakow, 1913. S.275-276.

[7] Філаматы і Філарэты. Мінск, 1998. С. 225.

[8] Ks. Tadeusz Krahel. Ksiadz filomata. ks. Dionizy Chlewinski, dziekan i proboszcz lidzki. S. 9-10.

[9] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Krakow, 1913. S.193 (*ksiedzicha dostal plebanie owa 40 dymowa*).

[10] Nasze koscioly. Diecezja minska. Dekanat nowogrodzki. T. 2. S.346.

[11] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Krakow, 1913. S.237. (*Powrocil Janko z kontraktow, pisze sam do ciebie; zapewna wiec i o brzydkim postepku ksiedza od niego sie dowiesz. Jez pisal do mnie malo dotad*).

[12] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.239-240. (... rozumiesz, że i F[ilomat] nie każdy danego słowa dotrzyma, zgadłeś, iż ekonomem nie jestem. Jeżeli przypominasz, że pieniędzy Józefowi dałem, a i tak byłem odłużony Masie, jeślibyś wiedział, że cała aręda w Łowczycach makiem siadła, jeślibyś wiedział, jak tam rodzice sobie być dłużej nie życzyli, jeślibyś wiedział, że ksiądz po skończonych kontraktach 20 marca ledwie się do Nowogródka pokazał, zgadłbyś, że ani łowczyckim posesorem, ani żadnym nie jestem, lecz prosto na ledzie osadzonym kątnikiem. Co za dziwny, co za dziwaczny ksiądz!)

[13] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.244. (Domyślisz się, a raczej z góry wiedziałeś zapewne, jak kwaśno i gorzko będę czytał doniesienia o two_ich kontraktach. Wszakże zadziwisz się może, jeśli tobie powiem, żem tego się spodziewał, że nawet chciałem ciebie ostrzegać! Wstrzymałem się z bojaźni, aby moje podejrzenia przesadzone nie były, abyś mię za nieufającego w przyjaźń nie poczytał, zwłaszcza, ie sam siebie łudząc, przedstawiałem bezza[sa]dność krzywdzących względem Dyoniza domysłów. Ale raz jeszcze powiadam, spodziewałem się, że albo ksiądz nie dotrzyma, albo nie tak, jak potrzeba, dotrzyma, i nieraz ciebie obchodzeniem się z twoimi rodzicami zasmuci. Trochę mnie było przykro, że okoliczności zmusiły ciebie do przyjęcia od księdza pomocy. Nazbyt masz dobre o ludziach rozumienie. Pokazać im cały niedostatek jest to poniżać się w ich oczach, a te dusze nigdy przyjaźni od interesu odłączyć nie umieją, a jeśli widzą zyski, nawet powoli szczerymi stają się przyjaciółmi. Trzeba więc z nimi zawsze ostrożnie postępować. Czułem dobrze całą scenę z twoimi rodzicami, wszystkie ich powątpiewania ! Jakaż to boleść, że ludzie prości, których zdania poczytajemy *(s)* za zbyt ziemskie i nic nie znaczące w naszem idealnym świecie, którzy tylko z osobami glinianemi przestawali i do których sposobu myślenia zniżać się nie raczemy, zgadują często i przepowiadają fenomena, które my za niebieskie uważając, sami tylko postrzegać umiemy i sami o nich chcemy decydować. Doświadczyłem sam tego kilka razy i coraz się przekonywam, że takich ludzi, jak jest nas kilku, takich ludzi jest bardzo mało, a takich jak ty, dobry Janie, może mniej jeszcze.)

[14] Ks. Tadeusz Krahel. Ksiadz filomata. ks. Dionizy Chlewinski, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

[15] Jelena Titowiec. Pierwszy przeklad Koranu na jezyk polski. // Rocznik Biblioteki Narodowej T.XXXVI. Warszawa, 2004. S.233.

[16] Andrzej Drozd. Koran staropolski. // Rocznik Biblioteki Narodowej T.XXXVI. Warszawa, 2004. S.245.

[17] Суднік С. Каляндар запольскага перыяду жыцця Ігната Дамейкі (1824-1831 гг.) // Лідскі летапісец. 2002. № 3 (19). С.13.

[18] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymsko-katolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 105.

[19] Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. 1997. № 26-27.

[20] Гараднічы ў Лідзе 1861 г., падпалкоўнік Балонін. Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 110.

[21] Павятовы суддзя ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Фама Іванавіч Шукевіч. (Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 111.), Томаш Шукевіч - адзін з кіраўнікоў паўстання на Лідчыне, павятовы камісар.

[22] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 824-826.

[23] Марцін Мацей Баралоўскі (1829-1863), палітычны і ваенны дзеяч, палкоўнік у паўстанні 1863 г. (мянушка - Лелявель)

[24] Ks. Tadeusz Krahel. Ksiadz filomata. ks. Dionizy Chlewinski, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

# Філамат Ануфры Петрашкевіч

## *Да 225-годдзя нараджэння*

Ануфры Петрашкевіч нарадзіўся 14/26 верасня 1793 г. у фальварку Бурдзюкоўшчына, які належаў Эйсмантам і знаходзіўся на паўднёва-заходняй частцы Наваградскага павета каля вёскі Буйнавічы. Гэта фальварак як месца нараджэння падаў сам Петрашкевіч у анкеце, якую запоўніў, калі ўладкоўваўся на працу ў Люблінскую школу. Але найчасцей родным мястэчкам называў Шчучын, дзе жылі яго маці і сям'я.

Паходзіў з незаможнай шляхты, быў першым сынам Феліцыяна і Вікторыі з Жукоўскіх. Пра дзяцінства Ануфрыя вядома няшмат, вядома, што меў братоў Фелікса, Юзафа, Ігната, Мікалая, Міхала і сёстраў Тарэзу і Кацярыну. Бацька Фелікс Петрашкевіч памёр каля 1801 г., і ўдава Вікторыя Петрашкевіч адна гадавала вялікае сямейства. Каля 1803 г. Ануфры Петрашкевіч пачаў вучобу ў Шчучынскай павятовай піярскай школе[1].

Піяры сваю першую школу ў Рэчы Паспалітай адкрылі ў 1642 г. у Варшаве. Піярскія калегіюмы ў ВКЛ з'явіліся пры канцы XVII ст. Сапраўдны росквіт гэтых устаноў наступіў у нас пасля заканчэння вынішчальнай Паўночнай вайны, пасля 1721 г., і ў 1736 г. утварылася асобная Літоўская правінцыя піяраў. Але яшчэ ў 1718 г. уладальнік Шчучына Ежы Юзафовіч-Глябніцкі запрасіў манахаў-піяраў, каб яны адкрылі школу. У 1726 г. Сойм пацвердзіў заснаванне ў Шчучыне калегіюма піяраў і ўсе фундацыі яму ад Юзафовіча-Глябіцкага і яго дачкі Тарэзы, якая пасля смерці бацькі апекавала калегіюм.

Для піяраў на Лідчыне вызначальнай стала апека магутнага сямейства Сцыпіёнаў дэль Кампа (лідскія старасты, з'явілася ў ВКЛ разам з каралевай Бонай у першай палове XVI ст.), дзякуючы ёй магла выжыць мясцовая фундацыя піярскага калегіюма. Сведчанняў прыхільнасці Сцыпіёнаў да літоўскіх піяраў шмат: жонка смаленскага кашталяна і лідскага старасты Яна Сцыпіёна Тарэза (з Юзафовічаў-Глябніцкіх) не толькі дала грошы шчучынскім піярам, але і рашуча падтрымлівала віленскіх піяраў у іх спрэчцы з езуітамі за права навучання ў Вільні. Сам Ян Сцыпіён запрасіў піяраў у Воранава (1735 г.), яго сын, надворны літоўскі маршалак Юзаф даверыў піярам адукацыю сваіх дзяцей, а ўнук, выхаванец Мацея Догеля - Ігнат Сцыпіён - у 1756 г. размясціў піяраў у горадзе Лідзе (перанёс калегіюм з Воранава). Трэба дадаць, што апека над Шчучынскім калегіюмам не скончылася ў канцы васемнаццатага стагоддзя і працягвалася аж да закрыцця школы пасля паўстання 1831 г.[2]

У піярскай школе Ануфры Петрашкевіч вывучаў лацінскую, французскую і нямецкую мовы, арыфметыку, фізіку і натуральную гісторыю, матэматыку (геаметрыя і алгебра), літаратуру, гісторыю, права, навуку маральнасці. Гэтыя ж прадметы ў гімназіі выкладаліся асобным настаўнікам, а ў павятовых школах, дзе было меней вучняў, яны дзяліліся на групы і адзін выкладчык выкладаў некалькі прадметаў. Усе 8 гімназій Віленскай адукацыйнай акругі былі свецкія, тады як павятовыя вучэльні ўтрымлівалі манаскія ордэны, і настаўнікамі былі манахі, якія самі часта не мелі ўніверсітэцкай адукацыі. Але гэтыя школы давалі добры ўзровень адукацыі і каштавалі значна меней, чым свецкія.

Пасля заканчэння павятовай вучэльні пачаў сваю педагагічную кар'еру, стаўшы ў 1812 г. гувернёрам у Дамейкаў. Захавалася працоўная дамова Петрашкевіча з Дамейкамі:

*"За навучанне, нагляд і пільнаванне трох маіх пляменнікаў Адама, Ігната і Казіміра Дамейкаў, штогод, пачынаючы ад Св. Пятра 29 чэрвеня 1812 г., возьме квартамі заробак у пяцьсот злотых. ... Пан Петрашкевіч з свайго боку абяцае:*

*1. Ці падчас навучання, ці падчас прагулкі, ці дзе заўгодна, ні на крок не адступіць ад дзяцей, заўсёды будзе каля іх.*

*2. Якія б навукі не вывучаліся ў школе, васпан Пертапкевіч на занятках дома будзе іх грунтоўна тлумачыць і асабліва французскую граматыку.*

*3. Акрамя мяне ці майго роднага брата ніхто не можа ўзяць дзяцей.*

*4. Акрамя навук ... даглядаць за здароўем: для гэтага штодня гуляць з імі ... наведваючы памёршага прачытаць над ім пацеры, бедным хай прызвычайваюцца даваць міласціну.*

*...*

*У Шчучыне, 1812 г., 2 чэрвеня, Ігнат Дамейка".*

Невядома, як доўга Ануфры працаваў гувернёрам, але ягоныя вучні - маладыя Дамейкі - яго памяталі. Найбольш да маладога настаўніка прызвычаіўся Ігнат, з якім Петрашкевіч перапісваўся шмат гадоў.

У 1814 г. Петрашкевіч ужо жыве ў Вільні, але часта прыязджае ў Шчучын пагасцяваць.

З 1815 г. пачынае вучобу ў Віленскім універсітэце.[3]

Пасля года навучання і інтэнсіўнай самападрыхтоўкі Ануфры здае экзамены на кандыдата філа-

[1] Cwenk Malgorzata. Onufry Pietraszkiewicz. Biografia zeslanca. Lublin, 2006. S. 27-29.
[2] Куркоўскі Яраслаў. Бернард Сыруць (Сіруць) (1731-1784). Варшава - Ліда, 2009. С. 14., 44.
[3] Cwenk Malgorzata. Onufry Pietraszkiewicz. S. 29-32.

софіі[4]. Разам з ім гэтую ступень атрымліваюць Ян Чачот і Тамаш Зан. Петрашкевіч хацеў працягваць вучобу ва ўніверсітэце, але кафедра філасофіі аказалася вакантнай, і Ануфры пачаў шукаць працу.

З 1818 г. наш зямляк пачынае працаваць у Радзівілаўскай камісіі. Вышэйшая радзівілаўская камісія (1814 - 1838 гг.)[5] пасля смерці князя Дамініка займалася вывучэннем архіваў Радзівілаў і прыняцця пастановы аб канфіскацыі яго ўладанняў.

У 1819 г. Петрашкевіч на некалькі дзён прыязджае ў Варшаву, каб даведацца, ці можна у Варшаўскім універсітэце атрымаць ступень магістра.

Здаўшчы ў жніўні 1819 г. экзамены ў гэтым універсітэце, Петрашкевіч піша заяву з просьбай аб стыпендыі і выязджае ў Шчучын, а потым зноў у Вільню, каб працягнуць працу ў камісіі. У кастрычніку праходзіць ліст, у якім паведамляецца тое, што Петрашкевіч прыняты на вучобу і яму прызначана стыпендыя ў 100 талераў.

Аднак у Варшаве Ануфры вучыцца толькі ў 1820/21 акадэмічны год, а наступны, 1821/22 год, працуе ў школе ў Любліне[6].

Пры канцы ліпеня 1821 г. Петрашкевіч атрымлівае тытул магістра філасофіі Варшаўскага ўніверсітэта, 24 ліпеня ён ужо ў Шчучыне і, адпачыўшы на радзіме, на пачатку верасня зноў едзе ў Варшаву, каб атрымаць месца настаўніка Люблінскай школы.

У Любліне малады магістр мусіў адпрацаваць варшаўскую стыпендыю. У той час гэта быў невялікі горад, але жыццё ў тут было даражэйшым, чым нават у Варшаве. 20 верасня Петрашкевіч атрымаў першы заробак 166 зл. (ф) 20 гр. і зняў кватэру за 12 дукатаў у цэнтры горада, у ўдавы пані Крэнпскай. Яе былы муж, адвакат Крэнпскі, узяў сабе жонку з кляштара, дзе яна адбыла пакаранне за блуд.

Гэты факт выклікаў жарты і досціпы:

- Дзе пасяліўся новы настаўнік? - спытаў рэктар школы.

- У Крэнпскай, - адказаў нехта.

- А, добрае сабе жытло падабраў!

І гэтак далей.

Петрашкевіч гэтак і не змог прызвычаіцца да новага горада, да галоснага звону касцёлаў, да стану яго вуліц, па якіх немагчыма было нават шпацыраваць (З 21 вуліцы горада выбрукаваны былі толькі 9).

Дорага каштаваў мундзір настаўніка, замест 16 у Варшаве тут прыйшлося заплаціць 24 злотыя.

Першапачаткова было вырашана, што малады настаўнік будзе выкладаць старажытную і сучасную геаграфію, натуральную гісторыю і лацінy ў першым класе. Але акрамя таго прыйшлося выкладаць каліграфію, старажытную і сучасную геаграфію ў 4 і 5 класе, фізіку ў 2, батаніку ў 5, гісторыю і заалогію з 1-га па 5-ты класы школы.

У цэлым ягоная педагагічнае дзейнасць у Люблінскай школе ацэньвалася добра, і Ануфры не меў сур'ёзных заўваг.

У рапарце ад 24 чэрвеня 1822 г. "Аб прафесарах і настаўніках Ваяводскай Люблінсккай школы за 1821/22 навучальны год" чытаем: *"Здатны, пільны, працавіты настаўнік"*.

Аднак, чым болей Ануфры жыў у Любліне, тым больш расла ў ім туга па віленскай атмасферы сяброўскіх сустрэч, суменай сяброўскай дзейнасці. У выніку, напісаў заяву на імя рэктара з патрабаваннем узняць заробак ці звольніць яго з пасады і пры канцы ліпеня 1822 г. назаўсёды пакінуў Люблін[7].

З жніўня 1822 г. наш зямляк ізноў у Вільні. З гэтага моманту ён пачынае шчыра працаваць ў Таварыстве філаматаў. Стаў адным з заснавальнікаў Таварыства філарэтаў, распрацаваў структуру Таварыства прамяністых.

Яшчэ ў 1817 г. Ануфры Петрашкевіч разам з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам, Тамашом Занам быў адным са стваральнікаў тайнага Таварыства філаматаў (у перакладзе з грэчаскай мовы "аматараў ведаў"). У пачатку сваёй дзейнасці філаматы ставілі культурна-асветніцкія мэты, вывучалі культуру беларускага, літоўскага і польскага народаў, пазней была распрацавана праграма палітычнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Петрашкевіч з'яўляўся адным з самых актыўных дзеячаў Таварыства філаматаў. Да 1819 г. ён кіраваў 2-й секцыяй таварыства (навукі фізічныя, матэматычныя і медыцынскія), у ліпені-кастрычніку 1819 г. выконваў абавязкі намесніка, з 1819 г. да 2.10.1820 г. - сакратара філаматаў, апекаваў касу (26.6.1818 - 21.10.1820), бібліятэку (да 5.10.1820), архіў таварыства, арганізоўваў многія святочныя ўрачыстасці і цырымоніі, якім філаматы надавалі вялікае значэнне. У 1820 г. распрацаваў структуру Таварыства сяброў карыснай забавы ("прамяністых") - легальнай патрыятычнай арганізацыі студэнтаў Віленскага ўніверсітэта, якой кіравалі філаматы. У сакавіку 1823 г. Петрашкевіч паставіў перад таварыствам пытанне аб утварэнні яшчэ адной арганізацыі - Патрыятычнага звяза, накіраванага супраць рускага царызму. Разам з Міхаілам Рукевічам на Лідчыне, у Шчучыне Петрашкевіч пачаў ствараць мясцовую тайную арганізацыю[8].

[4] Кандыдат універсітэта - першая акадэмічная ступень. Яна (не варта блытаць з сучаснай навуковай ступенню кандыдата навук) прысвойвалася асобам, якія закончылі з выдатнымі адзнакамі курс універсітэта. Ступень кандыдата ўніверсітэта пры паступленні на дзяржаўную службу давала права на чын 10-га класа - калежскі сакратар, што адпавядала армейскаму званню штабс-капітана.

[5] Радзівілаўская камісія (маса), сфарміраваная загадам Аляксандра І ад 6 красавіка 1815 г., павінна была вырашыць пытанне з пазыкамі, якія засталіся пасля смерці князя Дамініка Радзівіла.

[6] Cwenk Malgorzata. Onufry Pietraszkiewicz. S. 33-38.

[7] Там жа. S. 67-92.

[8] Кашэта А.В. Петрашкевіх Ануфрый // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Шчучынскага раёна. Мінск, 2001.

У той час Ануфры Петрашкевіч шмат пісаў. У сваёй паэтычнай творчасці таго часу Петрашкевіч свядома выкарыстоўваў матывы і вобразы вуснай паэзіі беларускага народа, яго звычаі і вераванні. Кастусь Цвірка лічыць паэта адным з першаадкрывальнікаў беларускага фальклору. Ужо ў першых вершах "Вёска", "Беспадстаўная скарга", "Роздум ля развалін замка Гедзімінава", якія былі надрукаваны ў "Віленскім штотыднёвіку" за 1817 год, адчувалася ўлюбёнасць аўтара ў свой край, яго народную творчасць і гісторыю[9].

Надышоў 1823 г., а з ім і віленскі неспакой - следства, арышты. Калі ў кастрычніку 1823 г. пачалося следства па справе філаматаў, Ануфры Петрашкевіч перадаў брату Міхалу (1826-1830) на захаванне архіў філаматаў з пратаколамі паседжанняў, вялікім ліставаннем філаматаў (1819-1823 гг., каля тысячы лістоў), трактаты, паэтычныя творы.

Арышту па справе філаматаў ён пазбег, але ў лістападзе 1824 г. быў высланы з Вільні ў Санкт-Пецярбург, куды выехаў 9 лістапада 1824 г.

Шмат хто з філаматаў знайшоў прытулак у Пецярбургу, але для Петрашкевіча гэты горад стаў толькі кароткім прыпынкам па дарозе ў ссылку. Наш зямляк прасіў месца навуковага супрацоўніка ў Маскоўскім універсітэце ці настаўніка ў Рышэльеўскім ліцэі. Просьба была задаволена, і жніўні 1825 г. ён пасяліўся ў Маскве ў пакоі пры вучэльні (адрас: Універсітэт, 4 паверх, № 15) і быў прыняты на пасаду ад'юнкта для працы ў бібліятэцы.

*"Пераношу кніжкі і раскладваю іх паводле каталогу, шмат пылу ... але не магу наракаць на цяжкасць працы, бо ... я спатыкаючы надпісы "Bibliotheca Radziviliana Niesviensis" ... з дзіўнай радасцю вітаю сваіх землякоў ..."*, - пісаў Ануфры Петрашкевіч.

Праца пакідала месца для вольнага часу, і ён часта сустракаўся з сябрамі, у тым ліку і з Міцкевічам ці дапамагаў Зану ладзіць бібліятэку ў Арэнбургу.

Ануфры думаў, што ў гэтым горадзе давядзецца правесці ўсё жыццё і таму пачаў шукаць працу з больш высокім заробкам. З верасня 1826 г. Петрашкевіч стаў падінспектарам над вучнямі, якія вучыліся за грошы скарбу. З лістапада 1827 г. Петрашкевіч прыняты ў Маскоўскі педагагічны інстытут з заробкам ў 350 руб. Тады ж першы раз сур'ёзна захварэў. Медык Фердынанд Навіцкі сказаў яму: "Твой фізічны стан вызначаецца тваім маральным станам". Зразумела, што ссылка на чужыне маральны стан не паляпшала.

Побыт у Маскве паклаў пачатак супрацы з віленскім букіністам Фрыдэрыкам Морыцам. Букініст прысылаў яму кнігі для продажу ў Маскве: Вальтэра Скота, Купера і інш.

З красавіка па чэрвень 1828 г. Ануфры Петрашкевіч на працягу невялікага часу меў адпачынак на радзіме. Пабачыў маці, наведаў Шчучын, адведаў Дамейкаў у Мядзведцы і ў Заполлі пад Лідай. У лісце да сястры Тэрэзы пісаў: *"Мой побыт на радзіме больш падобны на сон. Але прыходзіць хвіліна прабуджэння, і ўжо хутка трэба будзе зноў быць пахаваным на поўначы. Сёння выязджаю ў Бальценікі ... там думаю пабыць адзін дзень. З Бальценікаў паеду на Навагрудчыну, Асташына не абміну..."*.

Вярнуўшыся ў Маскву, пісаў адтуль: *"Прашу сябе ўявіць, як я сную па Маскве, пагружаны у свае думкі, штотыдзень выходжу на 10 вёрст за горад, каб падыхаць паветрам ... на паштовым тракце, які вядзе ў Літву"*. Але па гасцінцы ў Літву ехалі іншыя, а яму заставалася толькі туга[10].

У Маскве Петрашкевіч ліставаўся з былымі філаматамі, якіх пакаранне раскідала па ўсёй Расійскай імперыі. З Адэсы пісалі Адам Міцкевіч, Францішак Малеўскі, Юзаф Яжоўскі, з Пецярбурга - Тэдор Лазінскі, з Уфы - Ян Чачот, з Арэнбурга - Тамаш Зан, з Беларусі - Ігнат Дамейка, Станіслаў Казакевіч, Антоні Адынец. У Маскве Петрашкевіч працягваў выконваць абавязкі добраахвотнага архівіста Таварыства філаматаў. У 1826 г. ён дапамог Адаму Міцкевічу выдаць напісаныя ў Адэсе і Крыме "Санеты", меў намер выдаць томікі паэзіі Яна Чачота і Тамаша Зана[11].

Пры канцы 1830 г. у Маскве здарылася эпідэмія халеры.

Паўстанне 1830 г. узбудзіла сярод ссыльных патрыятызм. На пачатку 1831 г. у Маскве стварыліся два асяродкі: звяз Сунгурава і група студэнтаў і афіцэраў. Арганізацыя Сунгурава налічвала 9 чалавек, з якіх 7 былі звязаны з універсітэтам.

Заснавальнік Мікалай Сунгураў, шляхціц, выпускнік Маскоўскага ўніверсітэта. Як ні дзіўна, сябры яго звязу пачалі рыхтаваць у Маскве пераварот, бо мелі надзею на падтрымку Літоўскага корпуса, які ў той час дыслакаваўся ў Маскве. Петрашкевіч ведаў настроі землякоў, але да канца не вядома, у якой ступені ён прымаў удзел у звязе Сунгурава.

Улады даведаліся пра планы паўстанцаў. 19 чэрвеня наш зямляк быў арыштаваны. На ягонай кватэры зрабіліператрус і сярод папер ссыльнага, знайшлі некалькі ананімных вершаў "антырасійскага" зместу. Гэтага хапіла, каб ваенны суд 17 лістапада 1831 г. прыгаварыў Ануфрыя Петрашкевіча да смяротнага пакарання (верагодна, гэта лічылася тым жа, што і пакаранне смерцю, але ў Сібіры былі патрэбны людзі). Потым вырак змянілі і адправілі на пасяленне ў Сібір з пазбаўленнем шляхецкага звання. Разам з іншымі ссыльнымі яму прыйшлося прайсці пешшу 3,5 тысячы кіламетраў да месца пасялення.

4 ліпеня 1832 г. Ануфры Петрашкевіч быў у Табольску. Тут ён жыў ажно да 1860 г. - да хвіліны, калі атрымаў дазвол вярнуцца дахаты.

Першапачаткова, пасля жахаў расейскай дарогі ў тысячы вёрст, у Табольску Ануфрыя ахапіла апатыя

---

9 Гл: Станкевіч С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі: III. Ян Чачот. IV. Ануфры Петрашкевіч і Тэдор Лазінскі // Спадчына. 1999. № 1. С. 79 - 135.

10 Cwenk Magdorzata. Onufry Pietraszkiewicz. S. 42., 117-128.

11 Кашэта А.В. Петрашкевіч Ануфрый. С.

аднак побыт у гэтым горадзе не стаў часам роспачы. Вера дазволіла перацярпліваць самыя цяжкія хвіліны.

Пра яго шляхетнасць і моц характару пісала ў сваіх успамінах ад 2 чэрвеня 1839 г., заручоная з ім Ева Фялінская, маці Зыгмунта Шчэнснага, пазнейшага варшаўскага арцыбіскупа:

*"... была сведкам, як Петрашкевіч, не маючы грошай, бо жыў выключна з сваёй працы, заціснуты цяжкасцямі жыцця, умеў аднак быць карысным людзям: парадай, паводзінамі, асабістымі паслугамі, і нарэшце, проста торбай прадуктаў. Жывая шляхетнасць, абмежаванне ўласных патрэб і гатоўнасць дапамагчы былі ягонымі адметнымі рысамі"*

Гады жыцця ў цяжкім клімаце Сібіры прычыніліся да артрыту - хваробы, на якую ён пакутаваў. З 1839 г., пачалі ўзмацняцца і рэўматычныя болі.

Каб мець сталы даход, акрамя тых невялікіх грошай якія плаціла дзяржава, з кастрычніка 1832 г. Петрашкевіч пачаў даваць прыватныя ўрокі французскай мовы сыну і дачцэ рускага генерала. Але ў 1839 годзе яму забаранілі выкладанне.

Ануфры імкнуўся стварыць бібліятэку для ссыльных і падтрымліваў сувязь з сваім сябрам Міцкевічам, які тады жыў у Парыжы. Міцкевіч пісаў Ігнату Дамейку: *"Петрашкевіч у Табольску - гэта бібліятэкар, ён пільна збірае нашы кнігі і брашуры".*

У чэрвені 1833 г. нейкім Іванам Высоцкім улады былі праінфармаваны пра падрыхтоўку паўстання сярод ссыльных палякаў. Мэтай паўстання, як быццам, было заняцце Тары, Омска і Іркуцка, пасля чаго паўстанцы рушылі б у Азію[12].

Петрашкевіч павінен быў ведаць пра гэтыя планы. Але ці ўдзельнічаў ён у падрыхтоўцы паўстання - невядома. Царскія чыноўнікі ў Сібіры самі не жадалі розгаласу гэтай справы, бо баяліся, што іх абвінавацяць у адсутнасці пільнасці, і таму Петрашкевіч пазбег пакарання.

Жыццё яго ішло сваім нармальным ходам: хрэсьбіны, шлюбы, пахаванні - у натуральны спосаб адмяралі час. Быў адным з ініцыятараў пабудовы касцёла ў Табольску, для якога ў 1846 г. удалося купіць дрэва.

Далей справы рухаліся хутка: у жніўні 1847 г. касцёл быў вымураваны і накрыты бляхай. 10 лютага 1848 г. высвечаны, і адбылася першая імша. Ссыльныя прасілі ў магілёўскага[13] арцыбіскупа прыслаць ксяндза на-стала.

8 верасня 1856 г. у Табольск прывезлі царскі маніфест, які рабіў вольнымі ўсіх сасланых з 1825 г. і вяртаў усе тытулы і прывілеі. Неабходная ссыльным Табольская бібліятэка, з кнігамі на польскай і французскай мовах, знаходзілася пад апекай Ануфрыя Петрашкевіча. Кнігі для выгнаннікаў дасылалі практычна ўсе сябры і родныя. Найбольш папулярнымі былі раманы Ігната Крашэўскага. Вялікай цікавасцю карысталіся кнігі па гісторыі Міхала Балінскага і вершы



***Ануфры Петрашкевіч каля 1863 г.***

Міцкевіча.

Аднак, пасля 35 гадоў выгнання табольскі бібліятэкар вяртаўся ў Вільню.

Пры канцы чэрвеня 1860 г. Петрашкевіч пакінуў Табольск і прыехаў у Вільню ў канцы ліпеня. Маці і два браты - Ігнат і Міхал - ужо памерлі. Ануфры пісаў пра чужую для яго Вільню: *"Усё тут змянілася, новае пакаленне мне чужое, блізкія майму сэрцу ці спяць у магілах ці ў эміграцыі".*

Стары ссыльны пасяліўся ў доме брата Юзафа. На некалькі дзён выязджаў на вёску да родных. Апошнія гады жыцця пасвяціў упарадкаванню матэрыялаў архіва філаматаў, які захаваўся, дзякуючы яго стараннем. Архіў захоўваўся на вёсцы ў брата Міхала, і Ануфры забраў яго да сябе ў Вільню. Шмат працаваў з гэтымі паперамі, але пад канец 1862 г. яго здароўе моцна пахіснулася.

У апошні год свайго жыцця пісаў Ігнату Дамейку:

*"Толькі што сярод сяброў апошні раз вячэраў у Заполлі ... а ўжо ў палове чэрвеня 1831 г. сядзеў у сакрэтным пакоі жандарскіх кашараў, а ў лютым*

[12] Cwenk Malgorzata. Onufry Pietraszkiewicz. S. 42., c. 129-166.

[13] Усе каталіцкія парафіі ўласна Расіі, ад Пецярбурга да Уладзівастока, падпарадкоўваліся магілёўскаму арцыбіскупу. Магілёўская арцыдыяцэзія па плошчы была самай вялікай каталіцкай дыяцэзіяй у свеце.

*1832 г. у поўкажушку, з воркам за плячамі вандраваў у Сібір на пасяленне. 4 ліпеня прыбыў у Табольск. Тут пракурор аб'явіў, што па загадзе генерал-губернатара Вільямава мяне пакідаюць у Табольску.*

*Тут сустрэў некалькі землякоў і графа Машынскага з Валыні, якія патрапілі сюды па справе 14 снежня. Іх вызвалі ў 1834 г., і яны пакінулі мне французскія кніжкі, а польскія перадалі касцёлу, якога яшчэ не было ў Табольску. Падалі просьбу дазволіць пабудаваць касцёл і ў 1848 г. атрымалі дазвол на малы драўляны касцёл і дом для ксендза, які прыязджаў з Томска ... .*

*Першыя гады сродкі, каб жыць атрымліваў, даючы ўрокі па 50 грошаў за гадзіну. Потым палітычным ссыльным забаранілі даваць урокі і на ўтрыманне прызначылі для кожнага 200 рублёў асігнацыямі. Прыйшоў 1841 г. ... - некаторыя з ссыльных атрымалі дазвол вярнуцца дахаты, а мне дазволілі паступіць на службу. Таму мусіў па 12 гадзін у дзень працаваць у бюро, 14 гадоў працаваў канцылярыстам. Зарабляў 900 рублёў у год асігнацыямі. Даслужыўся да губернскага сакратара і ў чэрвені 1860 г. развітаўся са службай. Як узнагароду атрымаў гадавую пенсію 42 руб. 45 кап. серабром ...".*

Апошні год жыцця Петрашкевіч хварэў. Пагаршэнне стану наступіла ў снежні 1862 г. Памёр 25 лістапада 1863 г.[14]

***Леанід Лаўрэш.***

***З творчасці А. Петрашкевіча***

**РОЗДУМ КАЛЯ РУІНАЎ ЗАМКА ГЕДЗІМІНАВАГА**

Упала цёмная заслона
Начы на ціхія разлогі,
Пасе на прастрані замглёнай
Чароды зор пастух двухрогі.

Траву прывялую наўкола
Расяны ажыўляе холад.

Застылі дрэвы - нібы вежы
Вяршыні ўзнеслі да вышыняў,
Разносіць лёгкі ветрык свежы
Пах жыта, флёксаў ды вяргіняў.

А ўнізе Вілія бруіцца,
Паміж кустамі серабрыцца.

Я на гару, што ў змроку тоне,
Іду, задуманы, паволі.
Даўней, да слаўнае Пагоні,
Што бараніла ад няволі,

Ліцвін вось тут любой парою
Ваўкоў ды тураў клаў стралою.

Калі ж сюды чужынец хцівы
Хадзіць пачаў з крывавым мечам,
І бой кіпеў штораз жахлівы,
Звінела тут за сечай сеча,

Тады між дрэў да хмараў самых
І вырас гэты думны замак.

Плылі стагоддзі. Пад гарою
Сталіца велічная ўстала.
Пры замку тым ліцвін са зброяй
Стаяў, выглядваў з-пад забрала.

Ішлі чужынцы. Безліч легла
Галоў іх перад гэтай цэглай.

Гербы, высокія штандары
Ды зброя замак аздаблялі.
Калі ж здалёк цяжкія хмары
Плылі, бой новы прадвяшчалі,

Зной ажывалі сцены тыя,
Блішчалі там шчыты стальныя.

Цяпер пад месяцам бязмоўным
Тут здань хіба ў кустоўі ходзіць,
І крык савы, адчаю поўны,
Жах на цябе і сум наводзіць.

Жывой душы між дзіўных ценяў
Тут не сустрэнеш - запусценне.

Як час усё наўкол мяняе!
Раку высушвае паволі,
Узгоркі страшныя раўняе,
Ператварае ў багну поле.

Часы прайшлі, і ўжо ў руінах
І грозны замак Гедыміна.

Калісь ваяк крыжацкіх стругі
Тут хвалі пенілі рачныя.
Край бачыў ворага кальчугі,
Яго гарматы агнявыя.

На крэпасць смерчам невядомым
Ляцеў агонь нястрымны з громам.

І пачынаўся бой няроўны.
Бясстрашна біліся ліцвіны.
Але агонь з бартоў раптоўны
Змятаў іх мужныя дружыны.

Пасля чужак нелітасцівы
Край пляжыў, нішчыў вёскі, нівы.

[14] Cwenk Malgorzata. Onufry Pietraszkiewicz. S. 42., c. 166-191.

Ды той разбой, разгул, пажары,
Руіны вёсак, попел хатаў.
Па ўсім распальвалі амбары
Святую помсту, гнеў сарматаў.

І прысягалі сёлы - з краю
Гнаць крыжакоў, знішчаць іх зграю.

Вастрыў наш люд употай зброю
І, перакрыўшы плынь рачную,
Кідаўся трушчыць грамадою
Крыжацкіх стругаў немач злую.

У ход ішлі ў святым памкненні
Сякера, доўбня і паленне.

А потым меч ліцвіна грозны
З яго палёў, з усёй краіны,
Гнаў аж пад полюс той марозны
Чужынцаў хіжыя дружыны -

Каб зноў ісці араць у поле,
Сваю шукаць у працы долю.

Прабеглі так вякі, як хвілі,
Ды люд, ад чужака свабодны,
Уладзе ўласнай, зброяй сіле
Дарма даверыў край свой родны.

Ён ад нягод, ад звад гняўлівых
Здабычай стаў суседзяў хцівых.

Лёг пад мяжу ліхой навалы
Вялікі мужны род славянаў.
Ды хоць па краі заняпалым
У кожным сэрцы ные рана,

Не згасне вера: продкаў слава
Нашчадкам будзе ззяць яскрава.

Ужо не ўбачыш тут нідзе ты
І следу гмахаў Ягелона.
Так час сатрэ мой замак гэты,
Схавае ўсё ў зямное лона,

Ды толькі сцерці немагчыма
Любові да цябе, Радзіма.
1817 г.

*Пераклад з польскай мовы Кастуся Цвіркі.*

---

# Іншыя лідскія філаматы

Паўстанец 1863 г. і аўтар цікавейшых лідскіх успамінаў XIX ст. Мірон Браніслаў Нарбут пісаў: *"Помню, як нейкі час у Лідскім павеце жыў Тамаш Зан - заснавальнік Таварыства прамяністых, якое аб'ядноўвала выдатных лідзян: Ксаверыя Турскага, Ваўжынца Путкамера (мужа апяванай Міцкевічам Марылі), Тэадора Нарбута, Аляксандра Карловіча, Алаіза Бародзіча і інш"* .[1]

Біяграфіі двух вядомых лідскіх філаматаў друкуюцца ў гэтым нумары "Летапісца", пра Ваўжынца Путкамера, Тэадора Нарбута і Аляксандра Карловіча я пісаў раней[2], а ў гэты артыкуле паспрабую трохі расказаць пра тых нашых землякоў, пра якіх практычна ніхто не пісаў, і таму вядома пра іх няшмат.

**Ксаверы Турскі.** У спіску асоб, што належалі да Таварыства філарэтаў, які ў 13 траўня 1824 г. склала расейскай следчая камісія, пададзена, што Ксаверы Турскі мае 22 гады ўзросту і валодае маёнткам ў Лідскім павеце[3]. Адсюль бачна, што нарадзіўся ён ў 1802 ці 1801 г.

З 1782 па 1870 г. Турскія на Лідчыне валодалі маёнткам Парадунь з вёскамі Сушышкі, Навасады, Мелявічы - 1460 дзесяцін, 104 дымы[4].

Філамат Ксавер Турскі уваходзіў у секцыю фізікаў і матэматыкаў[5] (czlonek grona Rozowego - fizycznego)[6]. Відочна, Ксавер быў студэнтам Віленскага ўніверсітэта. Пасля пачатку следства па справе тайных таварыстваў 15(27) лістапада 1823 г. разам з 13 іншымі

---

[1] Narbutt Mirona Bronislaw. Lida i powiat Lidzki z przed stu laty // Ziemia Lidzka. 1997. № 26-27.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Род Путкамераў // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 5. 2013. С. 302-313.; Лаўрэш Леанід. Тодар Нарбут - папулярызатар найноўшых дасягненняў прыродазнаўства // Лідскі Летапісец. 2014. №4 (68). С. 12-13.; Лаўрэш Леанід. Ян Карловіч // Лідскі Летапісец. 2016. № 3 (75). С. 11-13.

[3] К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819 - 1823 гг. Варшава, 1898. С. 86.

[4] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 209.

[5] Таварыства філарэтаў складалася з чатырох секцый - фізікаў і матэматыкаў, юрыстаў, літаратараў, медыкаў. Секцыі дзяліліся на гурткі, якія мелі назвы колераў вясёлкі. Сходы секцый праходзілі двойчы ў месяц.

[6] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 4. Krakow, 1913. S. 272.

студэнтамі быў арыштаваны і пасаджаны ў кляштар дамініканаў[7]. 2(14) снежня 1823 г. ініцыятар працэсу супраць студэнтаў, папячыцель Віленскай вучэбнай акругі М. М. Навасільцаў[8] паведамляе цэсарэвічу (брату цара) Канстанціну ў Варшаву пра адшуканне і арышт сярод іншых і Турскага[9]. 19(31) снежня брат Ксаверыя - Аляксандр Турскі просіць выпусціць яго з турмы і атрымлівае адмову ад самога Навасільцава[10]. Пры канцы красавіка 1824 г. адбылася вочная стаўка паміж Адамам Міцкевічам і Ксаверам Турскім[11].

Пад суд было аддадзена 108 удзельнікаў студэнцкіх арганізацый - гэта быў найбуйнейшы палітычны працэс у Еўропе таго часу. Дваццаць чалавек увосень 1824 г. былі асуджана да турэмных тэрмінаў з наступнай высылкай (Тамаш Зан, Адам Сузін, Ян Чачот і інш.) ці высланыя ўглыб Расеі (Адам Міцкевіч, Ануфры Петрашкевіч, Восіп Кавалеўскі і інш.)

Здаецца, Ксаверы Турскі не быў моцна пакараны. Наступны раз мы сустракаем яго сярод удзельнікаў паўстання 1831 г. Разам з часткай войска паўстанцаў ён быў інтэрнаваны ў Прусіі, пасля чаго маёнтак Парадунь канфіскуюць улады. Але праз нейкі час былога філамата памілавалі і вярнулі маёмасць[12].

У 1844 г. маёнтак Парадунь належаў Ксверыю Турскаму, сыну Яна і ягонай жонцы Эміліі з Юндзілаў[13] . Ксаверы і Эмілія мелі сына Яна і ўнука, таксама Ксаверыя. Падчас паўстання 1863 г. Ксаверы-ўнук з'яўляўся студэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта і ва ўзросце 20 гадоў уступіў у аддзел Людвіка Нарбута на Лідчыне. Пасля задушэння паўстання быў высланы ў Сібір[14].

А дзед Ксаверы Турскі да паўстання працягваў гаспадарыць у маёнтку Парадунь Лідскага павета. Паўстанцы ўзялі ў яго маёнтку каня, харчовыя запасы, разам з імі пайшоў ваяваць аканом маёнтка. Расейскімі ўладамі Турскі быў западозраны ў дапамозе паўстанцам, яго маёмасць, на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 г. і пастановы Віленскага губернскага праўлення ад 23.07.1863 г., падлягала секвестру[15]. Як я ўжо пісаў вышэй, свой маёнтак Турскія страцілі ў 1870 г.

Вось і ўсё, што мне ўдалося знайсці пра гэтага чалавека.

Пра **Алаіза Бародзіча** нічога знайсці не ўдалося, гэтае імя не ўзгадваецца ні ў адной з грунтоўных прац пра справе віленскіх таемных таварыстваў.

Кніга "К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819 - 1823 гг." узгадвае лідзяніна: *"Мікалай Радкевіч, 27 гадоў, з Лідскага павета, ніякай маёмасці не мае"* [16]. Але прозвішча гэтага чалавека не сустракаецца больш ні



***Міхал Рукевіч***

ў якіх працах пра філаматаў, і таму можна выказаць здагадку, што размова ідзе пра філамата Міхала Рукевіча, які разам з Ануфрыем Петрашкевічам у 1821 - 23 гг. ствараў Звяз грамадзян у Шчучыне[17]. Міхал Рукевіч нарадзіўся каля Беластока.

***Леанід Лаўрэш.***

---

[7] Borowczyk Jerzy. Rekonstrukcja procesu filomatow i filaretow 1823-1824: historia sledztwa przeciw uczestnikom konspiracji studenckich i mlodziezowych w Wilnie oraz w Wilenskim Okregu Naukowym. Poznan, 2003. S. 324.

[8] Руск. Новосильцов Николай Николаевич (1761 - 1836).

[9] Borowczyk Jerzy. Rekonstrukcja procesu filomatow i filaretow 1823-1824: historia sledztwa przeciw uczestnikom konspiracji studenckich i mlodziezowych w Wilnie oraz w Wilenskim Okregu Naukowym. S. 356.

[10] Там жа. S. 379.

[11] Там жа. S. 689.

[12] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 4., Мінск, 1979. С. 121-122.

[13] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki, oszmianski i wilenski. Warszawa, 2016. S. 209.

[14] Malewski Czeslaw. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. Powiaty lidzki ... . Warszawa, 2005. S. 53.

[15] Матвейчык Д.Ч. Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў біяграфічны слоўнік. 2016. С. 575.

[16] К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодёжи в 1819 - 1823 гг. Варшава, 1898. С. 89.

[17] Borowczyk Jerzy. Rekonstrukcja procesu filomatow i filaretow 1823-1824: historia sledztwa przeciw uczestnikom konspiracji studenckich i mlodziezowych w Wilnie oraz w Wilenskim Okregu Naukowym. Poznan, 2003. S. 768.

***Яраслаў Куркоўскі***

# Піяры ў Воранаве і Лідзе (1735 - 1845)

Гісторыя піярскіх калегій у Воранаве (Веранове) і Лідзе - добры прыклад цяжкіх лёсаў малых рэлігійных і асветных асяродкаў, адкрытых на абшары беднай Літоўскай піярскай правінцыі.

Падаецца, што ў літоўскіх варунках поспех фундацыі залежаў у значна большай ступені, чым у Кароне ад заангажаванасці, матэрыяльнага статусу і значэння роду, які падтрымліваў піяраў. У выпадку Воранава, Ліды, як раней таксама і Шчучына ролю фундатараў і дабрачынцаў адыгралі Сцыпіёны дэ Кампа, якія сталі тым самым на Літве пратэктарамі ордэна на ўзроўні, параўнальным з Любамірскімі ў Кароне. Варта дадаць, што апека Сцыпіёнаў не абмежавалася толькі перыядам заснавання. Так, напрыклад, да канца існавання калегіюма ў Шчучыне знаходзім сляды зычлівасці таго роду для тамтэйшых піяраў: напрыклад, пра здароўе вучняў клапаціўся надворны лекар "Я. в. стараставай Сцыпіёнавай", у 1821 годзе адзін з канвіктараў утрымліваўся за сродкі Сцыпіёнаў[1]. Сцыпіёны на грунце сваёй "устаўной бытнасці" сачылі таксама за адпаведным узроўнем навучання ў шчучынскай школе. Прадстаўнікі гэтага роду італьянскага паходжання, якія аселі ў Рэчы Паспалітай у часы каралевы Боны, не абмяжоўлі сваю пратэкцыю толькі піярскімі цэнтрамі праз іх фундаванымі, ці размешчанымі ва ўласных землях. Так, напрыклад, у 1742 годзе Тарэса з Глябіцкіх Сцыпіён, кашталянава Смаленская, вельмі заангажавалася на баку віленскіх піяраў у іхняй спрэчцы з Віленскай Акадэміяй за выключнае права на навучанне - адзін з выракаў (пяты) асэсарскага суда ў той справе прыгаварыў яе нават да выгнання і пазбаўленне гонару з нагоды падбухторвання піяраў да супраціву[2]. Трэба дапоўніць, што ў нейкай ступені тая віленская справа была звязана таксама з лёсам воранаўскай фундацыі. Падаецца, што гэта якраз у выніку паспяховых дзеянняў езуітаў, скіраваных супраць адкрыцця новых школ у Вільні і ў непасрэдным суседстве з ёю, паўплывала на рашэнне, і Сцыпіёны перавялі піяраў з Воранава ў Ліду. Факт пераносу, існаваўшага ўжо звыш 20 гадоў піярскага кляштара ёсць прычынай, што гісторыі абодвух гэтых цэнтраў мелі выключны характар і складаюць сёння цікавую тэму для сучаснага даследчыка.

Нажаль, да нашага часу дайшло адносна няшмат пісьмовых крыніц, якія датычылі піярскіх калегій у Воранаве і Лідзе. Нельга, канешне, выключыць, што нейкія істотныя матэрыялы хаваюць яшчэ літоўскія архівы і бібліятэкі. Трэба, аднак, сказаць, што ўжо ў XIX стагоддзі захаванасць кляштарнага архіва была дрэнная. Як вядома, ордэнскія прадпісанні абавязвалі піяраў для вядзення ў паасобных калегіях розных кніг. Для даследчыка гісторыі калегій асаблівую вартасць звычайна мае гісторыя Дому, дзе мы знайходзім не толькі шматлікія факты з кляштарнага жыцця, але таксама і правінцыі, ордэна і, нават, краёвыя палітычныя здарэнні, якія запісваў законнік (манах), прызначаны рэктарам Дома. Такой "Гісторыі" Лідскага асяродка няма, была згубленая ўжо, зрэшты, у I палове XIX ст. Апошні перад ліквідацыяй кляштара лідскі рэктар Ёзафат Вайшвіла ўспамінаў пра гэта наступнае: *"Быў нават зверху прызначаны гісторык, абавязкам якога было пісаць "Гісторыю Дома", але я такой не знайшоў: можа нехта пазычыў для скарыстання з яе; і пераходзячы з рук у рукі недзе ўгразла і не вярнулася туды, адкуль выйшла"*[3]. У воранаўскі перыяд "Гісторыю Дома" пісалі 7 манахаў, у лідскі перыяд - 23[4]. Былі гэта, як правіла, настаўнікі старэйшых класаў, якія выконвалі таксама адпаведныя фінансавыя функцыі ў кляштары (г. зв. *rationalista*, *depositarius* або *expensor*). Сярод іхняга кола знайходзім шмат раней-

[1] Пар. рапарты пра стан шчучынскай школы за 1803 і 1821 г., якія знайходзяцца ў матэрыялах Людвіка Хмая, rkps Arch. PAN III-76 nr 58, k. 30, 149. Не трэба блытаць канвіктараў, якія ўтрымліваліся Сцыпіёнамі, з канвіктарамі з запісу Храптовічаў (ад 1805 г.). У 1801 г. Кароль Літавор Храптовіч, стараста гарадзенскі, прызначыў 2 000 зл на ўтрыманне і адукацыю 10 вучняў у школе ў Гародні. У 1805 г. гэты фундуш перанесены ў Шчучын. Выбар вучняў быў даручаны ў той час сям'і Барэцкіх. Пар. Spis uczniow w Grodzienskiej gubierni, Poznan 1885, s. 20. Сборник материалов для истории просвещения в России. Т. 2. Учебные заведения в западных губерниях 1802-1804, С. Петербург 1897, с. 610-611.

[2] W. Szulc, Spory Akademii Wilenskiej z pijarami o wylaczne prawo na szkoly 1723 - 1753, "Ateneum Wilenskie" 1939, z. 1, s. 133.

[3] Wspomnienie Domku Pijarow Lidzkich. Napisal Ks. Jozafat Wojszwillo Ostatni Rektor Pijarow Lidzkich, rkps B. Ossolinskich 3667/III mf BN 8804, s. 51 [далей цытаванне Ё. Вайшвілы]. За зварот увагі на гэты рукапіс дзякую праф. Тадэвушу Бянькоўскаму.

[4] Апрацавана на падставе рукапісу Ё. Вайшвілы. B. Ossol. 3667/III (mf BN 8804), s. 167-192.

Вераноў: 1742/43 - Кароль Седлікоўскі, 1744/45 - Алексы Палашэўскі, 1745/46 - Ігнацы Сабаньскі, 1746/47 - Яцак Залескі, 1747/48 - Гіпаліт Жагліцкі, 1752-1756 - Антоні Астроўскі, 1757/58 - Аляксандр Хлявінскі.

Ліда: 1756/57 - Юзаф Віславух, 1757/58 - Дамінік Грабоўскі, 1758/59 - Людвік Любаньскі, 1759/60 - Пётр Вярхоўскі, 1760/61 - Мікалай Тупальскі, 1761-1766 - Аляксандр Вольмер, 1766/67 - Ян Яцуніч, 1768/69 - Марцін Бразіцкі (Бжазіцкі), 1769/70 - Ян Пажэрскі, 1771/72 - Антоні Мікуцкі, 1772/73 - Андрэй Свіршчэўскі, 1773/74 - Міхал Харкевіч, 1774-1776 -

шых ці пазнейшых рэктараў ці віца-рэктараў калегіюма, як напрыклад, Гіпаліта Жагліцкага, Антонія Астроўскага, Аляксандра Волмера, Ваўрынца Адамовіча, Дыянізія Гурыновіча[5]. Ужо гэты пералік прозвішчаў людзей вельмі важных, як вядома, у справах калегій у Воранаве і Лідзе сведчыць пра тое, што функцыя гісторыка Дому ўспрымалася з усёй павагай, і яна складала адну з прыступак кар'еры ў рамках паасобных піярскіх асяродкаў. Характэрным з'яўляецца таксама, што на пачатку XIX ст., разам з аслабленнем дысцыпліны ўнутры Лідскага калегіюма, матэрыяльнымі цяжкасцямі і клопатамі, звязанымі з расквятараваннем войскаў у кляштарных будынках знікла функцыя гісторыка Дому. Апошнім, запісаным у пераліку "асобаў згуртавання", манахам, які выконваў тыя функцыі ёсць Аўгустын Вярсоцкі, які пісаў гісторыю Дому ў 1803/04 школьным годзе. Таму нічога дзіўнага, што ў такіх умовах кніга, якая праўдападобна не вялася з таго часу, загінула, і ў 1835 г. Вайшвіла не мог яе ўжо знайсці.

Асабліва мала дакументаў датычыць воранаўскага перыяду. Існаванне піярскага асяродка ў Воранаве было забыта ўжо ў першай палове XIX ст. Калі названы раней рэктар Вайшвіла ўспамінаў у 1840 годзе пра воранаўскіх піяраў *"слыннаму ў тамтэйшых ваколіцах суседу графу Ваўрынцу Путкамеру"*, той нязмерна здзівіўся. Адзіны след бытнасці піяраў у тым мястэчку ўяўляў у той час алтар Св. Юзафа Каласантага ў воранаўскім касцёле НПМ Ласкавай[6]. Сярод багатай дакументацыі дзейнасці школы, спіс якой завярае рапарт з 1804 г. (кніга для запісу вучняў, пратаколы генеральных візітацый, кніга ўказанняў візітатараў, рапартаў у Галоўную школу, кніга месячных рапартаў ад дырэктараў, кніга экзаменацыйных запісаў, штодзённы вопіс спецыяльных здарэнняў і выпадкаў, гісторыя дамовых абрадаў[7] да нашых часоў датрывала адзіная тая апошняя. Захоўваная на сёння ў Архіве піяраў правінцыі Польскай у Кракаве *(Col. Lid. 1)* з пэўнасцю тая самая з экземплярам, пра які перад II Сусветнай вайной Міхал Шымялевіч успамінаў: *"Выпадкова была ўратавана ад знішчэння ў часе вайны захоўваная ў архіве гарадской школы арыгінальная кніга ўхвал рады за 1788-1816 з загалоўкам "Гісторыя ўнутраных спраў"*[8]. Што цікава, пра кнігу тую можам падаць яшчэ адну інфармацыю, а менавіта можам высвятліць, пры якіх акалічнасцях пачалі яе весці. Ота Ян Эрдман, пасланнік Камісіі нацыянальнай адукацыі, візітуючы ў 1788 г. Ліду, указаў мясцовым піярам недахопы ў школьнай дакументацыі, і, як прыклад, якраз адрэвізаваная папярэднім візітатарам кніга "ўнутраных спраў"[9]. Адразу пасля таго ўспаміну заведзена кніга: візітацыя мела месца 14 траўня, а першы запіс у кнізе стаіць пад датай 17 чэрвеня.

Непазбежныя страты сярод кляштарных архіваў маглі паўстаць падчас шматлікіх - у канцыXVIII і пачатковым дзесяцігоддзі XIX ст. - праходаў вайсковых аддзелаў, якія неаднакратна размяшчаліся ў піярскіх будынках. Істотную ролю адыграў таксама пажар у 1845 г., пра які Вайшвіла ўспамінае, што амаль нічога з калегіюма не здалелі ўратаваць, а два манахі, якія з ім жылі ледзве выбраліся жывымі[10]. Нельга аднак прамаўчаць пра балаган, які панаваў у архіве яшчэ перад пажарам, а таксама пра нестараннасць у вядзенні дакументацыі. Так, напрыклад, вядома, што ў лідскай *Liber suffragiorum* у часы Вайшвілы апошні запіс датычыў рэктара Себасцяна Дамброўскага (+ 1819)[11], далей той кнігі не вялі. Нягледзячы на намаганні, не ўдалося апошняму рэктару знайсці ў архіве хоць якіх слядоў кіравання (як і некралогу) рэктара Юзафа Скаўронскага (1682-1768, рэктар у Веранове ў 1745-47) ці рэктара Казіміра Яблонскага (1723-1782, рэктар у Лідзе ў 1767-1768)[12]. Кніга ўнутраных спраў утрымоўвае таксама шматлікія белыя плямы. Часам такія белыя плямы ўзнікалі ў выніку дзейнасці свайго роду цэнзуры, як, напрыклад, у выпадку кнігі "спецыяльных здарэнняў", якая мела вырваныя лісты, якія датычаць падзей 1794 года[13]. Звычайна ў кляштарных архівах асаблівым клопатам атачалі дакументы фінансавыя, уласнасцевыя, а таксама акты судовыя, патрэбныя для бягучых працэсавых дзейнасцяў у справах маёмасці, якіх кляштарам ніколі не бракавала. І ў той перыяд багацце лідскага архіва мусіла быць недастатковым, паколькі Вайшвіла не патрафіў высветліць, адкуль узяліся фундушы на найвялікшую гандлёвую здзелку лідскіх піяраў, г. зн. на пакупку маёнтка Пастаўшчына. Выказваў здагадку толькі на падставе агульнай інфармацыі, якая паходзіла з 1795 года (здзелка мела месца ў 1778 г.) і дадзеных з табеля ў кнізе фундушовых імшаў[14]. Для апісання драўлянага касцёліка ў Лідзе, збудаванага пры вуліцы Віленскай у першыя гады побыту піяраў, апошні рэктар калегіюма меў у распараджэнні толькі інвентар-

Яцак Красоўскі, 1776-1778 - Дыянізы Гурыновіч, 1778/79 - Бярнард Памарнацкі, 1779-1781 - Ксаверы Янкоўскі, 1781-1783 - Ёзафат Мірскі, 1784-1789 - Павел Выгоўскі, 1791-1793 - Ваўрынец Адамовіч, 1793/94 кл. Казімір Жукоўскі, 1794/95 - Ваўрынец Адамовіч, 1795/96 - кл. Францішак Гадлеўскі, 1796/97 - Ксаверы Янкоўскі, 1797-1799 - кл. Казімір Жукоўскі, 1803/04 - Аўгустын Вярсоцкі.

[5] Таксама пазнейшы вядомы віленскі рэктар Антоні Мікуцкі на працягу 1 школьнага года выконваў у Лідзе функцыі гісторыка Дому.

[6] J. Wojszwillo, s. 47.

[7] Rkps Arch. PAN III-76 nr 47, k. 30 [матэрыялы Людвіка Хмая - далей цытаванне СН-47].

[8] M. Szymielewicz, Dzieje pijarow lidzkich, "Ziemia Lidzka", r. 2 (1937), nr 6-7, s. 62.

[9] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowoj w Wielkim Ksiestwie Litewskim (1782-1792), oprac. K. Bartnicka, I. szybiak, Wroclaw... 1974, s. 316.

[10] J. Wojszwillo, s. 153-155.

[11] J. Wojszwillo, s. 104.

[12] J. Wojszwillo, s. 66.

[13] J. Wojszwillo, s. 187.

[14] J. Wojszwillo, s. 68-69.

ную кнігу дзевятнаццатага стагоддзя, якую нават не патрафіў дакладна датаваць[15]. Стан кляштарнага архіва ў перыяд непасрэдна перад пажарам паказвае спіс, змешчаны ў дакуменце, які падсумоўвае другі перыяд рэктарату Вайшвілы, складзеным кожны раз адыходзячым рэктарам для патрэб капітулы, якая выбірала новага рэктара і перадавала яму кляштар. Так званая *Rezygnacja* ад ліпеня 1841 года вычарпальна сведчыць пра занядбанне ў вядзенні і захоўванні абавязковай кляштарнай дакументацыі. Так побач з дакументамі фундушовымі мелі ў той час толькі кнігу прыходаў і выдаткаў, распачатую ў 1799 г., *Liber suffragiorum* ці *Liber capitulorum*, распачатую ў 1749 г, персанальную ведамасць, так зв. *Familia Domus* ад 1756 г., кніга візітацыі правінцыялаў ад 1738 г., згаданая ўжо кніга асаблівых здарэнняў ад 1792 г.16, чэлядзі ад 1794 г., дапамогі віленскага кляштара ад 1799 г., ведамасць ахвяраванняў на школу ад 1830 г., кніга запісаў указаў і кніга лістоў прыходных і выходных ад 1835 г., інвентар перадачы таксама ад 1835 г., *Rezygnacja* папярэдніх рэктараў таксама паходзілі ледзве з перыяду апошняга 30-годдзя: з 1813, 1814, 1817, 1829, 1832 і 1835 г. Не лепей прадстаўляецца дакументацыя, якая датычыцца бібліятэкі. Маюцца ў распараджэнні 3 спісы яе зместу (з 1799, 1827 і 1835 г.), а таксама кніга рэверсаў пазычаных кніжак, якая вялася ад 1799 г.[17].

Пасярод фінансавых дакументаў Лідскага кляштара да нашых часоў датрывала толькі кніга, якая ўтрымоўвае квітанцыі на ўзятую правізію ад фундушовых сум з гадоў 1737-1835 *(Arch. Pol. Prow. Pij. w Krakowie, sygn Col. Lid. 102)*, а значыць абдымае перыяд воранаўскі і лідскі, што падкрэслівае вычарпальна супольнасць гісторыі абодвух асяродкаў.

У той сітуацыі істотнай крыніцай, і пры тым - дадамо - ёсць, са значнай ступенню верагоднасці, захоўваная ў Бібліятэцы Асалінскіх, а таксама ў копіі ў піярскім кракаўскім архіве рукапісная спроба адкрыцця гісторыі Дому піяраў колькі разоў ужо згадванага Ёзафата Вайшвілы. Таму варта прысвяціць асобе аўтара і рукапісу некалькі слоў тлумачэнняў. Апошні лідскі рэктар нарадзіўся ў Суспішках у Ружанскім павеце ў 1800 г.[18] Адукацыю, распачатую ў родным доме, прадоўжыў найперш у кармелітаў у Кражах (ад траўня 1815 г.), а потым у піярскім асяродку ў Расіенах (у 1817 годзе адразу здаў экзамен у трэці клас). У апошні год навукі атрымаў першую ўзнагароду за поспехі ў навуцы. Сярод настаўнікаў, якіх ён захаваў ва ўдзячнай памяці, называў м. ін. Антонія Машынскага, Паўла Вянжоўскага (Ванжоўскага), Каласантага Барташэвіча, Нарэя (Нарэюша) Станкевіча, Мацея Брадовіча, Панталеёна Семяновіча[19]. У 1821 г. (15.VIII) уступіў у ордэн Піяраў, навіцыят адбыў у Любяшове, дзе ім апекаваўся м. ін. Тадэвуш Малюкевіч[20]. У 1823 г. атрымаў капланскае пасвячэнне. Выкладчыцкую працу распачаў у Шчучыне, як настаўнік матэматыкі (прыбыў туды 15.IX.1823 г.). У 1824/25 школьным годзе акрамя матэматыкі выкладаў таксама "пачаткі" рускай мовы, а ў наступным - маральную навуку. У 1825/26 школьным годзе выконваў ужо функцыі прэфекта школы ў Шчучыне[21]. Ордэнскія ўлады накіравалі яго на вучобу ў Віленскі ўніверсітэт, дзе ён на філасофска-матэматычным факультэце атрымаў ступень кандыдата. У наступным вывучаў у Любяшове (ад 1828 г. матэматыку ў навіцыяце) і ў Дубровіцы (ад 1829 г. - матэматыку). У 1831 годзе стаў Дубровіцкім рэктарам, аднак ужо ў студзені 1832 г. маёмасць дубровіцкіх піяраў была забрана ў скарб дзяржавы. Вайшвіла перабраўся ў Любяшоў, дзе займаўся кнігазборам. Пазней знайходзіўся пры двары Эдварда Ваньковіча (да канца красавіка 1834 г.) як хатні настаўнік і капелан. Там ён напісаў свае чатыры творы пра методыку навучання асноў арыфметыкі і чытання. Далей працаваў у Вількаміры. Нарэшце ў 1835 годзе быў уганараваны годнасцю Лідскага рэктара (прыбыў туды 21 сакавіка 1835 г.)[22]. На гэтай пасадзе ён заставаўся ажно да 1846 г. ці да моманту ліквідацыі кляштара. Пакідаючы Ліду, здаў дэкану ў цэласці ацалелыя *"фундушовыя паперы, калегійны архіў і шнуровыя кнігі асобаў супольнасці"* і падаўся ў Карэцкае Міжрэчча. Калі і той піярскі асяродак падпаў пад касацыю, пасяліўся пры капліцы ў Пятроўцы. Праўдападобна, што там і памёр у 1872 г. Усё жыццё ён цікавіўся літаратурай, пісаў вершы, займаўся таксама гісторыяй ордэна. Адной з яго апрацовак ёсць якраз гісторыя Воранаўскага і Лідскага Дому, злучаная з уласнымі ўспамінамі з 11 гадоў, праведзеных у Лідзе. Рукапіс той закончаны быў у Пятроўцы 12 верасня 1858 года. Падаецца аднак, што калі не большая частка тэксту, то прынамсі дакументальныя

[15] J. Wojszwillo, s. 63.

[16] Што не супадае з інфармацыяй Вайшвілы, які падае 1793 год.

[17] Rezygnacja klasztoru lidzkiego Ksiezy Pijarow za rektorstwa WJKs Jozafata Wojszwilly ad 17 lipca 1838 do lipca 1841, rkps B. Ossol. 3667/III (mf BN nr 8804), s. 203-204.

[18] Catalogus clericorum regularium Pauperum Matris Dei Schlarum Piarum in Lithuana Provincia ab erectione ejusdem Anno Domini 1736 conscriptus - машынапіс у Arch. pol. prow. Pijarow w Krakowie; шматлікая інфармацыя пра біяграфію Вайшвілы ўтрымоўвае таксама яго рукапіс.

[19] J. Wojszwillo, s. 122-123.

[20] Малюкевіч быў настаўнікам самога Ігната Дамейкі ў Шчучыне. Дзякуючы яго ведам і педагагічнаму ўменню будучы слаўны вучоны ў 1812-1816 гадах атрымаў салідную аснову ў вобласці фізікі і хіміі. Малюкевіч працаваў у Шчучыне ў 1809-1816 гадах, значна падняўшы ўзровень навучання фізікі (у 1808 г., а ў школьным годзе перад прыбыццём Малюкевіча візітатар наракаў, што "фізіка ў тутэйшай школе трымаецца на б. нізкім узроўні" - Rkps Arch PAN III-76 nr 58, k. 68 (матэрыялы Людвіка Хмая). Таксама пазнейшая праца Малюкевіча ў Валерыянаве-Лужках (1816-1820), дзе выконваў функцыі рэктара, атрымаў прызнанне ў вачах візітататара, а аўтар манаграфіі той школы яго рэктарства акрэсліў як "ганаровы перыяд школы" (O. Hedemann, Szkoly walerianowskie x.x. pijarow luzeckich, Wilno 1937, s. 137).

[21] J. Wojszwillo, s. 128.

[22] J. Wojszwillo, s. 140.

выпіскі з лідскіх архіваў былі падрыхтаваны значна раней у гады рэктарату[23]. Рукапіс Вайшвілы ўтрымоўвае звыш 150 старонак копій і арыгінальных дакументаў, якія датычылі гісторыі воранаўскіх і лідскіх піяраў[24]. Як можна зарыентавацца са складу таго дадатку і зместу самога рукапісу для Вайшвілы асноўнай крыніцай для апісання папярэдніх дзесяцігоддзяў былі перш за ўсё згаданыя ўжо жыціі ў *Liber suffragiorum*, кніга персанальнага падбору кадраў Дому (*Familia Domus*)[25], а таксама маёмасныя дакументы кляштара, як і выпіскі з кніг гродскіх. Вайшвіла патрафіў адважыцца на крытычныя адносіны да ордэнскіх крыніц, не вагаўся пры тым паказаць нявыгадныя факты з мінулага лідскіх піяраў. Сведчыць пра тое, напрыклад, негатыўнае апісанне дзейнасці рэктара Раймунда Ржашоўскага (Жашоўскага, 1750-1820, рэктар у Лідзе ў 1806-1808), якое ўступае ў супярэчнасць са зместам некралогу ў *Liber suffragiorum*, дзе паказаны ў *"найяснейшым святле заслугі яго перад супольнасцю... прамаўчаў* [...] *недалеглае кіраўніцтва ў Лідзе, трымаючыся напэўна прынцыпу: "Пра памерлых альбо добра альбо нічога"*[26]. Не трэба, аднак, забываць, што пры найлепшых нават жаданнях аўтара захаванасць кляштарнага архіва не дазваляе паглядзець з больш шырокай перспектывы на гісторыю калегіі, параўнаўча аценіць значэнне таго асяродка, узровень навучання ў школе. Сімптаматычнае апісанне візітацыі Адама Ежы Чартарыйскага (6 чэрвеня 1817 г.), якая - па ўяўленні Вайшвілы - аказалася незвычайна ўдалай. Тым часам, як сведчыць ліст князя да А.Н. Галіцына ад 13 чэрвеня 1817 г., вынікі візітацыі не былі захапляльнымі. Чартарыйскі пісаў: *"Наведаныя мной школы* [у т.л. Ліда, Берасце, Слонім] *знаходзяцца ў зносным стане, але ў большасці іх заганай ёсць памылковы метад навучання. Надаецца ў іх увага хутчэй на развіццё памяці вучняў, чым здольнасці разумення"*. Візітатар прызнаў, зрэшты, што гэта характарыстычная загана асветы ва ўсёй правінцыі[27]. На заканчэнне тых заўваг трэба ўспомніць пра гісторыю рукапісу Вайшвілы. У 1881 годзе доктар медыцыны з Камянца Антоні І. Роле, прыбываючы на з'езд у Кракаў, прывёз з сабой 3 рукапісы Вайшвілы. Найабшырнейшы з іх даты-чыў якраз Ліды. Піяр Тадэвуш Храмецкі (пазнейшы заслужаны шматгадовы кракаўскі рэктар[28]), які жыў у Кракаве, зрабіў копію таго тэксту (з пэўнымі скаротамі). Арыгінал трапіў у зборы Бібліятэкі Асалінскіх, а версія Храмецкага аказалася ў Лідзе[29], і пазней пасля ІІ Сусветнай вайны - у архіве Польскай правінцыі піяраў у Кракаве[30].

Падобны "калькавальны" характар маюць таксама матэрыялы Людвіка Хмая, незвычайна прыдатныя для даследчыка гісторыі піярскіх калегіюмаў на Літве. Выбаркі, якія датычацца Ліды, адносяцца да XIX стагоддзя і паходзяць з пратаколаў візітацыі лідскай школы, якія праводзіліся па даручэнні ўладаў Віленскага ўніверсітэта[31].

Надзвычай сціпла падаецца агляд літаратуры навуковай тэматыкі. Побач з некалькімі згадкамі ў публікацыях на тэму школьніцтва на Літве ў XVIII і XIX ст. можна толькі ўказаць на цыкл артыкулаў папулярызатарскага характару, у т.л. на "Гісторыю лідскіх піяраў", змешчаную ў часопісе "Ziemia Lidzka". Аўтарам тых некалькіх кароткіх тэкстаў быў перадваенны "летапісец", аматар і знаўца рэгіёна - Міхал Шымялевіч[32].

**Воранаўскі (Вераноўскі) перыяд**

Калі адзіны сын кашталяна смаленскага і старасты барцянскага, Яна Сцыпіёна дэ Кампа - Юзаф, староста лідскі і мукароўскі - ажаніўся з Вярэнай Фірлей з Дубровіцы (1730), маладая пара атрымала мястэчка Балотнае. У гісторыі гэтага мала вядомага мястэчка падзея тая аказалася значнай. Ад імя маладой панны атрымала яно новую назву Вераноў (Веранова), а неўзабаве - 1 жніўня 1735 г. - Ян Сцыпіён дэ Кампа разам з жонкай Тарэсай з Юзафовічаў-Глябіцкіх і маладажонамі падпісалі кантракт у справе пасялення піяраў. Фундатары ахвяравалі ордэну пляц, які знаходзіўся пры вераноўскім рынку пад касцёл і школу, а таксама 50 тыс. зл на ўтрыманне 12 манахаў, запісаныя наступным чынам:

1. 10 тыс. на фальварку Лапацішкі з вёскай

[23] Што праўда Вайшвіла страціў падчас пажару большасць сваіх рукапісаў. Частка матэрыялаў і інфармацыі дайшла да яго пры пасярэдніцтве жывых яшчэ піяраў, напр. ад Каласантага Адамовіча, ужо пасля заканчэння пісання тэксту, атрымаў "урадавыя пахвалы школы" лідскай. Гл. J. Wojszwillo, s. 166.

[24] S. 197-349.

[25] J. Wojszwillo, s. 37.

[26] J. Wojszwillo, s. 91. У кнігах гэтага тыпу шырока прадстаўлены тыя падставы, да чаго прыводзіць параўнанне дзвюх думак напр. пра Яна Французовіча (Ян ад св. Ваўрынца 1749-1782) Liber Suffragiorum Vilcomiriensis nr 570 "[...] geometriam docereiussus ubique discipolorum profecit egregiesatisfecit" Станіслаў Баніфацы Юндзіл сцвярджаў: "Невук пусты і надуты, простых нават задач у арыфметыцы развязаць не здольны". Pametnik ks. Stanislawa Jundzilla professora uniweusitetu wilenskiego, wyd. A.M. Kurpiel, Krakow 1905, s 10 [42].

[27] D. Beauvois, Szkolnictwo na ziemiach litewsko-ruskich 1803-1832, t. 2. Szkoly podstawowe i srednie, Rzym-Lublin, 1991, s. 34.

[28] Пар. A. Pitala Sch. P., Przyczynki do dziejow Polskiej Prowincji Pijarow 1642-1992, Krakow, 1993, s. 149-153 (Stulecie odrodzonej Polskiej Prowincji Pijarow 1879-1979).

[29] Усё ўказвае на тое, што ею карыстаўся перад ІІ Сусветнай вайной Міхал Шымялевіч.

[30] Sygn. Col.Lid. 103.

[31] Rkps Archiwum PAN w Warszawie, sygn III-76, nr 41 (materialy Ludwika Chmaja - kartoteka pijarow litewskich), nr 46 (Lida).

[32] "Ziemia Lidzka", R 1 (1936), nr 9, R. 2 (1937), nr 1, 3, 6-7.

Вільканцы (Вількунцы, Веканцы[33]).

2. 5 тыс на вёсцы Асава Беліковічаўская Самуэля Бялікевіча.

3. 10 тыс., размешчаныя на ражанскім кагале.

4. 20 тыс. застаўным правам на Мерачу.

5. 5 тыс. у самога фундатара.

Да тых сум Сцыпіёны ў сілу тастаманту, памерлага ў 1734 г. іхняга двараніна Войцеха Стацэвіча далучылі ў сваю чаргу 22 тыс. зл, размешчаных на Радзівонішках.

Як звычайна ў такіх выпадках, з фундацыйнымі сумамі звязаны былі шматлікія абавязкі: у інтарэсах фундатара і жонкі піяры мелі адпраўляць імшы ў панядзелкі, за бацькоў фундатара (Казіміра і Зофію) - у серады, за Юзафа і яго жонку Тарэсу - у пятніцу, за душу Войцехе Стацэвіча - у аўторак, а ў суботу - святыя імшы за "душы, якія ратунку не маюць". Піярская вярхушка ў асобах асістэнта правінцыі Анзэльма Бахенскага (Францішка, Анзэльма ад св. Францішка, 1686 - 1753) і віца-правінцыяла Людвіка Блажэўскага прыняла гэтыя ўмовы. Неўзабаве пасля гэтага (17 кастрычніка таго ж года) і правінцыял Амброзы Вусовіч (Вансовіч) зацвердзіў фундацыю. У 1736 г. у Веранова прыбылі два піяры з заданнем давядзення запісу да скутку. Былі гэта Ян Багуцкі (Тамаш, Ян ад св. Тамаша, 1688 - 1756[34]), які меў выконваць функцыі начальніка, і Тэадор Баркоўскі (Тэадор ад св. Адрыяна, 1685 - 1750), як скарбнік, адміністратар парафіі і настаўнік, прынялі яны парафію і адразу адкрылі школу. Ужо ў 1737/8 школьным годзе побач з пачатковым класам (інфіма*, граматыка) Тэадора Баркоўскага, з'явіліся так зв. вышэйшыя класы (паэзія, рыторыка), у якіх вучыў Канстанты Чарнецкі. У наступным годзе - 1738/9 - у кожным класе вучыў асобны настаўнік (Хрыстафор Шымак - рыторыка, Марцалін Дамбоўскі - паэзія, Зыгмунт Апольскі - граматыка, клерык Ваўрынец Чахялевіч - пачатковае навучанне). У першыя гады школа функцыявала ў часовых умовах, а піяры жылі на плябаніі. Аднак ужо 15.VIII.1737 г. Багуцкі атрымаў 10 тыс. зл з фундушовай сумы ад Яна Сцыпіёна дэ Кампа і мог распачаць падрыхтоўку да пабудовы новай сядзібы[35]. Існы ў Веранове парафіяльны касцёл мусіў быць у дрэнным стане, паколькі вырашылі спраектаваць новы. Будынкі, відавочна драўляныя, таксама і будынкі гаспадарчыя паўставалі пад пільным наглядам Багуцкага. Закончылі іх цалкам падчас шасцігадовага кіраўніцтва першага начальніка вераноўскіх піяраў (1737 - 1742). Вераноўскія піяры ўдзячныя яму таксама за ўпарадкаванне фальварка Лапацішкі. Дзякуючы энергічнаму кіраўніцтву Багуцкага ў вераноўскім цэнтры ў 1741 і 1742 г. маглі жыць і працаваць ужо 8 піяраў, а неўзабаве нават 11. Паступовае павелічэнне персанальнага складу цэнтра ў Веранове ў 1736 - 1744 гадах адлюстроўвае табліца:

| Гады | Колькасць манахаў | Колькасць настаўнікаў |
|---|---|---|
| 1736/37 | 2 | 1 |
| 1737/38 | 6 | 2 |
| 1738/39 | 7 | 3 |
| 1739/40 | 7 | 2 |
| 1740/41 | 6 | 2 |
| 1741/42 | 8 | 2 |
| 1742/43 | 8 | 2 |
| 1743/44 | 11 | 3 |
| 1744/45 | 10 | 3 |

Трэба аднак дадаць, што вераноўскія піяры трымалі апеку над геранёнскай рэзідэнцыяй, і людзі, якія там знаходзіліся, фармальна належалі да таго ж Дому, што павялічвала асабовы лік. Звычайна ў Геранёнах (Гэранонах, Геранонах) знаходзіліся два манахі (часам 1, у 1766/67 і 1769/70 - 3, а ў 1767/68 даходзіла аж да 4), занятых, пачаўшы ад 1730 года ў парафіяльнай школе. У склад кляштара ў Веранове залічылі іх ад 1737/38 школьнага года. Як падае Ян Курчэўскі, парафіяльная школа функцыявала ў гэтай мясцовасці ў 1730 - 40[38] гадах. Аднак, з пэўнасцю можна сказаць, што піярская рэзідэнцыя ў Геранёнах пратрывала значна даўжэй: апошнія два місіянеры пазначаныя ў лідскіх архівах (Ян Яцыніч і Пётр Снілко) працавалі ў Геранёнах у 1771/72[39] школьным годзе.

[33] Вёска была размешчана за паўмілі ад мястэчка. У 1839 г. налічвала 8 хат + 1 пакінутая. Rkps B. Ossol. 3667/III (mf. BN 8804): Rezygnacja klasztoru lidzkiego Ksiezy Pijarow za rektorstwa WJKs Jozafata Wojszwilly... s. 206. У палове XIX ст. вёска нязначна павялічылася: складалася з 11 хат і карчмы, пабудаванай у часы Вайшвілы (1839). T[yszkiewicz E.] Wiadomosc historyczna o zgromadzeniach b fundacjach meskich i zenskich rzymsko-katolickich klasztorow w diecezji wilenskiej, "Teka Wilenska", 1857, z. 2, s. 33.

[34] У артыкуле прыводзяцца - згодна, зрэшты, з распаўсюджаным у навуковай літаратуры звычаем - імёны манаскія, разам са свецкімі прозвішчамі. Трэба памятаць, што да 1754 г. піяры былі абавязаны ўжываць выключна ордэнскія імёны "для поўнага адрачэння ад усялякай свецкасці" і такім спосабам пададзены іхнія персанальныя дадзеныя ў ордэнскіх актах. Для важнейшых постацяў пададзены ў дадатках свецкія імёны, поўныя манаскія імёны і гады жыцця. Адсутнасць якой-небудзь інфармацыі перад імем і прозвішчам абазначае, што піяр меў капланскае пасвячэнне. Толькі ў выпадку клерыкаў і ордэнскіх братоў (якіх называлі "frater operarius") прымянялася адпаведнае напісанне.

[35] Rkps Arch. Pol. Prow. Pij. w Krakowie, sygn Col. Lid. 102.

[36] S. Bieganski, Szkoly pijarskie w Polsce, Lwow, 1898 (odbitka z "Muzeum") s. 5. Геранёны знаходзіліся недалёка ад Веранова ва ўсходнім кірунку і на паўночны ўсход ад Ліды, па-за абшарам Лідчыны. Для поўнай дакладнасці належыць дадаць інфармацыю пра апеку піяраў над пляцоўкай у Талочыне (1737/38 - 1738/39).

37 Напр. у I. 1740-1743, 1751/52.

[38] J. Kurczewski. Biskupstwo wilenskie, Wilno, 1912, s. 319.

[39] Гл. Aneks nr 2. Дазваляе гэта дапусціць, што парафіяльная школа, кіраваная піярамі, таксама функцыянавала даўжэй, чым да 1740 г.

* Інфіма - пачатковае навучанне.

Найбольшую пагрозу для вераноўскай фундацыі ўяўляла спрэчка езуітаў з піярамі за Віленскі калегіюм, якая цягнулася ад 1723 года. 28.III.1738 г. езуіты атрымалі з рук Аўгуста III дэкрэт *de iure privativo* Віленскай Акадэміі адносна школьніцтва на Літве, які стварыў пагрозу існаванню не толькі школы ў Вільні, але таксама пляцоўкам у Геранёнах і ў Веранове[40]. Тым часам у 1942 г. ужо з тытулам рэктара (а не супер'ёра) у Веранове з'явіўся часовы віленскі віца-рэктар Гіпаліт Жагліцкі (Станіслаў, Гіпаліт ад св. Станіслава Косткі, 1691 - 1755)[41]. Нягледзячы на слабое здароўе, разам са сваім намеснікам Марцалінам Дамбоўскім (іменаваным "старшынём фабрыкі касцёла") прыступіў да найцяжэйшага і найкаштоўнейшага задання, якое заканчвала перыяд заснавання кожнай новай фундацыі: пабудовы касцёла. З гэтай мэтай з фундушу Стацэвіча ўзята 2 тыс. зл[42]. Не было гэта лёгкім, паколькі запіс Сцыпіёнаў, зроблены ад імя Войцеха Стацэвіча, выклікаў працэс са спадчыннікамі. У рэшце-рэшт ордэн выгандляваў фундушовую суму ад выканаўцы тастаманту Антонія Стацэвіча ўзамен на яшчэ адну штотыднёвую імшу і абяцанне ўтрымання аднаго вучня з дому Стацэвічаў. У выніку пагаднення вераноўскія піяры атрымалі застаўным правам мястэчка Шчучын (у якім ад 1718 года існаваў піярскі калегіюм[43]), не прынялі яго, аднак, ва ўладанне, толькі карысталіся арэндным працэнтам, які на працягу многіх гадоў быў асновай піярскага цэнтра ў Веранове. Як сведчаць запісы ў кнізе квітанцый камісійных платаў ад фундатараў атрымоўвалі яго штогод 10 чэрвеня, пачаўшы ад 1744 г. Вайшвіла сцвярджае, што спачатку ўзровень працэнта дасягаў 7% штогод (ці 1400 зл), потым 6%, а ў канцы ўзгаднілі 5%[44]. Відавочна, у 1745 і 1746 г. апрацэнтаванне сумы дасягала 7%. Акрамя таго піяры, пачаўшы ад 1736 г., атрымоўвалі 8% ад сумы, размешчанай на ражанскім кагале. Для пазнейшага перыяду цяжка ўстанавіць дакладнае апрацэнтаванне сум, паколькі ўзнікалі сур'ёзныя затрымкі ў плацяжах, потым рэгулявалі аднаразавую выплату. Так, напр., у 1753 г. аднаразава калегіюм атрымаў затрыманыя 2609 зл., а ў 1757 г. - 2620 зл[45]. Даходы ў пачатковы вераноўскі перыяд можна ў сярэднім ацэньваць каля 2500 зл, што было сумай, якая адпавядала даходам менш заможных калегіюмаў польскай правінцыі[46]. Больш дакладныя дадзеныя фінансавага балансу калегіюма маем адносна 1742 і 1753 г. [47]. У 1742 г. даход 200 рымскіх эскуда (эскуда = амаль 9 зл) быў цалкам прызначаны на пабудову сядзібы, у 1753 годзе даход дасягнуў 370 рымскіх эскуда, а выдаткі - 320. Даход у 1753 г. складалі наступныя элементы: з фундушовых сум атрымана 75,7% даходу, з імшы - 10,8%, з парафіі - 2,7%, ад канвіктараў - 1,3%, даходы "аднаразавыя" - 9,5%. Сярод выдаткаў найбольшыя пазіцыі складалі харчаванне і адзенне манахаў, на што прызначалася аж палова агульных коштаў. Для параўнання дадамо, што на бібліятэку выдаткавана ў той час ледзве 3% паступленняў. Бюджэт Вераноўскага калегіюма на 1742 год таксама на фоне зусім незаможнай Літоўскай правінцыі належыць ацаніць як вельмі сціплы. У тым жа самым годзе калегіюм у Вільні меў даход у пяць разоў бо-льшы, у Любяшове - у 3,5 разы, у Дубровіцы - больш чым у 1,5 раза. Нават шчучынскія піяры мелі квоту на палову большую. У 1753 г. пазіцыя Веранова ў адносінах да больш заможных калегіюмаў Літоўскай правінцыі значна папраўілася. Даход у Любяшове быў ужо толькі ў 2 разы вышэйшы, у Вільні - у 1,8 раза вышэйшы, у Дубровіцы - амаль ідэнтычны, а ў Шчучыне нават трохі ніжэйшы. Пацвярджае гэтую пазіцыю, абапёртую на на прыкладзе іншых піярскіх цэнтраў, што калегіюмы вельмі паволі - на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ад моманту фундацыі дасягалі дастатковы узровень маёмаснай стабілізацыі. У калегіюмах найстарэйшых і найзаможнейшых, што зразумела, жыло і працавала найбольш манахаў: у 1742 г. у Любяшове знаходзім каля 40 манахаў, у Шчучыне - 30, у Вільні - 15, у Дубровіцы - 12 (прыгадаем, што ў Веранове - 8). Выдзяляюцца толькі дадзеныя, датычныя Паневежа. Пры мінімальным даходзе (160 эскуда) у 1742 г. знаходзілася там аж 16 піяраў. Праз 11 гадоў сустракаем у Веранове ўжо 14 манахаў і на погляд персанальнага складу калегіюма гэта не адстаяла ўжо так значна ад галоўных піярскіх цэнтраў правінцыі: Любяшоў - 30 піяраў, Вільня - 24, Дубровіца - 16, Шчучын - 15. Такое значнае павелічэнне асабовага складу Вераноўскага калегіюма звязвалася не толькі з паляпшэннем матэрыяльнай сітуацыі, але таксама са зменамі функцый цэнтра ў рамках нядаўна стаўшай самастойнай (1736) Літоўскай правінцыі.

У 1745 г. Жагліцкага замяніў на пасадзе рэктара Гардзіян Войцах Скаўронскі (Юзаф, Гардзіян Войцах ад св. Юзафа, 1690 - 1768)[48]. Жагліцкі застаўся аднак у Веранове і заняўся арганізацыяй выкладчыцкіх кур-

[40] Змест дэкрэту ад 1738 г.: Wiadomosc o sporze pijarow wilenskich z jezuitami wilenskimi (r. 1723 - 1753) [w:] Fntoni Moszynski: Zywot Macieja Dogiela z przydaniem wiadomosci o sporze pijarow wilenskich z jezuitami wilenskimi (roku 1723 - 1753), Wilno, 1838, s. 66-67.

[41] J. Wojszwillo, s. 39.

[42] Так меркаваў Ё. Вайшвіла (с. 39), паколькі застаўное права на Шчучын ад 1743 г. называецца толькі ў 20 тыс. зл замест 22 тыс.

[43] Гл. J. Kurkowski, Wybitni nauczyciele szkoly pijarskiej w Szczuczynie. "Kwartalnik Historyi Nauki i Techniki", 1995/1, s. 83-104.

[44] Гл. Rkps Arch. Pol. Prow. Pij. w Krakowie, sygn Col. Lid. 102.

[45] A. Pitala. Pijarskie zaklady ksztalcenia nauczycieli w Polsce, [w:] tegoz., Przyczynki..., s. 8.

[46] Гл. J. Kurkowski, Kolegium i szkola pijarow w Radomiu, 1680-1795 [w:] Radom i regionradomski w dobie szlacheckiej Rzeczypospolitej, t. II Historia spoleczno-religijna okresu wczesnonowozytnego, pod red. Z Guldona i T. Zielinskiego, radom, 1996, s. 89-90.

[47] Archiwum Gtneralne Pijarskie w Rzymie (AGSP), sygn. Reg. Prov. 59 (мікрафільм з Архіва Польскай правінцыі піяраў у Кракаве).

[48] J. Wojszwillo, s. 41.

саў. У тым жа самым годзе адкрылі факультэт маральнай філасофіі (тэалогіі), на якім Жагліцкі выкладаў на працягу двух наступных гадоў[49]. У цэнтр у Веранове пачалі прыбываць маладыя піяры. У 1745/46, 1746/47, 1747/48 школьных гадах вучылася тут па 4 манахі, у 1748/49 - 5, у 1749/50 - 2, у 1750/51 - 3. Курс маральнай тэалогіі быў - у адрозненне ад распаўсюджаных у Літоўскай правінцыі звычаяў - быць можа двухгадовы, паколькі знайходзім прозвішчы Антонія Астроўскага і Стэфана Гусеўскага (Гансеўскага), якія паўтараюцца. Замяняў для менш здольнай моладзі (пасля аднаго года) далейшыя курсы шпекулятыўнай тэалогіі, разгружаючы такім чынам курсы ў іншых цэнтрах[50]. Вайшвіла падае, што каля 1745 г. у Любяшове ў навіцыяце вучылася 14 піяраў, у Дубровіцы *"на літаратурным факультэце"* - 8, у Шчучыне на факультэце філасофіі, гараграфіі і касцельнай гісторыі - 5, у Вільні на тэалогіі - 3, а ў Панявежы на філасофіі - 3[51]. Гэтыя дадзеныя сведчаць пра значную расцярушанасць настаўніцкіх курсаў літоўскіх піяраў і аб дастасаванні да новых праграмных патрабаванняў, якія дазволілі піярскім тэалагічным вучэльням аказацца на чале тагачасных дыяцэзіяльных і акадэмічных семінарый[52].

У 1751/52 школьным годзе перавучылі вераноўскіх выкладчыкаў на курс шпекулятыўнай тэалогіі, які вялі два настаўнікі: дагматычнай тэалогіі (Віктарын Квяткевіч) і аскетычнай тэалогіі (Інакенці Ман). На працягу двух наступных гадоў выкладчыцкія кадры былі прадстаўлены наступным чынам: Леан Галавінскі - тэалогія дагматычная, Інакенці Ман - тэалогія аскетычная. Можна дадумваць, што праграма навучання была двухгадовая, хоць гэта не дакладна, бо сярод 5 слухачоў ў 1752/53 годзе знайходзім толькі 2 з папярэдняга, а сярод 3 з апошняга года функцыянавання выкладчыцкіх курсаў 1753/54 не паўтараецца ні адно прозвішча (быць можа, адбыўся новы набор). На вераноўскіх выкладчыцкіх курсах у 1745 - 1754 гг. вучыўся разам 31 малады піяр (у тым 11 вучылі шпекулятыўную тэалогію[53]. Гэты невядомы сёння эпізод з гісторыі вераноўскага калегіюма дазволіў яму за кароткі, што праўда, перыяд у 9 школьных гадоў (а асабліва падчас апошніх 3) стаць важным цэнтрам у сістэме падрыхтоўкі піяраў Літоўскай правінцыі. Няцяжка сярод вучняў назваць прозвішчы некалькіх пазней значных для культуры і асветы эпохі постацяў: Міхала Францкевіча, Банавентуры Ярманскага ці Мацея Тукалы[54]. Ролю калегіюма на шкале Літоўскай правінцыі ў перыяд функцыянавання вераноўскіх выкладчыцкіх курсаў падкрэслівае колькасць манахаў і настаўнікаў у перыяд 1745 - 1754 гг.

| Гады | Колькасць манахаў | Колькасць настаўнікаў |
|---|---|---|
| 1745/46 | 12 | 3 |
| 1746/47 | 12 | 3 |
| 1747/48 | 14 | 3 |
| 1748/49 | 16 | 4 |
| 1749/50 | 12 | 2[55] |
| 1750/51 | 15 | 3 |
| 1751/52 | 16 | 4 |
| 1752/53 | 15 | 4 |
| 1753/54 | 12 | 4 |

Не зусім ясна, ці на час дзейнасці выкладчыцкіх курсаў закрывалі публічную школу, што было б згодна з даручэннем Правінцыйнай капітулы (яшчэ агульнай Польскай правінцыі) ад 1731 г., каб арганізоўваць курсы толькі ў калегіях, якія не вядуць публічных школ. Ішлося пра тое, каб не адцягваць студэнтаў ад навукі праз пасыланне на замены ў класы. Акрамя таго закрыццё публічнай школы магло быць звязана з працягваўшайся далей спрэчкай за права на навучанне. Аднак пералік *"асоб вераноўскага згрупавання"* падае пастаянныя для таго перыяду прозвішчы настаўнікаў ніжэйшых класаў і для гадоў 1747 - 1750 і 1752 - 1754 выкладчыкаў паэзіі і рыторыкі, а таксама і прэфектаў[56]. Не высветлена таксама інфармацыя пра выкладчыка

[49] Арганізацыя падрыхтоўкі выкладчыкаў у Літоўскай правінцыі піяраў была моцна заблытаная. Літоўскія цэнтры былі бяднейшыя, бракавала там такога моцнага і заможнага калегіюма, як падалянскія. Тым часам Школьныя ўставы даручалі асаблівы клопат правінцыялаў і рэктараў аб умовах навучання на курсах. У сувязі з тым навучанне тое размяшчалася на Літве аж у 6 цэнтрах. Гл. A. Pitala Sch. P. Pijarskie zaklady ksztalcenia nauczycieli w dawniej Polsce - profesoria, [w:] Wklad pijarow do nauki i rultury w Polsce XVII-XIX w., пад рэд. I. Стасевіч-Ясюковай, Warszawa-Krakow, 1993, s. 392.

[50] Курс маральнай тэалогіі быў значна меншы за курс тэалогіі шпекулятыўнай. Ахопліваў толькі сакраменталогію і маральную тэалогію ў скароце. Гл. A. Pitala, Przyczynki..., s. 43-44.

[51] J. Wojszwillo, s. 41.

[52] Пар. A. Pitala, dz. cyt., s. 44. У 1742/43 годзе ў піярскую праграму ў польскай правінцыі ўвайшлі новыя прадметы: святыя каноны і касцельная гісторыя. Асобныя кафедры касцельнай гісторыі і кананічнага права ў дэцэзіяльных і акадэмічных семінарыях з'явіліся толькі ў II пал. стагоддзя.

[53] Былі гэта ў храналагічным парадку: 1. Ігнацы Сабаньскі, 2. кл. Людвік Заборскі, 3. кл. Стэфан Гусеўскі (Гансеўскі) (21.), 4. кл. Ян Цупуд, 5. Антоні Астроўскі (21.), 6. кл. Ксаверы Гэйкінг, 7. кл. Дамінік Анцэвіч, 8. Ануфры Вайкоўскі, 9. кл. Аўгустын Петрусевіч, 10. кл. Антоні Клёмфас, 11. Казімір Крашэўскі, 12. кл. Мацей Тукала, 13. кл. Міхал Кутрыскі (Кентрыскі), 14. кл. Банавентура Ярманскі, 15. кл. Павел Шырма, 16. кл. Вацлаў Навіцкі, 17. кл. Матэвуш Градэцкі, 18. кл. Уладзіслаў Швяйкоўскі, 19. кл. Ігнацы Гадлеўскі, 20. кл. Кароль Яркула. 21. Дамінік Грабоўскі, 22. Адам Талочка, 23. Войцех Камароўскі, 24. кл. Тадэвуш Ланг (21), 25. кл. Геранім Гарабурда (21), 26. Андрэй Гумкоўскі, 27. кл. Людвік Любаньскі, 28. кл. Баніфацы Урублеўскі, 29. Рафал Файгабер, 30. кл. Гервазы Аскерка, 31. кл. Міхал Францкевіч.

[54] На іх тэму гл. J. Kurkowski, Wybitni..., s. 85, 89-91.

[55] Для гэтага года няма звестак, хто выкладаў маральную тэалогію для 3 вучняў.

[56] У Podrecznej Encyklopedii Koscielnej (t. 31-32, s. 163) знайходзім інфармацыю пра закрыццё публічнай школы ў той перыяд. "Належны кірунак" нанава адкрытай школе меў надаць рэктар Багуцкі.

філасофіі Юзафа Рацэвіча[57], які ў той перыяд меў прыбыць у Веранова. Такую інфармацыю падае Ян Даніэль Яноцкі ў сваім персанальным аглядзе асветніцкіх пляцовак Рэчы Паспалітай пад назв. *"Nachricht von dem itzigen Zustande der Akademien und Callegien in Polen"* (1755 г.) [58] Тым часам не знайходзім такога прозвішча ў рукапісе Бібліятэкі Асалінскіх пад нумарам 3667/III. Яшчэ больш, асабовы склад вераноўскага калегіюма, змешчаны ў справе Яноцкага, не дае дапасаваць яго ні да аднаго з гадоў у перыяд 1736 - 1760. У гроне вераноўскіх рэктараў не знайходзім Яна Хрызастома Страшэвіча (1713 - 1773), а Адам Талочка і Клеменс Галавінскі, што праўда, знайходзіліся адначасова ў Веранове падчас 1751/52 школьнага года, але Клеменс быў рэктарам, а Адам не выкладаў рыторыкі, а слухаў тэалогію. Настаўнікам рыторыкі ў той час быў Павел Шырма. Гэтыя разыходжанні грунтоўныя і не паддаюцца вытлумачэнню простым спосабам. Ці ж бы старанна збіраная інфармацыя эрудытам (падтрыманым пратэкцыяй і кантактамі братоў Залускіх), які перапісваўся з многімі заўзятарамі навукі ў Рэчы Паспалітай, і бібліятэкара, нядаўна адчыненай для публікі слаўнай кніжніцы, магла быць аж так недакладнай.

У 1748 г. рэктарам выбралі Леана Людвіка Галавінскага (Людвік ад св. Шымона, 1707 - 1759). Як ужо згадвалася, пасля заканчэння кадэнцыі ў 1751 г. замяніў яго брат Клеменс (Міхал, Клеменс ад св. Міхала, 1708 - 1755), які выкладаў на вераноўскіх выкладчыцкіх курсах у 1748/49 годзе святую тэалогію, а ў 1750/51 выконваў функцыі консула Дому, дэпазітарыя і асістэнта Літоўскай правінцыі. Яноўскі падае, што Галавінскі ў маладосці пазнаёміўшыся ў піярскіх школах з перыпатэтыцкай філасофіяй, стаў яе гарачым прыхільнікам і выкладаў яе ў Дубровіцы і Шчучыне. У сталым веку зацікавіўся новымі плынямі і стаў першым сярод піяраў Літоўскай правінцыі прапаведнікам філасофіі *recentiorum*. Галавінскі ў 1755 г. меў зробленыя ім выняткі на польскай мове з філасофскіх прац Хрысціяна Вольфа[60]. У часы кіраўніцтва Галавінскіх калегіюм развіў навучанне выкладчыкаў і значна паправіў свой маёмасны стан: валодалі нават пэўнымі фінансавымі лішкамі, паколькі вераноўскія піяры былі ў стане пазычыць Міхалу Нарбуту 10 тыс. зл пад 7%. Дадамо, што сам Клеменс Галавінскі з уласнай кішэні павялічыў фундуш калегіюма на 1000 зл.

У 1754 г. закрылі тэалагічны курс *"з прычыны, што ўся моладзь, якая вучылася да таго. раскідана па розных дамах, сабрана ў больш заможныя калегіюмы для лепшага акзання навуковай дапамогі і для заахвочвання адных навучэнцаў прыкладам другіх"*[62] Незадоўга пасля гэтага распачаліся старанні па пераносе калегіюма ў Ліду. Бо ўжо 12 студзеня 1756 г. унук фундатара і выхаванец Мацея Догеля[63], Ігнацы Сцыпіён дэ Кампа падпісаў фармальны акт пераносу. Біскуп Міхал Зянковіч зацвердзіў гэты акт 9 сакавіка таго ж года, а 2 жніўня зроблены адпаведны запіс у кнігі Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага. Вайшвіла меркаваў пра ўдзел у гэтым прадпрыемстве Мацея Догеля, які паходзіў з ваколіц Ліды[64], а таксама заслужанага і дасведчанага арганізатара Яна Багуцкага, якога ў 1756 г. зноў выбралі на рэктара, маючы несумненна на ўвазе набліжаўшыся пераезд[65]. У дакуменце змена месца побыту піяраў абгрунтоўваецца лепшым размяшчэннем Ліды. Ліда (горад з большай, чым Веранова колькасцю насельніцтва[66]) ляжала на амаль аднолькавай адлегласці ад двух іншых важных школьных цэнтраў: Вільні і Шчучына. Падаецца ж, аднак, што ва ўсёй гэтай справе адыгралі ролю таксама іншыя істотныя прычыны. Спрэчка з езуітамі, якая дайшла нават да папы, была канчаткова развязана 8.IX.1753 г. пагадненнем паміж Янам Юрагай, рэктарам Віленскай акадэміі і піярскім правізарам Каспeрам Траскоўскім, выгандлеваным за пасярэдніцтвам Радзівілаў (пасля пахавання княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл, жонкі віленскага ваяводы). Вырашылі, што ў Вільні заміж публічнай школы застанецца толькі шляхецкі канвікт на не больш, чым 24 канвіктараў і 6 бедных вучняў[67]. Што праўда, тэкст пагаднення не ўспамінае нічога пра Веранова, але нельга выключаць,

[57] J.D. Janocki: Lexikon derere itztlebender Gelehrten in Polen. T. 2. Wroclaw, 1755, s. 200.

[58] J.D. Janocki, dz. cyt., s. 159.

[59] Не трэба аднак забываць, што персанальны склад упісвалі летам кожнага года і не ўзгаднялі змен, якія адбываліся на працягу школьнага года. Сведчыць пра тое, напр., адсутнасць прозвішча Даmініка Серафімовіча, які выконваў у Лідзе функцыі начальніка ад XII.1813 да VII.1814 г.

[60] Галавінскі неўзабаве памёр (28.XII.1755 г. у Веранове).

[61] J. Wojszwillo, s. 42. Гл. таксама s. [233] - [239].

[62] J. Wojszwillo, s. 43-44.

[63] Вучыў яго спачатку ў Шчучыне, а пазней пасля смерці бацькі ў паразуменні з маці Вярэнай Фірлей вывез на вучобу ў Ліпск і Парыж. Выезд Догеля выклікаў абурэнне ў пэўных колах польскай магнатэрыі. Ігнацы прыцягваў піяраў да навучання дзяцей і дваран, як напр. Станіслава Баніфацыя Юндзіла, ці настаўніка матэматыкі і фізікі Аўгустына Жылевіча, выказваў таксама зацікаўленасць узроўнем і ўмовамі навукі ў калегіюме ў Шчучыне. Raporty, s. 171.

[64] J. Wojszwillo, s. 60-61.

[65] J. Wojszwillo, s. 44. Нажаль Багуцкі ў ходзе пераносу сядзібы ў Ліду (26 жніўня 1756 г.) памёр.

[66] Звесткі пра колькасць жыхароў Ліды няясныя: у 1776 г. 1500 жыхароў - В.П. Верхас, Н.І. Папова, Лида. Историко-экономический очерк, Мінск, 1976, с. 10; у 1781 г. - 5662 жыхары, J. Kurczewski, dz. cyt., s. 298.

[67] Wiadomosc o sporze..., s. 77. Варта пры аказіі заўважыць, што 1750-1754 гадах вераноўскіх піяраў злучалі з Радзівіламі асаблівыя сувязі: пра двары Удальрыка Крыштафа Радзівіла, канюшага ВКЛ, у якасці хатняга настаўніка працаваў Банавентура Ярманскі, залічаны ў 1750-1754 гг. да грона вераноўскіх піяраў, у 1750/51 гг. як надворны тэолаг знаходзіўся пры двары князя Радзівіла (таксама Удальрыка?) Інакенці Бянеўскі. Дадамо, што Ярманскі правёў у Радзівілаў у агуле 12 гадоў. Апублікаваў звыш таго Opuscula in iuvenum Radzivillorum et scholasticae iuventutis usum. Гл. PSB, t. 10, s. 623 (S. Truchim).

што былі нейкія іншыя пастановы[68]. У кожным разе збег часоў важных падзей прымушае задумацца (верасень 1753 г. - пагадненне, 1954 г. - закрыццё выкладчыцкіх курсаў і акт пераносу - студзень 1756 г., адкрыццё публічнай школы ў Лідзе ў 1956/57 школьным годзе).

Апошнім вераноўскім рэктарам быў выбраны Ёахім Радамыскі (Ёахім ад св. Юзафа, 1698 - 1771, рэктар і суперыёр у 1757 - 1768 гадах), які пасля канчатковага пераносу школы і калегіюма карыстаўся тытулам суперыёра вераноўскай рэзідэнцыі (ад 1760). Дапамагаў яму спачатку Кароль Седлікоўскі, які аднак неўзабаве памёр (Фларыян, Кароль ад св. Фларыяна, 1713 - 1759), поым Уладзіслаў Швяйкоўскі, Ваўрынец Чахялевіч, *"frater opierarius"* Антоні Лукашэвіч і г.д. Школа ў Веранове дзейнічала найменей да 1758 г., а, быць можа, нават да 1760 г., калі памёр настаўнік Якуб Фекяле (Фекятэ, Якуб ад св. Яна Хрысціцеля, 1699 - 1760), які ў 1757/58 школьным годзе выкладаў чытанне. Гэта ўказвае на тое, што пасля пераносу школы ў Ліду пляцоўка ў Веранове ў апошнія гады свайго існавання выконвала напэўна ролю парафіяльнай школы[69]. Піяры жылі ў Веранове найменш да 1774/75 г.[70]. Апошнім, занатаваным у лідскіх архівах, прозвішчам піяра, які працаваў у Вераноўскай парафіі быў Лукаш Радзікевіч.

Трэба пры тым дадаць, што пераезд у Ліду не быў цалкам вольны ад капметэнтных спрэчак. На ўтрыманне некалькіх вераноўскіх піяраў пакінулі толькі суму, абапёртую на Мерачу. Паводле палажэння Веранова і Ліда мелі складаць разам адзін Дом[71]. Ужо ад 1757/58 школьнага года можна назіраць пэўнае раздваенне, якое палягала на дубляванні функцый (напр. Дамінік Грабоўскі ў Лідзе і Аляксандр Хлявінскі ў Веранове былі адначасова гісторыкамі Дому, архівістамі і распарадчыкамі выдаткаў). У 1759 г. канфлікт набыў вострыя формы: лідскі суперыёр Антоні Астроўскі і 3 манахі, якія знайходзіліся ў гэтым цэнтры, не былі фармальна запрошаны на паседжанне лакальнай капітулы ў Веранове, якая адбылася 19 ліпеня. гэтае здарэнне выклікала шэраг палемічных выказванняў і пратэстаў. Разгараўся таксама канфлікт сярод вераноўскіх манахаў, бо з рашэннем рэктара Радамыскага не згаджаўся м. ін. вераноўскі віца-рэктар Цэзары Вышамірскі, а таксама Інакенці Бянеўскі[72]. Гэтая справа прыспешыла атрымання самастойнасці лідскім цэнтрам, які ў 1759 г. стаў паўнапраўным калегіюмам, які кіраваўся рэктарам. Стаў ім часовы начальнік лідскіх піяраў Антоні Астроўскі (Юзаф, Антоні ад св. Юзафа, 1720 - 1778, рэктар у Лідзе 1756 - 1763). Быць можа, уласна з тымі падзеямі звязана загадкавая заўвага Вайшвілы: *"Толькі раз, як сцвярджае паданне, была перарвана цішыня* [панаваўшая ў Веранове] *і то з-за прыбышаў, сварка выбухла падчас вераноўскай нарады ці капітулы, на якой сабраныя айцы пасварыліся або не маглі ці не хацелі паразумецца, аднолькава ўдзельнічаць у выбарах"*[73]. З 1761/62 школьнага года вераноўскіх піяраў трактавалі як манахаў, аддэлегаваных у Геранёны, трымаючы ўсіх разам у рамках персанальнага складу лідскага Дома.

**Вераноўскія рэктары і суперыёры:**

1. Ян Багуцкі (1688 - 1756), 1737 - 1742.
2. Гіпаліт Жагліцкі (1691 - 1755), 1742 - 1745.
3. Гардзіян Войцех Скаўронскі (1690 - 1768), 1745 - 1748.
4. Леан Людвік Галавінскі (1707 - 1759), 1748 - 1751.
5. Клеменс Галавінскі (1708 - 1755), 1751 - 1755.
6. Ян Багуцкі (1788 - 1756), 1755 - 1756.
7. Нікадэм Казікоўскі (1705 - 1783), 1756 - 1757.
8. Ёахім Радамыскі (1698 - 1771), 1757 - 1760, потым суперыёр вераноўскай рэзідэнцыі, 1760 - 1768.

**Прэфекты вераноўскай школы:**

1740/41 - Алексы Аўсяны;
1741/42-1742/43 - Эразм Іздэбскі;
1743/44 - Генрык Шачынскі;
1744/45-1745/46 - Геранім Мадзалеўскі;
1746/47-1747/48 - Яцак Залескі;
1751/52 - Віктарын Квяткевіч;
1754/55-1755/56 - Антоні Астроўскі.

***Пераклад Станіслава Судніка.***

*(Працяг у наступным нумары.)*

[68] Тэкст апублікаваў М. Балінскі, Dawna Akademia Wilenska. Proba jej historii od zalozenia w roku 1579 do ostatecznego jej pszekształcenia w roku 1803, Peterburg, 1862, s. 195.

[69] Ё. Вайшвіла сцвярджае, што ў 1758 г. у Веранове працаваў толькі адзін настаўнік, які абмяжоўваўся навучаннем чытанню. "[...] Потым ужо ніводнага не было", s. 35.

[70] Праўдападобна як на пробстве, як напр. Юзаф Вогель (1712-1774). У той час памёр Антоні Лукашэвіч (1693-1773). У ранейшы перыяд у Веранове памёр Генрык Шачынскі "гаспадарчы віца-рэктар" (1690-1745), Францішак Ляневіч (1698-1747).

[71] J. Wojszwillo, s. 61.

[72] Пар. на тую тэму перапіску ў рукапісе з Генеральнага піярскага архіва ў Рыме (AGSP), sygn. Reg. Prov. 58 (напр. ліст Антонія Астроўскага да генерала ад 15 лістапада 1759 г., сведчанне Цэзарыя Вышамірскага ад 14 верасня 1759 г.).

[73] J. Wojszwillo, s. 48. Вайшвіла, мабыць, нічога больш дакладнага пра гэтую справу не ведаў, паколькі дадаў: "Можа гэта жарцік, зрэшты".

***Дадатак***

# Дамова аб заснаванні піярскага калегіюма ў Воранаве (Веранове)

***Biblioteka Czartoryjskich (Archiwum i Zbior Rekopisow). Sygn. 13135. Аркушы без нумароў***

01.08.1735.

Паміж намі, Янам дэ Кампа і Тарэсай з Глябіцкіх-Юзафовічаў Сцыпіёнамі, кашталянамі смаленскімі, старастамі барцянскімі, сужонцамі, а таксама Юзафам дэ Кампа і Вярэнай з Фірлеяў на Дубровіцы Сцыпіёнамі, лідскімі і мукараўскімі старастамі з аднаго боку.

А ... Анжалмена (касцёла) Св. Францішка ордэна Scholar Piarum, ад Найправялебнейшага ў Богу ЯМ-сці ксендза Людвіка (касцёла) св. Яна, віца-правінцыяла ўсёй правінцыі Літоўскай нашага ордэна, для трактавання з ... вышэйузгаданымі ЯВп Сцыпіёнамі і на грунце дадзенай даверанасці, ... камісарам з другога боку, добраахвотна гэтым неадменным дакументам, у пунктах, кандыцыях і абавязках ніжэй прыведзеных (дамовіліся):

1. Мы, Сцыпіёны, прагнучы каб Слава Божая на кожным месцы, асабліва на нашых землях і для нашых падданых прымнажалася праз пабожныя навукі ў гарлівым і адмысловым Законе прывялебных у Богу Іх Міласцяў ксяндзоў Scholar Piarum, у нашай дзедзічнай маёмасці, у Балотным, а зараз у мястэчку з назвай Вераноў у Лідскім павеце, прызначаем асаблівы інструмент фундацыі згодна з пунктамі гэтага дакумента, падпісанага нашымі рукамі.

2. Месца для касцёла, кляшатра і школы згодна з планам, які намі, фундатарамі прызначаны, выдзяліць на рынку гэтага мястэчка Вераноў і ў адмысловых дакументах запісаць памеры і межы пляцу.

3. Месца і могілкі, на якіх зараз знаходзіцца стары драўляны касцёл, не павінна быць забрана ... і павінна застацца ў сваіх межах. Калі б, аднак, нейкая капліца ці нешта іншае накшталт кальварыі ў памяць Пакут Божых на гэты месцы былі б фундаваныя, дык гэта маглі рабіць мы, ці іншыя фундатары.

4. Грошы для гэтага фундушу для дванаццаці законнікаў прызначаны ў суме сямдзесят дзве тысячы польскіх злотых манетай ... а першай чаргой з асабістых сродкаў пяцьдзесят тысяч польскіх грошаў, гэта першыя выплата з Асавы Лапацінскай, набытай у ЯВп Лапаты і зараз нашай дзедзічнай маёмасці, якая ляжыць у тым жа Лідскім павеце ... . Другая частка сумы ад ЯВп Самуэля Беліковіча з яго дзедзічнай вёскі Асава Белікоўская, якая таксама знаходзіцца ў Лідскім павеце, у памеры пяць тысяч польскіх злотых. Трэцяя частка сумы з дзедзічнага мястэчка Найяснейшых князёў Ягамосцяў панства Сапегаў Ружанаў, якое знаходзіцца ў пацэсіі ЯВп Новаседскага, старасты Любашанскага ў Слонімсскім павеце, забяспечанае яўрэйскім кагалам у памеры дзесяць тысяч польскіх злотых. Чацвёртая частка сумы забяспечана заставай і распіскай на маёмасці Мерач Франскевічаў, што знаходзіцца ў Віленскім ваяводстве, мае памер дваццаць тысяч польскіх злотых. ...

5. Да вышэй вызначанай намі сумы ў пяцьдзесят тысяч, дадаюцца грошы дзедзічнай маёмасці ЯВп Войцеха Стацэвіча, які адышоў да Бога, здадзенай у заставу ЯВп Антону Халкоўскаму ... .

6. С другога боку кс. Анжалмена (касцёла) Св. Францішка ... прымае фундуш і ... абавязуецца .... выканаць тое што належыць. ...

7. З гэтых абавязкаў, першым ёсць ... накіраваць на пачатку двух піяраў-законнікаў у Вераноў ... а потым пабудаваць добры калегіюм і іншыя будынкі школы, дзе маглі б жыць дванаццаць манахаў, пакінуўшы для пабудовы новага касцёла месца згодна з планам, які хутка намі, фундатарамі, будзе пададзены. ...

8. ...

9. Каб школа ... адчынілася ў тэрмін, неабходна каб хоць чатыры ксяндзы пасля вакацый ... пачалі выкладаць грамату ў інфіме ...

10. Як з-за ўласнай руплівасці ў памнажэнні Божай Славы, гэтак і па фундушовай дамове, ксяндзы Scholar Piarum павіны служыць набажэнствы з казаннем у нядзелю і на Святы ... . Люд паспаліты інфармаваць у справах веры і для гэтага штотыдзень у прызначаны час катэхізаваць. Шляхецкую і іншую моладзь вучыць пабожнасці і добрым звычаям, рабіць іншыя справы для Славы Божай і клапаціцца пра ўратаванне душ. ...

11. Каб згодна з планам былі пабудаваны будынкі касцёла, кляштара, школы, каб быў сад і іншае, неабходнае для жыцця ... . Але каб ксяндзы-піяры на прызначаным пляцы больш ніякіх будынкаў для прыбытку не будавалі, ніякіх рамеснікаў, падданых ці прыезджых тут не сялілі ... .

12. ...

13. Вялікая падзяка ЯВп Войцаху Стацэвічу за яго абавязацельства аплачваць ксяндзам піярам навучанне аднаго з носьбітаў яго прозвішча ... .

14. Усе гэтыя пункты прынятыя па ўзаемнай згодзе ...

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***



***Лідская пячатка 1743 г.***

Валеры Сліўкін

# Вялікая Лідская сінагога (1896 - 1941)

Сінагог у заходніх расійскіх гарадах было шмат, у Бярдзічаве, напрыклад, было больш за сто сінагог. Самую высокую і багатую гарадскую сінагогу звалі Вялікай сінагогай. У яе кіраванне ўваходзілі самыя забяспечаныя і паважаныя габрэі горада.

Лідская Вялікая сінагога ў архітэктурных адносінах была адной з самых цікавых у Заходнім краі. Якія-небудзь матэрыялы пра яе ў друку адсутнічаюць.



*Лідская Вялікая сінагога. 1911 г.*

**Праектаванне**

Для сінагог не было прадпісана вызначаных архітэктурных формаў, праектаванне нічым не абмяжоўвалася. Сінагога павінна была мець вестыбюль, каб тыя, хто ўваходзіў ў сінагогу пакідаў мірскія клопаты і настройваўся на малітву; і вокны, каб пры малітве мог бачыць неба. Фасад сінагогі арыентаваўся на Іерусалім - на нашых землях на поўдзень. Пажадана, каб сінагога стаяла на самым высокім месцы ў горадзе.

24 жніўня 1892 г. упаўнаважаны Лідскага габрэйскага духоўна-малітоўнага кіравання, галосны гарадской думы Лазар Іосіфавіч Пупко прадставіў у Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання праект на пабудову ў Лідзе Вялікай мураванай сінагогі. Праект гэтай сінагогі, як і сінагогі 1893 г, склаў губернскі архітэктар Аляксей Уладзіміравіч Полазаў. На праекце напісана: *"11 жніўня 1892 года. Праект складаў і наглядаў за работамі губ. архітэктар Полазаў"*.

1 верасня 1892 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання палічыла, што *"праект складзены ў тэхнічных адносінах здавальняльна"*. Губернскі інжынер М.В.Айвазаў, губернскі архітэктар А.В. Полазаў, малодшы інжынер Л.Д. Вінер і малодшы архітэктар М.М. Прозараў на сваім паседжанні пастанавілі: *"Праект на пабудову ў Лідзе мураванай сінагогі зацвердзіць, з тым, каб работы былі праведзены ва ўсім паводле праекта і пад наглядам тэхніка, які мае права на правядзенне работ"*. 2 верасня губернскі інжынер накіраваў у Другое аддзяленне Віленскага губернскага кіравання копію пастановы. І на гэтым клопаты па праектаванні сінагогі завяршыліся.



*Пярэдні фасад*



*Бакавы фасад*

Эскізна праект быў добры. Двухпавярховы прастакутны, амаль квадратны па вонкавым контуры, будынак (23х28 м) вышынёй у 30 метраў. Сцены мятровай таўшчыні, чатыры ўнутраныя апорныя квадратныя слупы. Двух'ярусная структура з павялічаным другім ярусам. Цэнтральны партал, упрыгожаны падковападобнай аркай, акном-ружай, двухстворкавыя дзверы. 43 акны, 8 з іх на фасадзе з вітражнымі шыбамі. Фігурны мур двухколернай цэглы. Міжпаверхавы пояс парэбрыка. Пілястры. Паўкалоны з базамі і капітэлямі ў міжаконных праёмах на другім паверсе. Шырокі карніз з зубчыкамі. Фігурны атык, фігуры на вуглах. Чатырохсхільны дах. Шасціграннны светлавы барабан з круглымі вокнамі з мазаічнымі рознакаляровымі зоркамі Давіда, завершаны купалам са спічаком.



***План 1-га паверха***



***План 2-га паверха***

Неавізантыйскі спосаб кладкі цэглы, арабскія спічастыя вокны, гатычнае акно-ружа, гатычныя вітражы ў вокнах, купал эпохі Адраджэння - відавочная эклектыка. Адмыслоўцы па тэорыі архітэктуры падобныя будынкі адносяць да неамаўрытанскага стылю. У якасці прататыпу для Лідскай Вялікай сінагогі мог паслужыць праект Вялікай харальнай Санкт-Пецярбургскай сінагогі.



***Праект Вялікай харальнай сінагогі ў Санкт-Пецярбургу***

**Будаўніцтва**

21 чэрвеня 1896 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання пацікавілася, ці скончана будаўніцтва сінагогі, і накіравала ў Лідскае павятовае паліцэйскае кіраванне ліст з прапановай перакаанацца на месцы, *"ці скончаны работы па пабудове ў Лідзе сінагогі і ў сцвярджальным выпадку абавязаць упаўнаважанага Лідскай малітоўнай грамады Лазара Пупко неадкладна заявіць пра гэта пісьмова Губернскаму кіраванню на прадмет агляду праз тэхніка будаўнічага аддзялення"*.

Памочнік Лідскага паліцэйскага спраўніка П.А. Чырыкаў 10 ліпеня 1896 г. паведаміў у Будаўнічае аддзяленне: *"што паліцэйскім наглядчыкам г. Ліды асабіста праведзены агляд будынка мураванай габрэйскай сінагогі, работы па пабудове якой яшчэ не скончаны, і як заявіў яму ўпаўнаважаны малітоўнай грамады мяшчанін Лазар Пупко, работы скончацца прыблізна праз месяц..."*.

23 жніўня 1896 г. упаўнаважаны Лідскай габрэйскай грамады Лазар Іосіфавіч Пупко паведаміў Губернскаму кіраванню: *"... дазволеная па пастанове Губернскага кіравання 1 верасня 1892 г. у г. Лідзе габрэйская мураваная сінагога, паводле праекта скончана пабудовай, і таму пакорна прашу Губернскае кіраванне камандзіраваць тэхніка для агляду сінагогі і дазволіць у ёй набажэнства"*.

Губернскі інжынер Леанід Дзмітрыевіч Вінер пры ўдзеле лідскага павятовага спраўніка Сцяпана Мацвеевіча Ляўданскага 2 снежня 1896 г агледзеў сінагогу: *" ...сінагога пабудавана паводле зацверджанага плану здавальняльна, за выключэннем хораў, якія хоць і ўладкаваны на металічных апорах, але верхнія часткі*



іх, бэлькі, падлога і балюстрада зроблены з дрэва, што не супадае з праектам, дазволеным Губернскім кіраваннем. Таксама на дзвюх лесвіцах, якія вядуць на гэтыя хоры, уладкованы драўляныя парэнчы, наўзамен незгаральных, паказаных на плане. На падставе агляду мы знаходзім, што ў мураванай сінагозе можна дапусціць набажэнства з абмежаваннем колькасці людзей, якія моляцца на хорах да 180 чалавек. З улікам жа таго, што хоры і лесвіцы ўладкованы не па дазволеным праекце, прапанаваць упаўнаважанаму Лідскай габрэйскай грамады Лазару Пупко зрабіць пераробку хораў і лесвіцы, як паказана ў праекце, і пасля заканчэння гэтых работ заявіць у Губернскае кіраванне пра агляд іх.

*Губернскі інжынер Л.Д. Вінер.*
*Лідскі павятовы спраўнік С.М. Ляўданскі".*



Увогуле прыняў, але з абмежаваннямі. Рэзалюцыя Губернскага кіравання была ідэнтычнай, але больш шматслоўнай: *"Габрэйская сінагога ў г. Лідзе пабудавана паводле зацверджанага плану здавальняльна, за выключэннем хораў, якія хоць і ўладкаваны на металічных апорах, але верхнія часткі іх, бэлькі, падлога і балюстрада, зроблены з дрэва, што не супадае з праектам, дазволеным Будаўнічым аддзяленнем. Сапраўды таксама на 2-ух лесвіцах, якія вядуць на хоры, уладкованы драўляныя парэнчы наўзамен незгаральных, паказаных на плане. На падставе прапісанага агляду вызначана, што ў мураванай сінагозе можна дапусціць набажэнства з абмежаваннем колькасці людзей, якія моляцца на хорах, да 180 чалавек. З-за таго, што хоры і лесвіцы ўладкованы не па дазволеным праекце, прапанавана ўпаўнаважанаму Лідскай габрэйскай грамады Лазару Пупко зрабіць пераробку хораў і лесвіцы, як паказана ў праекце і пасля заканчэння гэтых работ заявіць у Губернскае кіраванне пра агляд іх. Губернскае кіраванне вызначыла дапусціць у зноў выбудаванай у г. Лідзе*



*габрэйскай сінагозе набажэнства з абмежаваннем колькасці людзей, якія моляцца на хорах, да 180 чалавек і з неабходным абавязаннем, каб хоры і лесвіца ў сінагозе былі перароблены паводле прапісанай заўвагі і пасля заканчэння гэтых работ было б заяўлена Губернскаму кіраванню пра агляд іх. Пра гэтае распараджэнне для назірання за выкананнем пераробкі хораў і лесвіцы ў сінагозе і для аб'явы ўпаўнаважанаму Лідскай габрэйскай грамады Лазару Пупко, са спаганнем з апошняга адной на 80 кап. гербавай маркі, даць ведаць Лідскаму павятовому паліцэйскаму кіраванню, прадставіўшы яму распіску яго, са спагнанаю на 80 кап. гербаваю маркаю, прадставіць у Губернскае кіраванне.*

*19 снежня 1896 г.*
*Губернскі інжынер, подпіс.*
*За Віца-Губернатара в.а. дарадцы, подпіс.*
*В.А. губернатара віца-губернатар, подпіс.*
*Выканана 22 снежня 1896 г.*

Такім чынам, будаўніцтва Вялікай лідскай сінагогі было завершана ў жніўні 1896 г, набажэнства дазволена ў снежні 1896 г. Будавалі Вялікую лідскую сінагогу 4 гады.

19 студзеня 1897 г. Лазар Пупко даў паліцэйскаму наглядчыку г. Ліды Сяргею Міхайлавічу Кузь-

мінскаму распіску ў тым, што прапанова Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання ад 22 снежня 1896 г. *“... мне гэтага дня абвешчана ў дакладнасці".*

**Пераробкі**

Наступныя тры гады ішла цягамотная перапіска з нагоды пераробкі драўляных хораў і лесвіцы на другі паверх.

17 верасня 1897 г. губернскі інжынер Л.Д. Вінер прасіў лідскага павятовага спраўніка *"распарадзіцца дазнацца, ці скончаны гэтыя работы ў сінагозе, а калі яшчэ не, то абавязаць каго належыць пра неадкладнае выкананне такіх работ, пра наступнае апавясціць".*

У адказе загадчык Лідскай габрэйскай сінагогі Л.І. Пупко растлумачыў, *"што драўляныя парэнчы на дзвюх лесвіцах, якія вядуць на хоры сінагогі, знішчаны, і што самі хоры і балюстрады ў наш час абтынкованы абапал і самі балюстрады абцягнуты жалезнаю меддзю так, што ў пажарных адносінах, а роўна ў самой трываласці прыстасавання ніякай небяспекі не ўяўляецца. Разам з тым, мною прымаюцца меры па перабудове хораў паводле ўказання Будаўнічага аддзялення, на што просіцца мною водпуск сумаў з рэштак скрынкавага збору".*

10 сакавіка 1898 г. Будаўнічае аддзяленне зноў просіць лідскага паліцэйскага спраўніка *"пераканацца на месцы ... можа быць у наш час скончаны работы ў мураванай габрэйскай сінагозе ў г. Лідзе па пераробцы драўляных хораў і лесвіцы на незгаральныя, у выпадку пацверджання абавязаць загадчыка той школы Лазара Пупко неадкладна заявіць пра гэта*



*Будаўнічаму аддзяленню на прадмет агляду тых работ тэхнікам, пра наступнае ж апавясціць аддзяленне".*

Выканавец пасады Лідскага павятовага спраўніка С.М. Ляўданскі 20 сакавіка 1898 г. апавясціў Будаўнічае аддзяленне, *"што работы па замене драўляных хораў і лесвіцы незгаральнымі ў мураванай габрэйскай сінагозе ў г. Лідзе зусім не праводзіліся".*

18 верасня 1898 г. губернскі інжынер Л.Д. Вінер у трэці раз звярнуўся да Лідскага павятовага спраўніка: *"... ці заменены ў наш час у мураванай габрэйскай сінагозе ў г. Лідзе драўляныя хоры і лесвіцы незгаральнымі, у адмоўным выпадку настаяць на каго трэба пра неадкладную замену такіх, пра наступнае ж апавясціць аддзяленне".*

На што кіраўнік сінагогі Л.І. Пупко 30 верасня растлумачыў: *"1. Што ў Лідскай габрэйскай Вялікай сінагозе незгаральныя лесвіцы ўжо ўладкаваны; 2. Што існыя хоры жаночага аддзялення ўладкаваны, фактычна абтынкованыя з абодвух бакоў і пакрытыя зверху бляхай, на жалезных слупах і рэйках, не ўяўляюць ніякай небяспекі ні ў пажарных, ні ў будаўнічых адносінах і што гэтыя самыя хоры мяркуюць замяніць жалезнымі па асігнаванні Губернскім кіраваннем грошай з рэштак скрынкавых сум гэтага чатырохгоддзя".*

Паліцэйскі наглядчык г. Ліды Сяргей Міхайлавіч Кузьмінскі ад сябе дадаў: *"Я на месцы пераканаўся ў тым, што ў сінагозе ўладкованы лесвіца на рэйках скляпеністая, прыступкі цэментавыя; што ж датычыцца хораў, то такія драўляных частак не маюць і па маім меркаванні небяспекі ў пажарных адносінах не ўяўляюць, у будаўнічых жа адносінах пры параўнальна малаважнай колькасці людзей, якія моляцца ў гэтай сінагозе бяспечныя, па заяве кіраўніцтва сінагогі да работ па перабудове хораў не могуць прыступіць да адшукання сродкаў".*

Прыпіска паліцэйскага наглядчыка С.М. Кузьмінскага вымусіла Л.Д. Вінера апраўдвацца: *"Лідскаму павятоваму спраўніку. Пры аглядзе губернскім інжынерам 18 верасня 1896 г мураванай габрэйскай сінаногі ў г. Лідзе між іншым знойдзена, што на хорах гэтай сінагогі верхнія часткі іх, бэлькі, падлога і балюстрада зроблены з дрэва, што не супадае з праектам, дазволеным Будаўнічым аддзяленнем, так роўна на 2-х лесвіцах, якія вядуць на гэтыя хоры, уладкованы драўляныя парэнчы наўзамен незгаральных, паказаных на плане. Пра пераробку частак хораў і парэнчаў на лесвіцах неаднаразова было прадпісана ўпаўнаважанаму Лідскай малітоўнай габрэйскай грамады мяшчаніну Лазару Пупко, але .. , як відаць з перапіскі праведзенай Вамі 7 гэтага кастрычніка прапісаныя недахопы ў сінагозе не ўхілены, з-за адсутнасці на гэта сродкаў. Па выніку выкладзенага Будаўнічае аддзяленне Губернскага кіравання просіць Ваша Высакароддзе распарадзіцца, каму належыць, каб пры першай магчымасці выяўленыя вышэй недахопы ў сінагозе былі б ухілены і па выкананні гэтага своечасова давесці да ведама Аддзялення”.*

І ў той жа дзень ён адправіў справу ў архіў,

мабыць, прыпіска Кузьмінскага аказалася пераканаўчай. *"Гэтую справу, як тую, якая не патрабуе далейшай вытворчасці, лічыць скончанай і здаць своечасова ў архіў для захоўвання. 8 кастрычніка 1898 г. Губернскі інжынер Вінер".*

На гэтым справа пра сінагогу не скончылася. 20 ліпеня 1899 г. губернскае начальства ўспомніла, што на паездку ў Ліду, на прагоны і сутачныя было выдаткавала 14 р. 18 кап. і, *"прымаючы да ўвагі, што паездка 12 верасня 1896 г. губернскага інжынера ў г. Ліду зроблена па прыватнай справе габрэяў Лідскай грамады для агляду грамадскай сінагогі іх, і ... выдаткі ў падобных выпадках па адкамандзіраванні службоўцаў пакрываюцца з уладальнікаў тых маёмасцяў, а таму прапанаваць Лідскаму павятоваму спраўніку неадкладна спагнаць з чальцоў малітоўнага кіравання названай сінагогі... 14 р. 13 кап. і ўнесці ў мясцовае казначэйства для залічэння ў прыбытак казны, пра выкананне чаго данесці Губернскаму кіраванню з пазначэннем колькасці і № квітанцыі казначэйства.*

*Губернскі інжынер, подпіс.*
*Віца-губернатар, подпіс.*
*Губернатар, подпіс".*




**_Ліда. Вуліца Садовая_**



**_Копія здымка 1911 г з надпісам на рускай і польскай мове_**

23 лютага 1900 г. нанава прызначаны Лідскі павятовы спраўнік Махцэвіч А.В. рапартуе Будаўнічаму аддзяленню, *"што за паездку губернскага інжынера 12 верасня 1896 г. у г. Ліду для агляду габрэйскай сінагогі 14 руб. 13 кап. з упаўнаважанага Лідскай габрэйскай грамады Лазара Пупко спагнаны і ўнесены ў Лідскае павятовае казначэйства пад квітанцыю ад 14 гэтага лютага за № 1050".*

На гэтым справа пра будаўніцтва сінагогі скончылася.

Пабудавана была Вялікая сінагога ў Школьным двары каля паўночна-заходняга рога Рынкавага пляца.




**_Рынкавы пляц і сінагога_**



**_Цень ад дрэў валіцца на паўднёвую сцяну сінагогі. Фасад, як і належыць, арыентаваны на Іерусалім_**

Цяпер гэта тэрыторыя паміж Лідскай школай мастацтваў (былы Дом афіцэраў) і інтэрнатам "Лакафарбы" на вул. Кірава. Па ўсходняй ускраіне Школьнага двара праходзіла вул. Садовая, паралельная вул. Савецкай.

Вядома шэсць здымкаў Вялікай сінагогі, 5 з іх зроблены да і падчас Першай Сусветнай вайны, шосты - напачатку Другой Сусветнай вайны. Здымалі толькі




***Ліда. Сінагога***



***E. Holzlahner. 1917. Шафа для скруткаў Торы (Сінагогальны Каўчэг)***



***Ліда. Сінагога***



***Нямецкія салдаты на фоне згарэлай сінагогі. Восень 1941 г.***

ў двух ракурсах, Школьны двор быў шчыльна забудаваны. Паштовак было выпушчана шмат, першыя з іх - у 1911 г. Гэта быў самы эфектны будынак горада.

Лідскай Вялікай сінагозе быў адпушчаны кароткі тэрмін - 45 гадоў. Згарэла сінагога пасля жахлівага бамбавання 23 чэрвеня 1941 г. Сцены яшчэ заставаліся. Увосень 1941 г. немцы фатаграфаваліся на яе фоне. Узімку 1941/42 гадоў па распараджэнні гебітскамісара Ханвега сінагога была разабрана дашчэнту. Будаўнічае смецце пайшло на адсыпку дарогі па забалочаным участку вул. Міцкевіча ад пр. Перамогі да вул. Савецкай.

**Першакрыніцы:**

Лакотка А.І. Архітэктура еўрапейскіх сінагог. Менск. 2002.

LVIA. Фонд 382. Оп. 1. Д.1449. Справа пра дазвол пабудаваць у г. Лідзе сінагогу Лазару Пупко.

Фатаграфіі падаў Леанід Леанідавіч Гарцуеў.

***Паводле сайта lida.info.***

Леанід Лаўрэш

# Новае пра Лідскія гарадскія могілкі

Пасля маёй апошняй публікацыі пра старыя лідскія могілкі, з'явілася новая, цікавая інфармацыя. Уласна кажучы, для мяне гісторыя могілак - гэта гісторыя, людзей, лідзян, якія там пахаваны.

**Вайсковая частка могілак**

Былы лідзянін Ян Часлаў Станіслаўскі, маці якога была з сям'і Вісмантаў, усё сваё дзяцінства і маладосць пражыў у раёне горада, які раней меў назву Вісманты - каля старых гарадскіх могілак. Ён пісаў:

*"Я жыў на Вісмантах (вуліцы Вісманты) і меў маці з сям'і Вісмант, якая таксама ўсё жыццё пражыла тут. Каля 1930 г. маю вуліцу пераназвалі ў вуліцу Гражыны. Пры гэтым наш дом № 35 стаў домам № 65. У дзяцінстве мае падарожжы заводзілі мяне не далей за старыя могілкі, на якіх быў пахаваны дзед Ян, прадзед Рафал і ... брат маёй мамы. ...*

*Праз нізкі мур* (з боку тагачаснай вуліцы Мяніцкага, зараз Розы Люксембург - *Л.Л.*) *глядзеў я на надмагіллі пад разлеглымі ліставымі дрэвамі, елкамі і соснамі якія былі бачны ў слабым святле вулічных ліхтароў. ... Самай прыгожай часткай могілак лічыліся, выгараджаныя нізкім плотам, вайсковыя пахаванні. Тут меліся магілы палеглых у паўстанні Касцюшкі 1794 г., у паўстанні 1831 г. і паўстанні 1863 г. Большую частку могілак займалі магілы палеглых у Першай сусветнай вайне 1914-1918 гг. З іншых вайсковых магіл былі выдзелены магілы лётчыкаў. Тут меліся самыя прыгожыя надмагіллі, і кожную магілу пазначаў самалётны прапелер. ... Пасярод вайсковых могілак узнімаўся высокі гранітны абеліск на версе якога раскрыў крылы белы арол лётчыкаў з белага граніту"*[1].

Вядома, што касцюшкаўцы ў Лідзе былі пахаваны каля Фарнага касцёла - пра гэта меўся запіс у метрычных актах Лідскага касцёла за 1794 г.: *"Усе, забітыя падчас аблогі Ліды, пахаваны каля касцельнай агароджы"*[2]. Верагодна, пасля 1920 г. парэшткі паўстанцаў Касцюшкі і Каліноўскага былі перазахаваны на новых на той час, вайсковых могілках на Вісмантах. Калі я правільна разумею генезіс стаўлення рускіх уладаў да нашага краю, дык жаўнеры 1831 г. маглі быць пахаваны тут цалкам легальна, здаецца, тады яшчэ імперскія ўлады не ваявалі з мёртвымі, як гэта адбывалася пасля 1863 г.

Абеліск на вайсковай частцы старых гарадскіх могілак - праца маладога ў той час мастака Рафала Яхімовіча (Rafal Jachimowicz), пастаўлены на грошы, сабраныя лідскімі чыгуначнікамі. Газета "Przewodnik Katolicki" сцвярджала, што абеліск быў пастаўлены ў гонар палеглых у 1919 і 1920 гг. пад Лідай польскіх жаўнераў і 47 (па версіі Шымялевіча 40) расстраляных ЧК закладнікаў[3], а таксама загінуўшых у мірны час лётчыкаў 11-га авіяцыйнага палка (5-ты авіяцыйны полк дыслакаваўся ў Лідзе пасля 1927 г.) Улічваючы, што публікацыя ў каталіцкай газеце была надрукавана ў сакавіку 1925 г., помнік работы Рафала Яхімовіча пастаўлены не пазней за 1924 г.

Можна выказаць здагадку, што першапачаткова на абеліску меліся дошкі, прысвечаныя жаўнерам, загінуўшым у 1919-1920 гг., і расстраляным закладнікам. Пра асобныя магілы жаўнераў Першай сусветнай вайны пісаў Міхал Шымялевіч. А пра тое, што на абеліску мелася шыльда, прысвечаная закладнікам, пісаў журналіст у рэпартажы з пахавання пілота Ціхоцкага: *"Пры самым канцы могілак знаходзяцца магілы ваенных і невядомых: "Магіла 40 невядомых закладнікаў ...", цяжка прачытаць працяг, бо гэты помнік засланілі новыя крыжы"*[4]. Аднак, акрамя шыльды на абеліску, мог стаяць і асобны помнік расстраляным закладнікам.

Шыльды і помнікі расстраляным закладнікам, жаўнерам 1919-1920 гг., жаўнерам Першай сусветнай вайны, паўстанцам Касцюшкі, паўстанцам 1831 і 1863 гг., відочна, знішчаны пасля 1939 г.

***Рафал Яхімовіч*** *(польск. Rafal Jachimowicz; літ. Rapolas Jakitavicius; 20 кастрычніка 1893, Вільня - 19 лютага 1961, Вільня) - літоўскі і беларускі мастак і скульптар.*

*У 1913-1914 гг. Яхімовіч вучыўся ў мастацкай школе І. П. Трутнева, у 1915-1919 гг. займаўся ў студыі скульптуры Антонія Вівульскага, потым у 1919-1922 і 1923-1926 гг. вучыўся на аддзяленні прыгожых мастацтваў Універсітэта Стэфана Баторыя у прафесара Баляслава Балзукевіча*[5]*. У 1922-1923 гг. Рафал Яхімовіч вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Кракаве (у Канстанты Ляшчкі). Удасканальваўся ў Парыжы (1925 г.) і Італіі (1927 г.).*

*У 1915-1919 гг. выкладаў у Віленскім рамесным вучылішчы. Пасля Другой сусветнай вайны працаваў выкладчыкам у Віленскім мастацкім інстытуце (1944-1961 гг.), з 1947 г. - дацэнт.*

[1] Асабісты архіў аўтара.
[2] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок. // Виленский календарь. Вильно. 1906, С. 51.
[3] Przewodnik Katolicki. № 11, 15 marca 1925.
[4] Slowo № 108 (1719) 12 maja 1928.
[5] Баляслаў Балзукевіч - скульптар з вядомай мастацкай дынастыі, сын скульптара Вінцэнта Балзукевіча, брат мастакоў Юзафа і Люцыі Балзукевічаў. Баляслаў Балзукевіч - прафесар Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя (1919 г.), у 1919-1935 гг. загадчык кафедры скульптуры гэтага ўніверсітэта.

*З 1916 г. Рафал Яхімовіч актыўна ўдзельнічаў у выставах. Стварыў скульптурныя кампазіцыі "Смерць Ікара" (1919 г.), "Карыятыды" (1922 г.), "Бой з кентаўрам" (1925 г.). Аўтар скульптурных партрэтаў Уладзіслава Сыракомлі (1930 г.), Тадэвуша Урублеўскага (1930 г.), Пятраса Вайчунаса (1931 г.), Вінцаса Крэве (1941 г.), Эўгеніі Таўткайтэ (1960 г.).*

*У 1930 г. ў віленскім касцёле Святога Мікалая быў усталяваны бронзавы бюст Вялікага князя ВКЛ Вітаўта выкананы Яхімовічам. Прымаў удзел у стварэнні помніка 1200 гвардзейцам ў Калінінградзе (1945 г.). У 1960 г. у Вільні быў усталяваны помнік акцёру і дырыжор Барысасу Даўгувецісу з бюстам работы Яхімовіча.*

*Рафал Яхімовіч - аўтар некалькіх надмагільных помнікаў на могілках Росы, у тым ліку Тадэвушу Урублеўскаму (1930 г.) Стварыў некалькі статуй для касцёлаў Вільні. У віленскім Кафедральным саборы Святога біскупа Станіслава і Святога Уладзіслава ўсталяваны бюст Ёнаса Басанавічуса (1943 г.).*

*Зразумела, што пасля 1939 г. Яхімовіч не быў зацікаўлены ў распаўсюдзе інфармацыі аб сваім аўтарстве лідскага помніка на вайсковай частцы могілак.*

**Пра аднаго з пахаваных тут лётчыкаў**

***Камендатура дзяржаўнай паліцыі Лідскага павета, 20.7.1926***

*Пану старасту Лідскага павета*

***Справаздача***

*12 ліпеня 1926 г. у 15-30 палкоўнік Адам Залеўскі, намеснік камандзіра палка, узляцеў з аэрадрома 11 палка ў Лідзе. Узлёт адбыўся нармальна, і палкоўнік Залеўскі накіраваўся на ўсход. Каля гадзіны лётаў над Кір'янаўцамі, вёскай і маёнткам п. Лясоцкага за 15 км. ад Ліды, потым скіраваў самалёт у бок Ліды. Праз некалькі мінут зноў вярнуўся да Кір'янаўцаў і там, каля 17-00 самалёт разам з палкоўнікам Залеўскім упаў на зямлю за некалькі дзесяткаў метраў ад маёнтка.*

*Пасля катастрофы палкоўнік Залеўскі жыў яшчэ некалькі дзесяткаў мінут (больш за палову гадзіны), але з-за унутраных і знешніх пашкоджанняў памёр.*

*Вайсковая камісія ў складзе капітана Стахоня, паручніка Арлінскага і паручніка Мілеўскага ўстанавіла, што тэхніка была спраўная, а прычына катастрофы ў памылках арыентацыі на апараце "Спад", для палётаў на якім палкоўнік Залеўскі не меў адпаведнага вопыту. Таксама магчыма, што палкоўнік з-за невядомай прычыны страціў прытомнасць. Прычына катастрофы не была ўстаноўлена дакладна і грунтуецца толькі на дапушчэннях. Вышыня, з якой упаў самалёт плк. Залеўскага, была каля 150 м.*

*Цела прэпаравана ў вайсковым шпіталі лекарам маёрам Бучынскім. Стала вядома: косткі чэрапа не паламаныя, мозг не мае значных пашкоджанняў. У грудной клетцы зламаны 5 рэбраў з левага і 6 з правага боку. Рэбры часткова ўбіты ў лёгкія. Сэрца не пашкоджана. У лёгкіх каля 1 л. крыві. Органы брушной поласці не пашоджаны, але тут было каля 1,5 л. крыві. Левая і правая рука зламаныя. Правая нага зламаная ў 2-х месцах, а менавіта ў калені і галёнцы. Усё цела пашкоджана ўдарам, мае большыя ці меншыя раны.*

*Палкоўнік Залеўскі быў жанаты і бяздзетны. Родных, акрамя жонкі, не меў.*

*Пахаваны палкоўнік 15 ліпеня на мясцовых могілках пры ўдзеле грамадства, вайскоўцаў і прыбыўшых дэлегацый.*

*Павятовы камендант*
*подпіс.* [6]



***Вайсковая частка могілак***

**Цывільная частка могілак**

**Буткевічы.** Першым памыліўся Міхал Шымялевіч, напісаўшы, што жонка маршалка Лідскага павета Стэфана Буткевіча (19.02.1815 - 30.03.1896) пахавана разам з ім. Калі я знайшоў магілу маршалка, дык напалову разбіты надмагільны камень ледзь выглядваў з зямлі. Зараз, калі на могілках праведзена вялікая праца па аднаўленні, была знойдзена магіла жонкі Буткевіча - Эміліі Буткевіч з Адамовічаў (1813-1879). Насамрэч яна пахавана асобна ад яго, сярод

[6] ДАГВ. Ф. 200. воп. 1. спр. 9. А. 408.








***Агульны помнік сям'і Адамовічаў***

Адамовічаў. Агульны помнік сям'і Адамовічаў знаходзіцца на поўнач ад капліцы. На помніку Эміліі Буткевіч маецца толькі прысвячэння ад сына. Мужа, як быццам, і не было, хоць ён і перажыў жонку амаль што на 20 гадоў.

Дам трошкі дадатковай інфармацыі пра сям'ю Буткевічаў.

Маршалак шляхты Стэфан Буткевіч сам не прымаў удзел у паўстанні 1863 г., аднак вядома, што ён ратаваў паўстанцаў. Як мінімум аднаму з іх, свайму сваяку Балтазару Калясінскаму, ён дапамог сустрэцца з ваенным начальнікам Лідскага павета Алхазавым і, верагодна, праз добры хабар, зняць з яго частку абвінавачванняў[7].

Да пажару 1891 г. Буткевічы валодалі ў цэнтры горада прыгожым домам, Ян Сегень успамінаў: *"Насупраць плошчы, каля рынку па левым баку вуліцы быў пляц і драўляны дом, але вельмі прыгожы, і вялікі падворак у кветках і ружах, быў там таксама і сапраўдны жывы, нават не навязаны воўк, пострах для ўсіх дзяцей, асабліва яўрэйскіх. Быў гэта дом пана Буткевіча, маршалка ..."* [8].

Да 1913 г. Гарадская ўправа пад палкавую царкву арандавала ў сына былога маршалка Эміля Сцяпанавіча Буткевіча будынак, які стаяў у раёне горада "Ферма". У 1918 г. у Лідзе ўзнікла польская "Народная Рада" і ўзначаліў яе той жа Эміль Буткевіч. У сувязі з узростам і дрэнным станам здароўя ў хуткім часе ён адмовіўся ад гэтай пасады[9].

Брат Вацлава Іваноўскага Тадас Іванаўскас пісаў пра сына лідскага маршалка Эміля Буткевіча: *"Памятаю адно здарэнне, якое адбылося, калі цар Мікалай II ехаў па поўдзень і планаваў выйсці з цягніка на станцыі Зэльва, недалёка ад Наваградка. Сярод тых, хто сустракаў цара, знаходзіўся таксама наш сусед Эміль Буткевіч (бацька Мсціслава Буткевіча, які ў 1920 г. браў удзел у акцыі генерала Жалігоўскага супраць Літвы). Гэта быў вельмі высокі чалавек з цёмным колерам скуры і мангольскімі рысамі твару, што ў нашых краях было незвычайным і прыцягвала ўвагу. Вярнуўшыся з сустрэчы з царом ён праз тыдзень наведаў Лябёдку і падзяліўся навінамі. Адбылася такая размова Буткевіча з маёй маці.*

*- Добры дзень! - крыкнуў госць. - З самім царом размаўляў.*

*- Аб чым размаўлялі? - запытала маці.*

*- Было гэтак: на пероне станцыі нас паставілі ў шэраг, і ён хутка з'явіўся - сам цар. Нічога не кажучы, абышоў нашу групу, але каля мяне затрымаўся, націснуў мне пальцам на бруха і спытаў: "Мясцовы?" Я адказаў: "Дакладна так, Ваша Вялікасць!" Цар са здзіўленнем прамармытаў: "Гм-мм""* [10].

Можа гэты "ўсходні" выгляд сына маршалка лідскай шляхты быў вынікам нявернасці яго жонкі, і менавіта гэта прывяло да разрыву з мужам? Вядома, што ў Лідзе працяглы час стаялі чарнявыя данскія казакі, і той жа Ян Сегень паведамляў, што, *"з той нагоды* [у нас] *шмат засталося казацкай натуры"* [11]. Але

[7] Dzieje powstania lidzkiego : wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. S. 23.

[8] Сегень Ян. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец. 2001. № 12. С. 17.

[9] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 41.

[10] Tadas Ivanauskas, As apsisprendziu, Vilnius: Vyturys, 1994. P. 99.

[11] Сегень Ян. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец. 2001. № 12. С. 17.

гэта дапушчэнне магчымае толькі для рамана, а не гістарычнага даследавання, таму пойдзем далей.

Унук маршалка, Мсціслаў Буткевіч - палкоўнік, камандзір 13-га палка віленскіх уланаў, у 1930-я гг. валодаў фальваркам Бярозаўка, які знаходзіўся на адлегласці 3 км ад маёнтка Стрэліца. Таксама ён меў маёнтак Качанова, што пад Лідай.

На поўнач ад капліцы, калі ісці ад уvахода на могілкі, стаяць два помнікі з светлага каменю: Фелікса Лясковіча сына Юзафа (памёр 05.06.1876 г., жыў 56 гадоў), суддзі Лідскага павета, і яго дачкі Канстанцыі Лясковіч (памерла 01.02.1879 г.) Фелікс Лясковіч герба Кораб валодаў маёнткамі Кір'янаўцы і Бакуны (у 1844 г. 608 дзесяцін), Малая Бярозаўка (у 1844 г. 221 дзесяціна) і Бердаўка[12]. У Віленскай Памятнай кніжцы за 1850 г. у "Камітэце для нагляду за правільным продажам алкагольных напояў" як "дэпутат" фігуруе калежскі рэгістратар Фелікс Іосіфавіч Лясковіч[13].

Забавай нашых землеўладальнікаў у тыя часы, была гадоўля мядзведзяў. Фелікс Лясковіч ў Кір'янаўцах меў некалькі такіх "хатніх" жывёл, якія стала рабілі розныя штукі і паскудствы. Адзін з гэтых мішак надта любіў ездзіць у фурманцы - абы толькі панская брычка Лясковічаў прыязджала пад ганак Кір'янаўскага двара, мядзведзь адразу ўзлазіў на лаву брычкі, і фурман вазіў яго вакол дома. Неяк да Фелікса на непрацяглы час прыехаў госць, і таму коней не распрагалі. Брычка стаяла каля ганка, фурман драмаў ... калі раптам нехта пачаў моцна трасці яго за плечы. Заспаны вазніца аглянуўся і ўбачыў мядзведзя! Гэта мішка Ляскоўскіх ужо сядзеў у брычцы на панскім месцы і патрабаваў ехаць наперад! Напалоханы фурман імгненна збег з козлаў, а коні пачулі звера і панеслі. Язда была добрая, але кароткая. Брычка разбілася, коні пакалечыліся. Мядзведзь ніякім чынам не пацярпеў, але госць быў моцна незадаволены ...[14]

Малодшы сын Фелікса - Войцех Альберт Лясковіч быў арыштаваныя за нейкія размовы ў мястэчку Беліца. Па іншай версіі ён быў арыштаваны за тое, што ў Наваельні папракаў ксяндза за адмову прачытаць Маніфест Народнага ўрада.

Выпадкова ў турме Лясковіч апынуўся разам з нейкім Адамам Сасёнкам, які падгаварыў яго да складання фальшывага прызнання і ўключэння ў гэтую паперу як мага большай колькасці асоб. Ён пераконваў, што так справа пойдзе лепш і скончыцца ... жартам. Трэба сказаць, што і сталінскія вязні таксама часта ў сваіх паказаннях зыходзілі з той жа логікі - яны лічылі, што калі запісаць ў японскія шпіёны ўсіх сваіх знаёмых ці прызнацца, што сам капаў падземны ход у Англію, дык нават крэтын зразумее, што гэта не можа быць праўдай. Але, гэтак яны толькі дапамагалі "органам" выконваць план і губілі нявінных людзей.

Але вернемся да Лясковіча. Гэты Сасёнка з невядомых прычын агаварыў сябе, бацькоў і сястру ў распаўсюдзе Маніфеста, пастаўках паўстанцам зброі і г.д. Нудзячыся ў вязніцы, ён казаў Лясковічу, што будзе весялей, калі больш знаёмых апынецца разам з імі ў астрозе. Недасведчаны маладзён прыслухаўся да нашэптвання таварыша, а калі яго выклікалі на допыт, ваенны начальнік павета падпаіў яго віном, і той скампраментаваў сябе і іншых асоб.

У хуткім часе на суседскіх пасядзелках у маёнтку Чаплеўшчына, які належаў старэйшаму брату Войцеха Альберта - Юліяну Лясковічу, быў арыштаваны гаспадар і яго госці: Зыгмунт Гадачэўскі і Вільгельм Грабоўскі. Адначасова былі арыштаваны Кароль Тышкевіч з Жырмун і Мірон Браніслаў Нарбут (той самы, вядомы лідскі мемуарыст), які тады працаваў у Навагрудку сакратаром З'езда міравых пасярэднікаў. Нарбут быў зусім недатычны да палітычных справаў і стаў ахвярай даносу[15].

Маёмасць Войцеха Альберта Лясковіча на падставе распараджэння віленскага губернатара ад 27.06.1863 г. і пастановы Віленскага грамадзянскага праўлення ад 23.07.1863 падлягала секвеструу. Пастановай ваеннага суда Войцех Ляскоўскі, які надумаў пагуляць са следствам, прысуджаны да смяротнага пакарання і канфіскацыі маёмасці[16].

Войцех Ляскоўскі быў расстраляны 5 чэрвеня 1863 г. разам з ксяндзом з Ваверкі Лідскага павета Раймундам Зямацкім (ксёндз зачытаў з амбона Маніфест паўстанцкага ўрада). Пляменнік Раймунда Зямацкага лекар Юзаф Зямацкі ў 1889 г. пазнаёміўся з жанчынай (па паходжанні віленкай), якая, як нарачоная афіцэра расейскай жандармерыі, прысутнічала на расстрэле ксендза Зямацкага. Жанчына расказала: *"Памятаю, што гэта быў чалавек ужо паважнага веку, добра прыпамінаю яго рысы, меў ужо сівыя валасы, быў вельмі аслаблены хваробай, якую перажыў у турме, не мог ісці пешшу, быў прывезены на дрожках. Пасля вываду яго з падамініканскіх муроў, дзе была турма, нейкі расейскі вайсковец высокага рангу падышоў да яго прасіць дабраславенства. Справа ў тым, што сярод расейцаў існуе забабон, што дабраславенства прыгаворанага на смерць прыносіць шчасце ў будучым жыцці. Ксёндз Зямацкі дабраславіў яго знакам крыжа, а той пацалаваў яму руку. Адразу пасля залпа карабінаў ксёндз павіс бяссільна на вяроўках, якімі быў прывязаны да слупа; бачыла потым, калі цела было адвязана ад слупа і ляжала ўжо на зямлі, сутана на грудзях была моцна заліта крывёю, а некалькі плям крыві аказалася пазней і на сівых валасах. Побач з ксяндзам Зямацкім, за некалькі крокаў, таксама праз расстрэл, быў пакараны смерцю вельмі малады чалавек Лясковіч. Целы іх абодвух адразу пасля экзекуцыі ўкінулі ў магілы, загадзя прыгатаваныя перад слупамі, да якіх былі прывязаны асуджаныя. Целы засыпалі зямлёй, магілы выраўнялі"* [17].

[12] Malewski Czeslaw. Rody szlacheckie na Litwe w XIX wieku. Powiat lidzkim. Wilno, 2005. S. 163.

[13] Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850. С. 84.

[14] Ziemia Lidzka. 1939. № 4-5.

[15] Dzieje powstania lidzkiego : wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. S. 36-37.

[16] Матвейчык Д.Ч. Удзельнікі паўстання 1863-1864 гадоў біягр. слоўнік. 2016. С 354.

[17] Нарковіч Ліліяна. Раймунд Зямацкі // Лідскі Летапісец. 2013. № 3(63). С. 67.

Скажу некалькі слоў пра старэйшага сына Фелікса Лясковіча Юльяна. Да 1863 г. Юльян Лясковіч займаў пасаду міравога пасярэдніка[18]. Пасля паўстання быў сасланы на Урал у горад Кунгур Пермскай губерні. Сасланая ў Кунгур Ядвіга Прабяндоўская ў сваіх мемуарах узгадвала Юльяна Лясковіча як выбітную і інтэлігентную асобу[19].

Вялікі след у гісорыі Лідчыны пакінула дачка Юльяна Лясковіча (унучка Феліска Лясковіча), Марыя Лясковіч. Раскажу пра гэтую выбітную асобу па тэксце яе дальняга сваяка Караля Лясковіча.

Рамантычныя пачуцці і глыбокая вера ў пазітыўныя ідэалы "арганічнай працы" сфармавалі індывідуальнасць маладой панны Марыі Лясковіч. У дзяцінстве яна разам з бацькамі вярнулася з глыбіні Расіі - з-пад Пярмі, куды яе бацька Юльян быў сасланы "на пасяленне" як палітычны злачынца. З бацькамі яна жыла ў сваім маёнтку Пяткаўшчына, за 3 км ад мястэчка Жырмуны Лідскага павета. Маёнтак меў дрэнную, пясчаную зямлю з занядбанымі драўлянымі пабудовамі і таму не цікавіў рускую адміністрацыю. Гэта ўратавала гаспадарку ад канфіскацыі. Да таго ж Юльян быў больш асцярожны за свайго брата Альберта Войцеха, якога расстралялі ў 1863 г. Непасрэднага ўдзелу ў паўстанні Юльян не браў, аднак патрыятычнай дзейнасці не пазбягаў, што і прывяло да ссылкі.

Менавіта тут, у Пяткаўшчыне, Марыя спазнала вялікае каханне. Яна рамантычна закахалася ў кузена, а той, не падазраючы пра глыбіню яе пачуццяў, расказаў пра свой будучы шлюб з панняй Тупальскай. Гэта стала паваротнай кропкай у жыцці Марыі Лясковіч. Яна прысягнула, што да канца жыцця застанецца вернай першаму каханню і не выйдзе замуж, а ўсё жыццё прысвеціць службе народу - менавіта гэтаму вучыў яе бацька. Адразу прыступіла да рэалізацыі сваёй клятвы - арганізавала ў Пяткаўшчыне тайную школу. Не мела патрэбнай кваліфікацыі, але выкладала ў першым класе як магла.

Хутка памёр яе любімы бацька. Гаспадарыць пачаў старэйшы, легкадумны брат Эдмунд. У духоўнай самоце Марыя знайшла апору ў асобе вікарыя жырмунскага касцёла, маладога ксендза Генрыка Бальцэвіча. Ён таксама натхніў яе ідэяй працаваць для людзей. Досыць часта наведваў Пяткаўшчыну і ахвотна дапамагаў у справе нелегальнага навучання. Высокі, худы і прыстойны, меў розум даследчыка. Гарэў унутраным полымем, патрэбай чыну, быў рэвалюцыянерам у сутане. Яго артыкул, надрукаваны ў адным з расійскіх часопісаў, пра ролю святарства ў свеце, узбудзіў гнеў касцельных уладаў. ... Да таго ж артыкул быў надрукаваны без дазволу касцельнай іерархіі. Суд біскупаў прыгаварыў ксендза на двух гадоў пакутаў у кляштары. Вікарый не згадзіўся з выракам, зняў сутану і ў Лодзі пачаў жыццё звычайнага чалавека.

Вяртанне дахаты было немагчымым, і былы ксёндз пачаў працаваць хатнім настаўнікам. Пра рэвалюцыйнасць ксендза і Марыі даведаўся спраўнік, і над дзяўчынай павісла пагроза паўторнай высылкі. Таму яны вырашылі разам перасяліцца ў Варшаву і пачаць вучыцца на настаўнікаў.

Але Марыя не дазволіла адносінам пайсці далей за сяброўскія. Кватэры знялі ў розных раёнах горада і не спатыкаліся ў сваіх прыватных кватэрах. ... Бальцэвіч да 1905 г стаў сапраўдным педагогам, настаўнікам гісторыі і польскай літаратуры на ўзроўні гімназіі, г. зн. атрымаў вышэйшую адукацыю. Першапачатковая адукацыя Марыі была меншай, і яна атрымала толькі права настаўніцы пачатковай школы, аднак лічыла, што так будзе нават лепш для яе мэты жыць для людзей.

Абодва былі дзецьмі дзвюх эпох: рамантызму і пазітывізму. Іх "арганічная праца" заўсёды праходзіла "ў нябёсах", і іх жыццё было цалкам прысвечана гэтай працы, але цякло спакойна, манатонна і бедна. Заўсёды меўся нехта, хто патрабаваў дапамогі, і настаўніцкіх заробкаў ледзь хапала для сціплага жыцця.

Калі ў выніку сямейных падзелаў Ішчалны Марыя атрымала ў 1924 г. участак пад школу, мела яна ўжо 40 гадоў настаўніцкага стажу. І хоць у краі не хапала настаўнікаў, трэба было думаць пра пенсію. Толькі сэрца не згаджалася з гэтым.

Марыя, якую ў сям'і заўсёды звалі "цёця Марыня", у спадкі ад Важынскіх атрымала права на адну чацвёртую частку маёмасці свайго пляменніка Юльяна. Таму, пры падзеле яна выказала жаданне, каб адмыслова для яе пабудавалі школу для дзяўчат. Жадала атрымаць пляц у 4 га каля Ішчалнянскага тракту і пашкоджаны падчас вайны будынак даўняй коннай пошты. Патрабавала грошы на рамонт і на будаўнікоў, грошы на абсталяванне і дровы для ацяплення ўсіх школьных будынкаў.

Жаданне цёці Марыні было выканана. Калі яна пачала сваю цяжкую справу, мела больш за 60 гадоў на карку і ніякага гаспадарчага досведу. Аднак вера і запал могуць зрушыць горы. Згорбленая маленькая Марыня, няспрытная ў рухах і падобная на птушку, мела сівыя валасы, грубыя блізарукія акуляры на носе, на вуснах альбо усмешку альбо капрыз - самую моцную зброю ў барацьбе з мужчынамі. Бо як было не ўступіць шляхетнай, безабароннай старой. Пры гэтым для сабе яна нічога не патрабавала. Марыя мела дзіўна маладыя рукі - мяккія, пяшчотныя, не для працы, але гэтыя слабыя рукі здолелі 15 гадоў цвёрда трымаць школьныя справы. Ідэалізм і сціпласць цёці Марыні разам з яе ўяўнай бездапаможнасцю складаліся ў зброю, якая крышыла ўсе перашкоды.

Яе школьная праца пачалася, расквітнела і асягнула пэўных вынікаў пры канцы яе жыцця. Дарога не была лёгкай. Летам 1924 г. сямейная рада Лясковічаў аддала ва ўласнасць цётцы Марыні дзялку з паўднёвага боку гістарычнага тракту. На гэтай дзялцы знаходзіўся мураваны будынак даўняй коннай пошты з дахам, крытым дахоўкай, але будынак быў ужо моцна пашкоджаны. Па яго абодвух баках стаялі таксама

[18] Памятная книжка Виленскай губернии на 1863 г. Вильно. 1863. С. 120.

[19] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 177.

мураваныя гмахі старых стайняў без дахаў. Усё вымагала рамонту і нават адбудовы.

Нанялі дамарослага будаўніка, які падаў спіс неабходных рэчаў. Дрэва для школы было нарыхтавана зімой 1924/25 гг. Пакуль дрэва сохла, увесну было зроблена асушэнне пляцоўкі, і пачаўся рамонт будынкаў. У другой палове 1925 г. дрэва апрацавалі і папілавалі, над школай надбудавалі каркас даху, тое ж зрабілі з адной з стайняў, усю тэрыторыю школы агарадзілі. Перад асеннімі дажджамі школу пакрылі дахоўкай, а стайні - этэрнітам. Дадам, што 1925 г. з-за фінансавай рэформы Уладзіслава Грабскага быў самым цяжкім у эканамічным сэнсе за ўсе 1920-я гг.

У 1926 г. быў закончаны першы этап будоўлі. У школе падрыхтавалі першы паверх і два пакоі на мансардзе, а таксама палову будынка стайні. 1-га верасня 1926 г. школа была асвечана і пачала працу. Напачатку ледзь знайшлося 20 дзяўчынак з ваколічных вёсак і мястэчак, і таму на работу прынялі толькі 2 настаўніцы. Вучобу пачалі са спазненнем. Фінансаванне школы было чыста прыватным, а вольныя грошы ў маёнтку Ішчална меліся не заўсёды. Школа атрымала назву: "Жаночая прафесійная школа ў Ішчалне павятовага Звязу землеўладальнікаў у Шчучыне". Звяз не меў сваіх грошай, але не раз звяртаўся да землеўладальнікаў з просьбай аб дапамозе школе.

Першы год быў суцэльнай імправізацыяй, адмысловай праграмы не мелася. На наступны год, аднак, праграма стабілізавалася. На паддашку былі адрамантаваны пакоі, і цалкам закончаны рамонт галоўнага будынка, закончаны гаспадарчыя пабудовы: шопы для жывога інвентару, стадолы для ўраджаю, піўніцы пад бульбу, лядоўні і вазоўні на вазы і аграрныя машыны.

Школьны будынак меў 200 $м^2$ карыснай плошчы і дзяліўся на дзве паловы шырокім калідорам, у які выходзіла 6 дзвярэй - адны на вуліцу, другія на падворак і чатыры ва ўнутраныя памяшканні. Улева ад галоўнага ўвахода месціліся дзве вялікія класапрацоўні: ткацкая і кравецкая. З правага боку ад фронту будынка была канцылярыя і жылы пакой кіраўніцы, а ў бок падворка - кухня і клас, у якім вучаніцы таксама і снедалі. У ткацкім класе стаялі двое вялікіх кроснаў, каб ткаць розныя тканіны. У кравецкім класе меліся два вялікія сталы.

У 1927 г. пабудавалі яшчэ два мансардныя пакоі. Школа атрымала трэці клас, колькасць вучаніц павялічылася да 60. Скончана перабудова другой стайні, пашыраны інтэрнат, і туды перанесена кухня, сталовая і пакой кухаркі.

Грошай не хапала, і павятовы школьны інспектар узяў выкладчыкаў ў свой штат, узаконіў навучальную праграму і ўзяў навучанне пад свой кантроль. Школа атрымала публічныя правы, аднак заставалася прыватнай, і фундатары пакрывалі ўсе астатнія выдаткі.

Сястра Караля Лясковіча Ірэна праз сваю сяброўку, дачку ўладальніка гуты "Нёман" замовіла аконнае шкло для школы са значнай зніжкай. Акрамя гэтага гута падаравала інтэрнату дзве скрыні розных шкляных вырабаў: шклянкі, вазы для кветак, сподачкі, міскі і місачкі, філіжанкі, падстаўкі, скрынкі для гузікаў і шпілек, падсвечнікі і іншыя неабходныя рэчы. За мінімальную аплату, практычна за "Бог заплаць" два лекары - др. Чыж і др. Конрад вялі лекарскую апеку над усімі вучаніцамі.

На штогадовыя выставы школьных работ прыбывалі суседзі з блізкіх і далёкіх ваколіц. Пасля паказу адбываўся продаж вырабаў. Сурвэты, кілімы, ходнікі, сукні і блюзкі, вырабленыя на працягу школьнага года, знаходзілі сваіх пакупнікоў. Вельмі шмат школьных кілімаў і сурвэтак набыў ішчалнянскі двор.

Шчаслівая цёця Марыня радавалася, цешылася сваёй школай. Была яна тыповым рамантыкам часоў пасля паўстання 1863 г.

Пасля атрымання школай публічных правоў, пачалі прыязджаць вучаніцы з больш далёкіх краёў. У 1929 г. пляменнік Марыі Юльян выкарыстаў добрую кан'юктуру і прадаў вялікую партыю лесу па добрай цане. Доля Марыі ў здзелцы склала 60 000 злотых. Ніколі яна не мела такіх вялікіх грошай і вырашыла ўкласці іх у школу.

4-х гектарная школьная дзялка была выдзеленая з 26-ці гектарнага поля. Рэшта гэтага 26-ці гектарнага поля была аддадзена ва ўласнасць легатарыю (суспадчынніку) Марыі Важынскай (Важынскія - гаспадары Ішчланы да 1920-га г.), яе даўняму аб'ездчыку Леанарду Роўбе. Потым у доме Роўбы, у лепшым пакоі жыў пенсіянер, сябар цёці Марыні, былы варшаўскі выкладчык і ксёндз Бальцэвіч.

Колькасць вучняў вырасла да 75 дзяўчатак. Умовай паступлення ў школу стала пасведчанне аб атрыманні 7-мі гадовай адукацыі. Трохгадовы курс школы ўключаў наступныя спецыяльнасці: кравец бялізны, кравец верхняй вопраткі, ткацтва на ручных варштатах, ручныя работы, дамаводства і г. д. Колькасць педагогаў павялічылася да 8 асоб. Бальцэвіч узяў на сябе выкладанне гісторыі і літаратуры, новая кваліфікаваная кухарка выкладала дамаводства, садоўнік з Ішчалны вучыў практычнаму садаводству і агародніцтву.

У пансіянаце жылі 50 вучаніц, астатнія паходзілі з суседніх вёсак. На былым участку Роўбы, у цяні клёнаў стаялі лаўкі і сталы. Тут улетку была сталовая. Дзяўчаты ў зацішным месцы рэчкі, закрытым ад тракту зеленню, зрабілі пляж. Не ўсе вучаніцы падчас вакацый ехалі дахаты, бо не ўсе мелі ў бацькоў прыемную хатнюю атмасферу. Для іх домам стала школа, і замест маці стала кіраўніца школы.

Школа знаходзілася ў поўным росквіце, і разам з ёй самыя шчаслівыя гады свайго жыцця праходзілі ў двух ідэалістаў. Нічога, што абодва перасягнулі сёмы дзесятак, нічога, што Бальцэвіч не атрымліваў заробку а ўсе грошы Марыні ішлі ў касу школы. Нічога, што абцасы абутку кіраўніцы школы былі ўшчэнт зношаны, а падэшвы дзіравыя, бо чарговая, прыгатаваная на пакупку абутку купюра ў 20 злотых, заўсёды ішла на іншыя патрэбы. Жыццё старых сяброў, як чыстае полымя, гарэла на ахвярным алтары для народа. Ажыццяўляліся галоўныя мары іх жыцця.

Якая ж вялікая радасць агарнула сціплую Марыю, калі ў 1930 г., падчас наведвання школы, павятовы стараста Сялява ўзнагародзіў яе Залатым крыжам заслугі. Марыня разрумянілася, як дзяўчынка. Страціла мову. Прызнанне, збыццё мараў. Яе пачуцці ўшанаваны. Колькі калег за тую самую працу раней атрымалі турму ці Сібір. А яна атрымала ордэн.

Працяглы час не сціхалі апладысменты. Усе бачылі ўзрушэнне старой. Яна змагла толькі працягнуць старасту руку. Толькі Бальцэвіч зразумеў, што рабілася на душы ў старой сяброўкі. Рухам рукі ён спыніў тых, хто хацеў яе павіншаваць. Толькі калі засталіся сам на сам, даў волю словам. Ордэн з пасведчаннем яна замкнула ў шуфлядзе камода на ключ не дазволіла павесіць у канцылярыі, як жадалі ўсе.

- Пан стараста памыліўся, - казала яна настаўнікам. - Калі б крыж прызначаўся школе, я б з радасцю павесіла яго на сцяне. Не павінен ён быў узнагародзіць толькі адну асобу, у дадзеным выпадку мяне. І я не жадаю ніякіх узнагарод за сваю працу, бо раблю тое, што павінна рабіць, выконваю свой абавязак.

Мітусня закончылася, і жыццё пайшло па-старому - паміж працай і сценамі яе пакоя, якія месціўся за канцылярыяй. Пакой свой дзяліла з катамі, тыя каты стваралі дадатковыя праблемамі, бо хутка размнажаліся, і яна не паспявала раздаваць кацянят, а тапіць не дазваляла. Таму на сядзібе заўсёды было з паўтузіна катоў.

Летам, паміж 1933 і 1935 г., прэзідэнт Масціцкі рабіў аб'езд паўночна-ўсходняй часткі РП. У часе візітацыі Шчучынскага павета ён заехаў у Ішчалну, каб асабіста падзякаваць кіраўніцы прафесійнай школы Марыі Лясковіч за ахвярную асветную працу на працягу ўсяго яе жыцця.

У школе хутка прыбраліся. У той час у школе была пляменніца Ірэна, якая незадоўга да гэтага выйшла замуж за інжынера-чыгуначніка Януша Барткевіча. Яна прыйшла да цёці, бо жадала купіць у школе некалькі сурвэтак, каб упрыгожыць сваю службовую кватэру ў Баранавічах. Па прапанове цёці Марыні ахвотна засталася і прыняла ўдзел у цырымоніі. Адну з вучаніц паставілі на варту, каб папярэдзіла, калі ўбачыць аўтамабілі.

Прэзідэнт выйшаў са свайго аўто і ў суправаджэнні ад'ютанта ўзняўся на школьны ганак. Дзверы былі шырока адчынены, бо сустракаць госця выйшла старая Марыня з драўляным падносам, накрытым самым прыгожым, доўгім, вытканым вучаніцамі ручніком. На ручніку ляжаў бохан жытняга хлеба і сальнічка з соллю.

- Вітаю годнага госця і прашу пана прэзідэнта ласкава прыняць ад нашай школы гэты хлеб з уласнага жыта і дробку солі, як належыць па звычаю - вітала Масціцкага цёця Марыня. Прэзідэнт сардэчна падзякаваў і ахвяраваныя дары перадаў ад'ютанту, пасля чаго наступіў момант знаёмства з персаналам школы:

- Пані Ірэна Барткевіч з дома Лясковічаў, - прадставіла яе цёця, - мая пляменніца і магчымая пераемніца. Пасля гэтага, прэзідэнт пачаў агляд школы, з цікаўнасцю аглядаў вырабы і слухаў аповед пра школьную праграму, пра настаўнікаў, пра бытавыя ўмовы вучняў і школьнага персаналу.

Пры канцы візіту прэзідэнт зрабіў прамову, у якой расказаў пра заслугі заснавальніцы і кіраўніцы школы і выказаў ёй удзячнасць ад імені дзяржавы і ад сябе асабіста. Узяў з рук ад'ютанта скрынку, выняў з яе ордэн "Polonia Restituta" і замацаваў яго на грудзях цёці. Пасля чаго, пацалаваў ёй руку[20].

Пасля таго, як прэзідэнт паехаў, яна сказала старому сябру Бальцэвічу:

- Я ўзрушана, хто падказаў прэзідэнту мяне ўзнагародзіць? Напэўна павятовы стараста ці школьны інспектар. Хто іх прасіў гэта рабіць? За выканне мэты майго жыцця, за магчымасць пашырэння асветы ў незалежнай дзяржаве, пра якую мы марылі, яны мне заплацілі?! Пачуваю сябе зняважанай ...

- Ці не патрэбны школе грошы? - спытаў Бальцэвіч. За ордэн плацяць 300 злотых штогод. На гэтыя грошы ўсталюй стыпендыю якой-небудзь здольнай, але беднай вучаніцы.

- Стыпендыю? ... Ты заўсёды жадаеш, каб было, як ты сказаў. Ах, як гэта не люблю ...

Пасля доўгіх спрэчак пра тое, што ўзнагарода гэта добрая рэч для справы, а адмовы ад ордэна была б непавагай да дзяржавы і непавагай да сваіх вучаніц, большасць з якіх паходзіць з Беларусі. Марыня згадзілася і нарэшце зразумела, што адмова ад грошай, якія дае ордэн, і пры гэтым сталыя звароты аб дапамозе, выглядалі б дзіўна. Стыпендыя ў 25 злотых у месяц амаль што раўнялася заробку кабеты ў полі за той жа месяц. Для беднай вучаніцы гэта былі вельмі добрыя грошы.

Супольнымі намаганнямі пабаролі зацятую ўпартасць старой ідэалісткі, ордэн разам з пасведчаннем замацавалі ў рамцы і павесілі ў канцылярыі, а на 300 злотых усталявалі стыпендыю. Як потым стала вядома, у тастаменце ўсю сваю ўласнасць цёця запісала школе.

Марыя Лясковіч памерла вясной 1939 г. Яе труна, заваленая кветкамі, стаяла ў яе пакоі, праз адчыненае акно вечарам былі чутны трэлі салаўя. ... Добра вядомая постаць Бальцэвіча скурчылася, згорбілася, і ён сунуўся за труной адзінокі, асірацелы. Зрок яго быў чужы і пусты.

За труной ішоў увесь род Лясковічаў[21].

Дадам, што былы ксёндз і выкладчык школы ў Ішчалне Бальцэвіч меў навуковую ступень доктара (PhD).

**Магіла скарбніка Юзафа Крахельскага**, яго жонкі Ружы з Туровічаў і іх дзяцей Уладзіслава, Аляксандра і Віктара, а таксама іншых Крахельскіх. Яўстах

[20] Узнагароджанне Марыі Лясковіч прэзідэнтам Масціцкім адбылося за некалькі месяцаў да яе смерці, на пачатку 1939 г. - гл. Ziemia Lidzka. 1939. №7-8. S. 215.

[21] Karol Laskowicz: (Kresowy dwor i jego sasiedzi). Opracowanie na podstawie wspomnien. // Biblioteka Zakladu Narodowego im. Ossolinskich we Wroclawiu, sygn. 15480/II. S. 214-222.

Шалевіч, успамінае[22], што калі ягоны бацька прывёз яго вучыцца ў Лідскую павятовую вучэльню, дык ў горадзе яны спаткалі *"шаноўнага скарбніка Крахельскага, начальніка майго брата, які тады служыў у скарбовай касе.*

*- Што ты тут робіш?*

*- Прывёз у школу хлапчука.*

*- А не баішся Пана Бога? Нашто прывёз гэтую худобу? Як пачне вучыцца - адразу памрэ.*

*А адчуў да Крахельскага вялікую непрыязнь, і гэтае пачуццё да яго ў мяне доўга не праходзіла. Было гэта ў 1855 г."*

З сынам Крахельскага Уладзіславам, Яўстах Шалевіч вучыўся ў адным класе. Адзін з настаўнікаў, калі вучань недакладна адказваў, звычайна казаў: "Попал пальцем в чернильницу!" Потым хапаў вучня за руку і ўціскваў яго палец ў чарніліцу.

Няшчасным пакутнікам гэтага настўніка часта быў Уладак Крахельскі, сын казначэя. Ён быў запісаны ў журнале першым, і таму яму заўсёды прыходзілася адказваць урокі, а ўсе ж астатнія адказвалі не гэтак часта. Крахельскі не быў добрым вучнем, і яго палец не раз бываў у чарніліцы: *"Настаўнік круціў яго палец ва ўсе бакі і часам хадзіў з ім па класе пад руку.*

*Неяк на лекцыі Крахельскі сказаў: "В Орлеане памятник орленской дрове". Настаўнік тут жа яго запытаў: "Что такое дрова?" "Дровица" - адказвае Крахельскі.*

*- А что такое дровица?*

*- Паненка.*

*- А што такое паненка?*

*Пасля гэтага вучань замаўчаў ..."*

Крахельскі пераблытаў словы "дева" і "дрова" ...

З лідскіх Крахельскіх паходзіць Крысціна Крахельская (1914-1944), якая была мадэллю для помніка работы скульптара Людвікі Нітсх "Варшаўская сірэнка". Помнік пастаўлены ў 1939 г. на набярэжнай Віслы. Крысціна Крахельская нарадзілася ў сямейным маёнтку Мазуркі Баранавіцкага павета. У 1932 г. скончыла гімназію імя Рамуальда Траўгута ў Берасці і тады ж паступіла на Гуманітарны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, дзе вывучала гісторыю, геаграфію і этнаграфію, даследавала беларускі фальклор, выконвала фальклорныя песні на варшаўскім і віленскім радыё.

Крысціна Крахельская была байцом Арміі Краёвай (псеўданім "Данута"). У студзені 1943 года для байцоў палка АК напісала песню "Hej, chlopcy, bagnet na bron!" ("Гэй, хлопцы, узняць багнеты!"). Песня набыла вялікую папулярнасць і стала адным з музычных сімвалаў Варшаўскага паўстання 1944 г. Крысціна Крахельская загінула ў Варшаўскім паўстанні, ратуючы параненых на Мокатаўскім полі, зараз гэта цэнтральная частка Варшавы



***Сямейны склеп Граблісаў***

**Граблісы.** Калі летам 2018 г. расчысцілі паўночна-заходнюю частку могілак, стала зразумела, што да 1939 г. тут хавалі дастаткова багатых гараджан.

Арыгінальна выглядае магіла Граблісаў - капліча-пахавальня, малы домік з дзвярыма і вокнамі. Пры канцы 1920-х гг. Граблісы па вуліцы Дварцовай (каля чыгуначнага вакзала) мелі фірму якая выраблялa розныя рэчы для будаўніцтва і рамантавала дахі. У 1938 г. Мікалай Грабліс быў лаўнікам у Лідскай гарадской управе і ўзначальваў Таварыства вайсковых інвалідаў горада Ліды. Ён жа, стварыў асобную ад цэнтральнай пажарную каманду на Слабадзе. Пажарны цэнтральнай каманды Абрахам Гельман пісаў: *"Невялікая дысгармонія ў сумеснай працы яўрэйскіх і неяўрэйскіх пажарных у Лідзе была выклікана братамі Граблісамі і некалькімі іншымі членамі, настроенымі антысеміцкі, якія жадалі атрымаць кантроль над таварыствам. Яўрэі не дапусцілі гэтага, і праз вялікую колькасць часта бурных судовых пасяджэнняў было прынята рашэнне, якое падзяліла асацыяцыю на дзве каманды: "Група 1" была адказная за тэрыторыю горада да чыгункі, а "Група 2", пад кіраўніцтвам Мікалая Грабліса, адказвала за тэрыторыю Слабодкі па другі бок чыгуначных шляхоў. Гэта была маленькая і менш навучаная група. У гэтай групе амаль што не было яўрэяў. У выпадку моцнага пажару на Слабодцы першую, гарадскую, групу не адзін раз выклікаў туды бургамістр Задурскі альбо камендант паліцыі"*[23].

Сямейных склепаў на могілках было дастаткова многа, але захаваўся толькі гэты. Ад астатніх ці засталіся і падземныя часткі.

[22] Гл: Szalewicz Eustachy. Wspomnienia szkolne ze szkoly powiatowej w Lidzie i gimnazjum w Nowogrydku. ДГАЛ. Ф. 1135. Воп. 4. Спр. 172.

[23] Лаўрэш Л.Л. Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900-1939 гг.

***Валер Сліўкін***

# Народныя вучэльні Лідскага павета (1863-1915)

Скасаванне прыгоннага права ў 1861 г. прывяло да кардынальных змен у адукацыі. Запатрабаванасць ведаў пачала ўсведамляцца сялянамі. Імператар Аляксандр II і ўрад адказалі на гэтую запатрабаванасць стварэннем сістэмы пачатковай народнай адукацыі. 28 ліпеня 1861 г. быў заснаваны Камітэт для распрацоўкі школьнай рэформы. Складзеныя ім праекты рэформы пачатковай і сярэдняй школы былі разасланы на рэцэнзію вядомым рускім і замежным адмыслоўцам. 18 студзеня 1862 г. Аляксандр II пасля грунтоўнай гутаркі з апекуном Віленскай навучальнай акругі І.П. Карнілавым загадаў неадкладна прыступіць да арганізацыі народных вучэльняў у паўночна-заходніх губернях. 23 сакавіка 1863 г. былі прыняты "Часовыя правілы для народных школ у губернях Віленскай, Ковенскай, Гарадзенскай, Менскай, Магілёўскай і Віцебскай". Афіцыйна пазначаная мэта заснавання народных вучэльняў - распаўсюд пісьменнасці ў *"духу рускім і маральна-рэлігійным"*.

Да навучання ў народных вучэльнях дапускаліся дзеці ўсіх саслоўяў, станаў, без адрознення веравызнання (п.13). Выкладанне праводзілася на рускай мове (п.17). Прадметамі навучальнага курсу былі: Закон Божы (кароткі катэхізіс і святая гісторыя), руская мова, чытанне па кнігах грамадзянскага і царкоўнага друку і пісьмо; першыя чатыры дзеянні арыфметыкі і царкоўныя спевы. Усе прадметы выкладаліся па кіраўніцтвах, ухваленым Міністэрствам народнай асветы ці духоўным ведамствам (п.12). Закон Божы выкладаўся прыходскім святаром (п.14). Дзецям рымска-каталіц-кага веравызнання закон Божы было дазволена выкладаць на мясцовай гаворцы (п.18). Часовыя правілы для шасці паўночна-заходніх губерняў дзейнічалі да пачатку XX стагоддзя.

Для адміністрацыйнага кіравання народнымі вучэльнямі былі створаны губернскія дырэкцыі народных школ. У склад дырэкцыі народных вучэльняў Віленскай губерні ўваходзілі: дырэктар, 4 інспектары (1 інспектар на 50 вучэльняў), пісьмавод - бухгалтар і 3 чальцы: ад МУС, дзяржмаёмасці і мясцовага епархіяльнага ведамства праваслаўнага спавядання. Дырэктары прызначаў міністр народнай асветы, інспектараў - апякун Віленскай навучальнай акругі. Абавязкі губернскіх дырэкцый складаліся ў адкрыцці новых вучэльняў, забеспячэнні вучэльняў навучальнымі дапаможнікамі, прызначэнні настаўнікаў, назіранні за выкладаннем, паведамленні распараджэнняў, прадстаўленні справаздач і зносінах з усімі ведамствамі, прадстаўленні да ўзнагарод, закрыцці вучэльняў. Такім чынам, сфера народнай адукацыі была падпарадкавана адміністрацыі дырэкцый і ўраду.

У Лідскім павеце на пачатак 1863 навучальнага года дзейнічалі чатыры прыходскія сельскія вучэльні: Васілішская (з 1847), Астрынская (з 1858), Глыбокская (з 1861) і Арлянская (з 1861), магчыма была і пятая - Радунская (з 1859 г). Яны былі створаны паводле Указу Імператара Мікалая I ад 23 лістапада 1842 г. і функцыянавалі на аснове "Пастановы для кіравання сельскімі прыходскімі вучэльнямі ў паселішчах дзяржаўных сялян", зацверджанай у 1843 г. Міністрам дзяржаўных маёмасцяў. У сельскіх вучэльнях выкладаліся Закон Божы (кароткі катэхізіс, тлумачэнне святой літургіі, святая гісторыя Старога і Новага запавету), руская грамата (чытанне кніг грамадзянскага і царкоўнага друку, чыстапісанне і хуткапіс), першыя чатыры арыфметычныя дзеянні з простымі найменнымі лікамі, з падрабязным тлумачэннем расійскіх мер, вагаў, манет і сведчаннем ужывання рахункаў.

У 1863 г. былі адкрыты Лябёдская і Радуньская народныя вучэльні і ператвораны ў народныя вучэльні Васілішская, Астрынская, Глыбоцкая і Арлянская прыходскія вучэльні. У 1864 г. былі адкрыты Беліцкая, Беняконьская, Голдаўская, Ганчарская, Дэмбраўская, Жырмунская, Забалоцкая, Забровіцкая, Зблянская, Пакроўская і Тарноўская вучэльні, у 1865 г. - Дакудаўская, Каняўская, Ражанкаўская і Эйшышская, у 1867 г. - Дубровенская, у 1868 г. - Аляксандраўская, у 1869 г. - Мытлянская, у 1874 г. - Жалудоцкая. У 1896 г. - Дзікушская (раней Забровіцкая) народная вучэльня з жаночай зменай была падзелена на Дзікушскую мужчынскую і Дзікушскую жаночую. Усяго ў Лідскім павеце дзейнічалі з 1874 г. - 25, з 1896 г. - 26 народных вучэльняў.

Закон Божы і царкоўныя спевы выкладалі святары. Рускую мову, чытанне, пісьмо, першыя чатыры дзеянні арыфметыкі выкладалі настаўнікі, якіх з 1877 г. пачалі зваць вучыцелямі.

У 1882/83 навучальным годзе ў 25 народных вучэльнях Лідскага павета Закон Божы выкладалі 17 праваслаўных святароў (+ 1 вакансія) і 16 ксяндзоў. У Беняконьскай, Эйшышскай, Аляксандраўскай, Жырмунскай, Каняўскай, Забалоцкай і Радуньскай вучэльнях вучні праваслаўнага веравызнання адсутнічалі, у Ганчарскай, Зблянскай, Дакудаўскай, Лябёдскай, Голдаўскай, Дэмбраўскай, Астрынскай, Сабакінскай (Пакроўскай) і Глыбоцкай вучэльнях адсутнічалі вучні каталіцкага веравызнання.

У 1897/98 навучальным годзе ў народных вучэльнях Лідскага павета Закон Божы выкладалі 19 праваслаўных святароў і 10 каталіцкіх ксяндзоў. У 4 вучэльнях: Тарноўскай, Арлянскай, Глыбоцкай і Мытлянскай вакансіі каталіцкіх выкладчыкаў Закона Божага заставаліся вольнымі. У Ражанкаўскай, Дзікушскіх мужчынскай і жаночай вучэльнях Закон Божы пачалі выкладаць толькі праваслаўныя святары.

Па "Памятных кніжках" Віленскай навучальнай

акругі і Віленскай губерні аднаўлены звесткі пра народныя вучэльні Лідскага павета, законавучыцеляў і настаўнікаў. Звесткі не поўныя.

**Аляксандраўская народная вучэльня (1868-1915)**

Размяшчалася ў хаце валаснога кіравання ў Палецкішках. Законавучыцелі каталіцкага спавядання Банавентура Лаўрыновіч (1879-83), Ян Адамовіч (1895-99). Настаўнік - выпускнік Пажайскай духоўнай вучэльні валасны пісар Сцяпан Міхайлавіч Босікаў (1871-75). Настаўнік-вучыцель Сямён Антонавіч Лабоцкі (1875-78). Вучыцелі: выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Пахом Хвядосевіч Казюра (1878-83); Максім Ясінскі (1887), Андрэй Антановіч (1890-91), Іван Іваноў (1892), Фама Шыкаловіч (1893-95); Макар Асіповіч (1896/1897), студэнт Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, адстаўны калежскі асэсар Мікалай Фермар (1897-99). Прадстаўнік шатландскага, вядомага з XV стагоддзя, і рускага графскага роду. Цікава, граф Фермар навучаў сялянскіх дзетак у Палецкішках. Жалаванне вучыцеляў - 100 руб., у 1876 - 150 руб., з 1877 дадатак на хлеб - 30 руб. і кватэра.

**Арлянская народная вучэльня (1863-1915)**

У хаце, пабудаванай сялянамі з казённага лесу. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Арлянскай царквы Аляксандр Іяанавіч Грыгаровіч (1867-98); Платон Станкевіч (1899-1903), Стэфан Шчарбіцкі (1904-15). Законавучыцель каталіцкага спавядання Антоні Пузылевіч (1879-83). Настаўнік - выпускнік Пскоўскай духоўнай семінарыі Павел Мікалаевіч Бялавін (1867-77). Вучыцелі: выпускніца Віленскай жаночай духоўнай вучэльні Стэфаніда Філарэтаўна Бялевіч (1877-81); выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Юрчык (1887), выпускнік Гарадзенскай павятовай духоўнай вучэльні Аляксандр Іванавіч Цыдзік (1890-93), выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Аляксей Буча (1894-97), Фёдар Люлькоўскі (1897-99). Жалаванне настаўніка: 150 рублёў і кватэра.

**Астрынская народная вучэльня (1863-1915)**

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне 284 руб. са збору з былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання: дыякан Астрынскай царквы Іяан Зноска (1873-78); Іяан Бяляўскі (1878-81), Іосіф Дбічкоўскі (1881-92); Мікалай Дружылоўскі (1892-98), Стэфан Прыселкаў (1898-1901), Пётр Семянтоўскі (1903-10), Сямён Мілаванаў (1911-15). Настаўнік - выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі святар Мікалай Пігулеўскі (1874-76). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Бяганскі (1876-78), Антон Станіслававіч Багдановіч з сялян (1879-81), Максім Міхайлавіч Калянчук з сялян (1881-83), Міхаіл Гудзевіч (1887), Мікалай Гуліч (1890-93); выпускнік Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Дзям'ян Панасевіч (1893-99). Жалаванне настаўніка: 150 руб.

**Беліцкая народная вучэльня (1864-1915)**

Ва ўласнай хаце. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Беліцкай царквы Стэфан Аляксандравіч Дружылоўскі (1864-1902), Мікалай Фёдаравіч Валкоўскі (1903-15). Законавучыцелі каталіцкага спавядання пробашчы Ельненскага касцёла: Юзаф Гліндзіч (1879-88), Альфонс Маткевіч (1888-99), Міхал Зямчонак (1904-10). Настаўнік - вучыцель Стэфан Аляксандравіч Дружылоўскі (1864-79), вучыцелі - выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі: Аляксандр Данілавіч Кулеш з сялян (1979-81), Іван Шутовіч з сялян (1882/83); Рыгор Іванавіч Садоўскі (1887), Марыя Пігулеўская (1890-93); Андрэй Васільевіч Мокат (1893-1903), Сільвестр Дзятко. Жалаванне настаўніка: 150 руб. і кватэра.

**Беняконьскае народная вучэльня (1864-1915)**

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне: 95 руб. са сродкаў сялянскай грамады. Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Юзаф Сянкевіч (1872-88), Ян Стэмпаржэцкі (1893-98), Тадэвуш Загорскі (1900-10), Мед Ужумецкі (1911-14), Ян Страгас (1915). Настаўнік - выпускнік Астрынскай народнай вучэльні Іван Давідовіч (1872-77). Вучыцелі: Вольга Аляксандрава (1877/78); выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Фама Красінскі (1880-83); Андрэй Дуброўскі (1887), Таісія Бугайла (1890-92), Пётр Васілёнак (1893); Іван Іваноў (1894/95); Вольга Садоўская (1895-98); выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Валеры Цітовіч (1898/99). Жалаванне настаўніка: 95 руб. і кватэра, жалаванне вучыцеля: 150 руб., хлеб на 10 руб. і кватэра.

**Васілішская народная вучэльня (1863-1915)**

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне 230-239 руб. са збору былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Васілішскай царквы: Васіль Паўскі (1873-76); Іяан Кудраўцаў (1876-78); Кірыл Малышэўскі (1878-79), Сергій Франтаў (1880/81), Іяан Бяляўскі (1881-86); Сафрон Пігулеўскі (1886-1902), Канстанцін Пігулеўскі (1904-15). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Сільвестр Шмігера (1877-78), Францішак Байкштыс (1879-81), Ануфры Банькоўскі (1881-88), Вікенці Сідорскі (1894-98), Франц Сакалоўскі (1900-04), Вацлаў Гінтаўт - Дзевялтоўскі (1904-10). Настаўнік Васіль Паўскі (1873-76). Вучыцелі: выпускнік Цвярской духоўнай семінарыі Іяан Кудраўцаў (1876-78), выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Рыгор Ілар. Кулеш (1878-83), Міхаіл Ананьеў (1887), Еўдакім Ракецкі (1890-95), Аляксандр Дудкоўскі (1895-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб.

**Глыбоцкая народная вучэльня (1863-1915)**

У грамадскай хаце ў с. Дубічы (1863-76), затым у с. Нарошы (1879-83). Утрыманне: 181 руб. са сродкаў сялянскай грамады. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Глыбоцкай царквы: Фоцій Іосіфа-

віч Ярушевіч (1862-74), Піліп Андрэевіч Ёдкаўскі (1874-97), Павел Сіткевіч (1898/99), Ніл Глушынскі (1900-02), Іосіф Куніцкі (1903-14).

Настаўнік - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Аляксееў (1872-76); вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Раманавіч Чараповіч (1879-83); Міхаіл (Іван) Галубовіч (1887-1890), Антон Панкевіч (1892-93); Рыгор Лемяноўскі (1894-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра.

**Голдаўская народная вучэльня (1864-1915)**

Ва ўласнай хаце. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Голдаўскай царквы: Канстанцін Сампсонавіч Брэн (1864-88); Павел Вараб'ёў (1889-98), Антоній Амельяновіч (1898-1900), Міхаіл Палікарпавіч Чабоўскі (1901-15). Настаўнік-вучыцель - выпускнік Віленскай павятовай вучэльні Уладзімір Мартынавіч Ятаўт з дваран (1871-78). Вучыцелі: Восіп Фадзеевіч Казлоўскі з сялян (1880/81), Марыя Сільвестраўна Даўгяла (1881-83); выпускніца Віленскай духоўнай жаночай вучэльні Марыя Пігулеўская (1887), выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Піліп Новаш (1890-91), Зміцер Іваноў (1892), Міхась Вайтовіч (1893-97); Георгій Грынцэвіч (1897/98); выпускнік Арлоўскай духоўнай вучэльні Рыгор Лебедзеў (1898/99), выпускніца Арлоўскай духоўнай жаночай вучэльні Соф'я Амельяновіч. Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра.

**Ганчарская народная вучэльня (1864-1915)**

У казённай хаце. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Ганчарскай царквы: Іяан Філіповіч Грудзінскі (1879-84); Сяргей Аляксеевіч Шастоў (1886-94), Канстанцін Высоцкі (1994-99), Мікалай Відалібскі (1900-10), Пётр Семянткоўскі (1914-15). Настаўнікі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Аляксандр Данілавіч Пятроўскі (1871-75); Васіль Восіпавіч Рут (1875-76). Вучыцелі: выпускнік Валынскай духоўнай семінарыі Фёдар Лаўрыновіч (1876-78); выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Сцяпан Міхайлавіч Чараповіч з сялян (1879-81), Ігнат Пятровіч Бяганскі з сялян (1881-83); Іван Антонавіч Кульвінскі (1887), Восіп Зубец (1890), Міхаіл Рудзевіч (1891-95); Аляксей Якімовіч (1897), Фёдар Рамашкевіч (1897/98), Мікалай Альшук (1898/99), Пётр Скрабец. Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, пасля 1900 г. - 199 руб. 50 кап. і кватэра.

**Дэмбраўская народная вучэльня (1864-1915)**

У грамадскай хаце. На навучальны год адпускалася 200 руб. жалавання з дзярж. казначэйства.

Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Дэмбраўскай царквы: Платон Бараноўскі (1873-81), Сяргей Франтаў (1882), Іяан Васілеўскі (1883-88), Павел Іванавіч Лебедзеў (1889-1901), Уладзімір Даламанаў (1902-10), Уладзімір Баталін (1911-15). Настаўніца-вучыцельніца - выпускніца Віленскай вучэльні для дзяўчат духоўнага звання Сафія Міхайлаўна Трацэўская (1870-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Фёдаравіч Папоў з сялян (1880-87); Аляксандр Лічко (1890-92), Іван Іваноў (1893); Антон Панкевіч (1894-95); Аляксандр Аўрамчык (1896-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, з 1877 г. да ранейшага дадатак 48 руб. і хлеб на 50 руб.

**Дакудаўская народная вучэльня (1865-1915)**

У хаце, пабудаванай для вучэльні сялянамі на ўласныя сродкі. 85 руб., затым 150 руб. з сялянскай грамады. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Дакудаўскай царквы Якаў Баліцкі (1876-1901), Аляксандр Ступніцкі (1902-09), Мікалай Смірноў (1909-15). Настаўнікі: выпускнік Віленскай духоўнай павятовай вучэльні Ануфрый Грудзінскі (1873-75); выпускнік Смаленскай духоўнай семінарыі Рыгор Палубінскі (1875-76). Вучыцелі: выпускніца Віленскай жаночай гімназіі Марыя Увядзенская (1876/77), выпускніца Гарадзенскай жаночай гімназіі Марыя Аляксандраўна Зайцова (1877/78); выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Восіп Паўлавіч Марковіч з сялян (1980/81), Антон Охрыц з сялян (1882/83), Мікалай Рыгоравіч Гурын (1887), Наталля Рак (1890), Андрэй Моркус (Моркуль) (1891-92), Аляксандр Лічко (1893), Еўдакім Іваноў (1894), Сцяпан Саланевіч (1895), Аляксей Азбукін (1896-98), Сільвестр Дзятко (1898/99), Павел Станоўскі. Жалаванне вучыцеля: 70 руб. і кватэра, з 1877 г. - 140 руб. і кватэра, пасля 1900 г. - 219 руб. і кватэра.

**Дуброўненская (1867-1879), Дубровенская (1880-93), Дубровенска-Лідская народная вучэльня (з 1893 г.)**

У грамадскай хаце ў в. Дуброўні. На ўтрыманне вучэльні адпускалася 239 руб. у год са збору з былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання дыякан Антоній Сцяпура (1875-81); Антоній Амельяновіч (1882/83); дыякан Міхаіл Гамаліцкі (1893-99). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Вікенці Свідэрскі (1877-78), Сільвестр Шмігера (Шмыгера) (1879-83), Казімір Станіоніс (1895-98), Юзаф Сянкевіч (1898-99). Настаўнік-вучыцель - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Вікенцій Шавякін (1872-83). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Ігнат Пятровіч Бяганскі (1887), Еўдакім Іваноў (1890-93), Восіп Дунец (1894-95), Антон Страшынскі (1895-98), Міхаіл Міцько (1898/99). Жалаванне вучыцеля - 150 руб., хлеб - 9 р. і кватэра, з 1900 г. - 216 руб. і кватэра.

**Жырмунская народная вучэльня (1864-1915)**

У грамадскай хаце. На ўтрыманне - 150-185 руб. з сум воласці. Законавучыцелі каталіцкага спавядання Тамаш Іванавіч Шыманскі (1865-77); Жыгімонт Косця (1878), Рамуальд Сташэвіч (1879-81), Маўрыкій Івашкевіч (1882-88); магістр багаслоўя з 1904 г. Генрых Бальцэвіч (1891-1910), Адам Сакалоўскі (1914-15).

Настаўнік - выпускнік Калужскай духоўнай семінарыі Пётр Васільевіч Мізераў (1869-76). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Мікалай Беручка (1876-83), Восіп Сіпуда (1887), Вікенцій Данько (1890-91), Андрэй Карэйва (1892-95), Еўдакім Ракецкі (1895-98); выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Лаўрын Данько (1898/99); выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Аляксандр Парафіяновіч (1903). Жалаванне настаўніка: 140 руб. і кватэра, з 1876 г. дададзены хлеб на 50 руб.

**Жалудоцкая (Жалудская) народная вучэльня (1874-1915)**

У наёмнай сялянскай хаце. На ўтрыманне 324 руб. з сум воласці. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання: Віктар Кіпрыянавіч Плаўскі (1876-98); Мікалай Віктаравіч Плаўскі (1898/99). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Антоні Пузялевіч (1875-98), Матэвуш Лаеўскі (1900-10). Настаўнік-вучыцель - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Аляксандр Вікенцьевіч Янчуковіч з салдацкіх дзяцей (1874-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іосіф Вольскі (1880/81), Палікарп Вянцкевіч (1882/83), Рыгор Новак (1887-1892); выпускнік Гарадзенскай павятовай духоўнай вучэльні Аляксандр Іванавіч Цыдзік (1893-97); выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Лебедзеў (1897-99). Жалаванне настаўніка: 150 руб. і кватэра.

**Забалацкая (Забалотная з 1876) народная вучэльня (1864-1915)**

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне: 182 руб. са сродкаў сялянскай грамады. Законавучыцелі каталіцкага спавядання Ануфрый Банькоўскі (1874-78), Ян Заблоцкі (1879-84), Фёдар Пяткевіч (1887-93), Антоні Аўдыцкі (1894-98), Ян Кажарновіч (1900-14). Настаўніца - выпускніца жаночай вучэльні пры Віленскім Марыінскім жаночым манастыры Надзея Восіпаўна Макарава (1873-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Андрэй Арсеньевіч Ясінскі, сын дзячка (1879-81), Іван Іванавіч Грэчка (о) (1882-1892), узнагароджаны медалём "За стараннасць"; Павел Віторскі (1893-97), Мірон Шахлевіч (1897-99), Сямён Сучко. Жалаванне настаўніка: 150 руб. і кватэра, з 1877 г. - 180 руб, хлеб на 30 руб. і кватэра.

**Забровіцкая народная вучэльня (1864-1882) - Дзікушская з жаночай зменай (1882-86)**

Ва ўласнай хаце ў с. Дзікушкі. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Дзікушскай царквы: Мікалай Іяанавіч Тэадаровіч (1864-76), Віктар Кіпрыянавіч Плаўскі (1876-98), Мікалай Віктаравіч Плаўскі (1898-1915). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Антоні Пузылевіч (1880-98), Матэвуш Лоеўскі (1900-10). Настаўнік - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Лявонцьевіч Дарафееў (1873-77). Вучыцелі: выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі, псаломшчык Аляксандр Данілавіч Галоўшчынскі (1877/78). Вучыцельніца жаночай змены Марыя Кляменцеўна Галоўшчынская (1877/78). Вучыцель - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Аляксей Васільевіч Канцэвіч (1879-87). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, з 1900 г. - 198 руб., жалаванне вучыцельніцы жаночай змены - 60 руб.

**Дзікушская мужчынская народная вучэльня (1890-1915)**

Вучыцелі: Аляксей Васільевіч Канцэвіч (1887-92), выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Самсон Талайка (1893-95), Гаўрыіл Іванавіч К(р)атлінскі (1896-1903).

**Дзікушская жаночая народная вучэльня (1887-1915)**

Вучыцельніцы: выпускніца Віленскай духоўнай жаночай вучэльні Стэфаніда Савіцкая (1887-90), Марыя Далжынская (1891-92), Марыя Шалепіна (1893); Надзея Кавальская (1894-95), Марыя Аўсюк (1996-98), выпускніца вышэйшай жаночай вучэльні Антаніна Крыпендорф. Жалаванне: 120 руб. і кватэра.

**Зблянская народная вучэльня (1864-1915)**

У грамадскай хаце. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі святары Зблянской царквы: Аляксандр Кіпрыянавіч Гінтаўт (1969-79); Іўстын Яленскі (1879-88); Сяргей Андрэевіч Тавараў (1888-1901), Уладзімір Ждан (1902-03), Іяан Скальскі (1904-15). Настаўнік - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Васіль Іванавіч Генвароў (1868-76). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Васіль Восіпавіч Рут (1876-78), Іяан Антонавіч Шкаранда (1879-81), Антон Станіслававіч Багдановіч (1882/83), Іван Паўлавіч Чарняўскі з мяшчан (1887), Антон Ральцэвіч (1890-92), Піліп Жарскі (1893-97), Іван Мялешка (1897/98), Вікенцій Клімза (1898/99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, з 1882 г. дададзены хлеб на 36 руб., з 1900 г. - 176 руб.

**Каняўская народная вучэльня (1865-1915)**

У грамадскай хаце пры валасным кіраванні. Утрыманне: 200-209 руб. са збору былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі каталіцкага спавядання: кандыдат багаслоўя з 1900 г. Адам Сакалоўскі (1879-1910). Настаўнік - выпускнік Тульскай духоўнай семінарыі Пётр Мікольскі (1872-77). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Канстанцін Грунтовіч (1877/78), Канстанцін Казіміравіч Юшко (1879-81), Антон Дзярыба (Дзярэмба) (1882-94), Аляксандр Лічко (1895-98), Макар Асіповіч (1898/99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб., дададзеных 48 руб., хлеба на 35 руб. і кватэра.

**Лябёдская народная вучэльня (1863-1915)**

Ва ўласнай хаце. На навучальны год адпуска-

лася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Лябёдскай царквы: Віктар Кіпрыянавіч Плаўскі (1863-76), Іяан Бяляўскі (1876-78), Валянцін Мацкевіч (1878-86), Савацій Белазерскі (1887-91), Сяргей Марозаў (1891-1909), Іван Альбаў (1909 -15). Настаўнік - Віктар Кіпрыянавіч Плаўскі (1863-1873), настаўніца - удава святара, выпускніца Віленскай вучэльні для дзяўчат духоўнага звання Сафія Івацэвіч (1873-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Міхаіл Галоўчыц (1880-83), Аляксандр Тарановіч (1887), Пётр Лячыцкі (1890-91), Адам Антонаў (1892), Аляксандр Дудкоўскі (1893-95); выпускніца Віленскай Марыінскай вышэйшай жаночай вучэльні Марыя Юндзіл (1896-99). Аплата вучыцеляў - 150 руб. і кватэра.

### Мытлянская народная вучэльня (1869-1915)

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне: 75 руб., з 1875 г. - 150 руб. са сродкаў сялянскай грамады. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Мытлянскай царквы: Андрэй Данілавіч Пігулеўскі (1869-79), Мікалай Кустоў (1879-86), Мікалай Пратасевіч (1887-90), Канстанцін Савіч (1892-94), Мікалай Відалібскі (1895-99), Іосіф Куніцкі (1900-02), Міхаіл Біруковіч (1903-10), Міхаіл Сакалоўскі (1911-12), Уладзімір Крукоўскі (1913), Іосіф Шчарбіцкі (1914-15). Законавучыцель каталіцкага спавядання пробашч Белагрудского касцёла Валяр'ян Піатроўскі (1879-84). Настаўнікі: выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі Пётр Лаўрыновіч (1873/74); Павел Ачаноўскі (1874/75); Любоў Віктараўна Каралёва (1875-77). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Канстанцін Паўлавіч Чарняўскі з мяшчан (1877/78), Васіль Іванавіч Генвароў (1878-81), Іван Ануфрыеў Мароз (1881-83), Мікалай Міpановіч (1887), Аляксандра Марковіч (1890), Аляксандра Міpановіч (1891-92), Сцяпан Лянцэвіч (1892-99), Мікалай Бойка. Жалаванне вучыцеля: 75 руб. і кватэра, з 1875 г. - 150 руб. і кватэра.

### Пакроўская (Сабакінская з 1874 г.) народная вучэльня (1864-1915)

У хаце валаснога кіравання. На навучальны год адпускалася 200 руб. утрымання з дзярж. казначэйства. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання святары Сабакінскай царквы: Міхаіл Восіпавіч Паўловіч (1864-77), Іяан Кудраўцаў (1878-1879), Зміцер Мітрапольскі (1880-93), Келясяцін Галянкевіч (1894), Фёдар Хруцкі (1894-1901), Іяан Краскоўскі (1902-03), Андрэй Дабрынін (1904-14), Уладзімір Крукоўскі (1915). Настаўнік - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Мікалай Хрыстафоравіч Бяручка з сялян (1872-76). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Руткоўскі (1876-78), Вікенцій Іванавіч Баравік (1878-81), Адам Пятроўскі з сялян (1882-87), Іван Іваноў (1890-1893), Фёдар Барыс (1894-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб., хлеб на 44 руб. і кватэра.

### Радуньская народная вучэльня (1863-1915)

У грамадскай хаце. Утрыманне 200-209 руб. са збору былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Ежы Данілевіч (1873-79), Францішак Мацкевіч (1879-81), Вікенці Жываронак (1882-86); Міхал Кавалеўскі (1887-88), Канстанты Сташэўскі (1891-99), Станіслаў Бржазоўскі (1900-10). Настаўнік - выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Сямён Рыгоравіч Зянько з сялян (1872-74). Настаўніца-вучыцельніца - выпускніца Гарадзенскай жаночай гімназіі Людміла Якаўлеўна Макарава (1874-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Міхаіл Ілліч Якімец (1879-81), Іван Ігнатавіч Купрашэвіч, з сялян (1882-93), Піліп Новаш (1894), Мікалай Каваленка (1894-1905). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра.

### Разанкаўская (1865-82), Ракавіцкая (1882-97), Ражанкаўская (з 1897) народная вучэльня

У грамадскай хаце ў с. Ракавічы. Утрыманне: 200 -209 руб. са збору з былых дзяржаўных сялян. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання: Пётр Рафаловіч (1873-86); Іуліан Ігнатавіч Баліцкі (1886-1901), Якаў Баліцкі (1902-15). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: магістр багаслоўя Рудольф Рыхлевіч (1879-83), Ян Стампаржэцкі (1884-93), Ян Гаўдзевіч (Гаўдкевіч) (1893-95), Антоні Кулакоўскі (1900-01), Эдуард Цы(е)ран (1903-10), Станіслаў Шырокі (1911-14), Ян Мароз (1915). Настаўнік-вучыцель - выпускнік Гарадзенскай павятовай духоўнай вучэльні Аляксандр Іванавіч Цыдзік (1869-89). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Юрчык (1890-91), Міхаіл Вайтовіч (1892), Зміцер Іваноў (1891-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, з 1877 г. дададзеныя 48 руб. і хлеб на 40 руб.

### Тарноўская народная вучэльня (1864-1915)

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне: 80 руб. з сум валасці, з 1877 г. - 160 руб. Законавучыцелі праваслаўнага спавядання: Зміцер Іванавіч Мітрапольскі (1880-83), Аляксандр Сцяфанавіч Дружылоўскі (1886-94). Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Валяр'ян Піатроўскі (1878-85). Настаўнікі: выпускнік Жыровіцкай павятовай духоўнай вучэльні Еранім Маркевіч (1873/74), выпускнік Літоўскай духоўнай семінарыі Пётр Лаўрыновіч (1874/75). Вучыцелі: выпускніца Полацкай духоўнай вучэльні Сафія Сафійская (1875-78); Лізавета Васільеўна Жабо (1879-83); выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Дзімітрый Траскоўскі (1887-1890), Восіп Дукель (1891-1893), Павел Бакаў (1894-95), Зміцер Кашко (1995-99), В. Рудакоўскі (1913-15). Жалаванне вучыцеля: 70 руб. і кватэра, з 1879 г. - 150 руб. і кватэра.

Тарноўская вучэльня згарэла ў 1912 г. У лістападзе 1913 г. настаўнік В. Рудакоўскі напісаў паперу на Тарноўскае валаснoе кіраванне пра будаўніцтва новага будынка. 5 снежня 1913 г. сабраліся 38 выбарных і службовых асоб пад старшынствам валаснога старшыны Івана Банцэвіча і прысудзілі: *"На пабудову адпусціць страхавую ўзнагароду за згарэлы будынак у суме*

*2 тысяч рублёў з наросшымі адсоткамі, і неабходную колькасць зямлі. Прасіць інспектара народных вучэльняў пра пераўтварэнне Тарноўскай народнай вучэльні ў 2-класную, пра водпуск казённага лесу з урочышча Лідска-Дубровенскай дачы і сумы грошай, якая не дастае.*

*Абавязаліся: адпускаць на ўтрыманне зноў пабудаванай вучэльні тую ж суму, што адпускалася раней; пабудаваны будынак выкарыстоўваць толькі для патрэб народнай адукацыі" (НГАБ у Гародні. Ф. 1595 воп. 1, спр. 2. л. 2-3).*

У лютым 1914 г. настаўнік В. Рудакоўскі паведаміў інспектару народных вучэльняў, што падрадчыкі не жадаюць браць падрад на будаўніцтва школы, спасылаючыся на зімовы час і малую суму грошай, і прасіў дазволіць будаўніцтва вучэльні гаспадарчым спосабам за 5 тысяч рублёў.

У красавіку 1915 г. камісія ў складзе настаўніка В. Рудакоўскага, валаснога старшыны І. Банцэвіча і валаснога пісара агледзела пабудаваны будынак вучэльні і прапанавала падрадчыку: *"Абгарадзіць вучэльню плотам; запакляваць пакуллем сцены і абгарадзіць дошкамі вуглы; выправіць карабатыя сцены ў класе; перакласці падлогі ў кватэры настаўніка; пафарбаваць падлогі, вокны і дзверы; уладкаваць у класах фрамугі; перарабіць у зімовых рамах фортачкі; прыбіць да столяў ліштвы; замяніць сапсаваную бляху ў жолабе новай; замяніць у класе сапсаваныя столевыя дошкі; зрабіць папраўку шчытоў, праз якія ўзімку навявала на гарышча снег; замяніць шыбы ў вокнах; скончыць студню".*

Падрадчык Краўкля выканаць гэтыя работы адмовіўся, запатрабаваў выдачы наперад пакінутых 500 руб. Камісія пастанавіла звярнуцца да інспектара народных вучэльняў Лідскага павета з просьбай адмовіцца ад падрадчыка і выканаць работы за кошт пакінутай сумы (*там жа, л.6*). Нагадаю, ідзе Першая Сусветная вайна. У верасні немцы акупавалі Лідскі павет.

**Эйшышская народная вучэльня (1865-1915)**

У хаце валаснога кіравання. Утрыманне: 100 руб. з сум воласці. Сродкі на ўтрыманне вучэльні адпускаліся мясцовай сялянскай грамадой у памеры, вызначаным на кожны год прысудам валаснога сходу. Законавучыцелі каталіцкага спавядання: Юзаф Даўкша (1877-83), Францішак Вайцяхоўскі (1884- 93), Казімір Кучэўскі (1893-95), Ян Адамовіч (1895-1901), Адам Савіцкі (1903-10). Настаўнік-вучыцель - выхаванец Калужскай духоўнай семінарыі Аляксей Пятровіч Скрамноў (1870-78). Вучыцелі: выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Іван Бяганскі, з сялян (1879-91), Філіп Новаш (1892-93), Аляксандр Лічко (1894/95), Антон Дзярыба (1895-99). Жалаванне вучыцеля: 150 руб. і кватэра, з 1877 г. дададзеных 18 руб. і хлеба на 40 руб.

**Табліца. Колькасць вучняў у народных вучэльнях Лідскага павета**

| Народныя вучэльні | 1877/78 н. год | 1880-83 н. год | 1986/87 н. год | 1896-98 н. год | 1898/99 н. год | 1900-05 н. год |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандраўская | 36 | 38 | | 42-65 | 88 | 18 х 6 д |
| Арлянская | 57 | 51 | | 64 | 90 | |
| Астрынская | 88 | 112 | | 130 х 4 д | 169 х 5 д | |
| Беліцкая | 50 | 30 | 76 | 66 | 71 х 14 д | 78 х 13 д |
| Беняконьская | 51 | 34 | | 50 х 4 д | 43 х 2 д | 114 |
| Васілішская | 67 | 103 | 86 | 125 х 5 д | 119 х 1 д | |
| Глыбоцкая | | 62 | | 94 х 8 д | 105 | |
| Голдаўская | 65 | 73 | 56 | 50 | 65 | 60 |
| Ганчарская | 24 | 58 - 38 | 70 х 2 д | 67 х 4 д | 87 | 90 |
| Дэмбраўская | 56 х і 2 д | 68 х 1д | | 74 х 4 д | 94 х 1 д | |
| Дакудаўская | 37 | 35 х 1д | 54 | 81 х 12 д | 92 х 8 д | 98 х 2 д |
| Дубровенская | 56 | 48 | 73 | 73 х 1 д | 93 х 1 д | 90 |
| Жырмунская | 49 у 1867 | 49 | | 96-100 х 6-7 д | 96 х 5 д | |
| Жалудоцская | 51 | 42 | | 71 | 98 х 14 д | |
| Забалацкая | 56 | 41- у 1867 | 46 - 50 | 47-60 (55 х 5 д) | 59 х 3д | 62 - 72 |
| Забровіцкая | 104 х 20д | 100 х 3 д | | | | |
| Дзікушская муж. | | | 78 | 76 | 78 | 79 |
| Дзікушская жан. | | | 11 | 36 | 36 | 36 |
| Зблянская | 65 х 2 д | 79 х 2д | 85 х 2 х | 60 х 3д | 104 | 90 |
| Каняўская | 31 | 50 | | 66 | 81 | |
| Лябёдская | 58 | 43 | | 72 х 2д | 76 х 2 д | |
| Мытлянская | 30 | 28 | 47 | 44 | 49 | 54 х 1 д |
| Радуньская | 52 х 1 д | 41 | 56 х 2 д | 62 х 3д | 68 х 6 д | 40 х 12 д |
| Ражанкаўская | 69 | 54 | | 85 х 7д | 58 | |
| Сабакінская | 57х 2 д | 82 | | 60 | 81 х 2 д | |
| Тарноўская | 50 | 56 - 36 | 44 | 28 | 37 х 3 д | 41 х 6 д |
| Эйшышская | 72 | 60 | | 67 х 3д | 84 х 1 д | |
| **Разам:** | **1270** | **1429** | | **1853** | **2153** | |

Агульная колькасць вучняў у народных вучэльнях Лідскага павета бесперапынна павялічвалася і ў 1898/99 навучальным годзе склала 2153 вучні. Самай шматлікай з 1877 па 1900 г. была Астрынская народная вучэльня, у 1898/1899 навучальным годзе ў ёй займаліся 169 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. Больш за сотню вучняў мелі ў 1890-я гады Васілішская, Глыбоцкая, Дзікушская, Жырмунская, Жалудоцкая, Зблянская народныя вучэльні. 36 дзяўчынак наведвалі Дзікушскую жаночую вучэльню.

У 1877/78 навучальным годзе 10 народных вучэльняў размяшчаліся ў хатах валаснога кіравання, 8 - у грамадскіх хатах, 6 - ва ўласных, адмыслова для вучэльняў пабудаваных, хатах, 1 - у казённай хаце і толькі Жалудоцкая вучэльня размяшчалася ў наёмнай сялянскай хаце. Беліцкая, Голдаўская, Ганчарская, Дэмбраўская, Забровіцкая, Зблянская, Лябёдская, Арлянская, Сабакінская народныя вучэльні знаходзіліся ў прывілеяваным становішчы - ім адпускалася па 200 рублёў у год з дзяржаўнай казны. Законавучыцелям праваслаўнага спавядання да 1882 г. плацілі па 25 руб. Законавучыцелі каталіцкага спавядання да 1904 г. выкладалі Закон Божы без утрымання. У студзені 1904 г. ім пачалі з казны плаціць па 25 рублёў.

У 9 вучэльнях: Глыбоцкай, Голдаўскай, Ганчарскай, Дэмбраўскай, Дакудаўскай, Зблянскай, Лябёдскай, Астрынскай, Пакроўскай (Сабакінскай) былі законавучыцелі толькі праваслаўнага спавядання, у 7 - Аляксандраўскай, Беняконьскай, Жырмунскай, Забалацкай, Каняўскай, Радуньскай і Эйшышскай - толькі каталіцкага спавядання, і ў астатніх - змяшанага праваслаўнага і каталіцкага спавядання.

Законавучыцелі праваслаўнага спавядання, як правіла - выпускнікі Літоўскай праваслаўнай духоўнай семінарыі. Настаўнічалі ў Лідскім павеце таксама выпускнікі Арлоўскай (Лебедзеў Г.), Полацкай (Сафійская С.), Гарадзенскай (Цыдзік А.І.), Слуцкай (Пігулеўскі С.), Жыровіцкай (Маркевіч І.) духоўных вучэльняў; Жыровіцкай (Гамаліцкі М.), Калужскай (Мізераў П.В., Скрамноў А.П.), Пскоўскай (Бялавін П.Н.), Смаленскай (Полубінскі Г.), Цвярской (Кудраўцаў І., Лебедзеў П.І., Шастоў С.) і Тульскай (Мікольскі П.) духоўных семінарый.

Віленскую рымска-каталіцкую духоўную (епархіяльную) семінарыю скончылі: Ян Адамовіч, Антоні Аўдыцкі, Францішак Байкштыс, Ануфры Банькоўскі, Францішак Вайцяхоўскі, Юзаф Даўкша, Ян Кажарновіч, Казімір Кучэўскі, Альфонс Маткевіч, Вікенці Сідорскі, Казімір Станіоніс, Канстанты Сташэўскі, Ян Стэмпаржэцкі, Тамаш Іванавіч Шыманскі, Сільвестр Шмігера і інш. Генрык Бальцэвіч - выпускнік Менскай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі.

Настаўнікі і вучыцелі галоўным чынам - выпускнікі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Зрэдку ў вёскі Лідскага павета на навучанне сялянскіх дзяцей прыязджалі выпускнікі Нясвіжскай (Данько Л., Мокат А., Цітовіч В.) і Свіслацкай (Панасевіч Д.) настаўніцкіх семінарый, Віленскай (Увядзенская М.) і Гарадзенскай (Аляксандрава М., Зайцова М.А.,Макарава Л.Я.) жаночых гімназій, Віленскай вучэльні для дзяўчат духоўнага звання (Трацэўская С.М., Івацэвіч С.), Марыінскага жаночага манастыра (Макарава Н.О.), духоўнай жаночай вучэльні (Савіцкая С.), Марыінскай вышэйшай жаночай вучэльні (Юндзіл М.) і нават Санкт-Пецярбургскай Духоўнай акадэміі (Фермар Н.).

Народныя вучэльні - першыя ў гісторыі пачатковыя школы, якія прыйшлі ў вёску. Дзеці вывучалі Закон Божы, арыфметыку, чытанне, пісьмо, царкоўныя спевы. Галоўным прадметам быў Закон Божы. Яго выкладалі святары праваслаўнага і каталіцкага веравызнання, якія сачылі, каб дзеці выхоўваліся ў патрэбным маральна-духоўным кірунку.

Найбольшыя складанасці стварала пытанне пра мову выкладання Закона Божага. Ён прывёў да палярызацыі ў асяроддзі рымска-каталіцкага духавенства: *"адны бачылі сваю будучыню ў абліччы лаяльнага ўладам рускага католіка і тых, хто толькі вонкава падпарадкоўваўся мерам уладаў па русіфікацыі касцёлаў і тых, хто адкрыта выступаў супраць"*.

Курс навучання ў народнай школе быў 3-гадовы. Навучальны год павінен быў пачынацца з 1 верасня і заканчвацца 1 траўня. Навучальны тыдзень складаўся з 36 навучальных гадзін (па 6 урокаў у дзень - 4 да абеду і 2 пасля абеду). Але часцей за ўсё, заняткі праводзіліся толькі ўзімку, калі ў гаспадарцы было менш працы. У народныя вучэльні прымалі дзяцей школьнага ўзросту ўсіх саслоўяў і веравызнанняў, але пераважная большасць навучэнцаў складалі дзеці сялян.

Карэспандэнт з в. Беняконі ў 1910 г. жаліўся: *"У нашым народным вучылішчы было заўсягды ня больш 50- 60 вучняў, а ў гэтым гаду ўсе сунуліся да навукі і ўжо вучацца больш за 100 і яшчэ просяцца, але не прыймаюць. Патрэбна тут двухкласнае прыходскае вучылішча, але ніхто аб гэтым не дбаець"*. Карэспандэнт злёгку не ў курсе, у 1900 г. Беняконьскую вучэльню наведвалі 114 вучняў.

**Першакрыніцы:**

1. Ершова О.И. Правительственные народные училища Северо-Западных губерний как альтернатива земской школе Европейской России (вторая половина XIX века).

2. Журнал Министерства народного просвещения. Часть CXVIII. Отд.1. СПб, С.29-32

3. Наша Ніва. 1910 г. (факсимильное издание). Выпуск 3. Мінск.

4. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874, 1875, 1876, 1877, 1877/78, 1882/83, 1897/98, 1898/99 учебные годы.

5. Памятная книжка Виленской губернии на 1884, 1887, 1890, 1893, 1894, 1895, 1897, 1900, 1904, 1907, 1908, 1909, 1910, 1912, 1913, 1914, 1915 гг.

6. Свод удельных постановлений 1843 г.Ч.5. Гл. 3. § 28. СПб.1843.

***Паводле lida-info.***

***Леанід Лаўрэш***

# ГорадЛіда ў лёсе ксендза Віктара Шутовіча

Ксёндз Віктар Шутовіч нарадзіўся ў вёсцы Шутовічы былой Смаргонскай воласці. Пачатковую адукацыю атрымаў у Смаргоні і потым паступіў у Віленскую духоўную семінарыю, якую скончыў у 1913 г., пасля чаго быў высвечаны на святара: *"З духоўнай семінарыі я выйшаў мала да жыцця прыгатаваны. А да беларускага жыцця, дык тады я быў скарэй упярэджаны, чым з ім абзнаёмлены. Надта многа гаварылася тады аб літвінох, пра беларусаў таксама ўжо добра чувалася. Дзіўныя мне словы "літвоман", "бялорусоман" аб мае вушы абіваліся. ... Старэйшыя ксяндзы нас маладых гэтымі словамі страшылі. ... тады хапіла толькі малога падазрэння, што нехта з ксяндзоў мае нахіл у літоўскі ці беларускі бок, каб яго за гэта кідаць як найдалей ад Вільні і ад людскіх беларускіх ці літоўскіх асяродкаў"* [1].

Святарскую працу ксёндз Віктар Шутовіч пачаў у Лідзе, і хоць працаваў тут непрацяглы час, але лідскі перыяд быў важным, вызначальным і адбіўся на ўвесь далейшы жыццёвы шлях. Вось што пісаў а. Віктар у сваіх успамінах: *"Я не жалеў Вільні і радасна паехаў на вікарага ў Ліду. Шчырым сэрцам там спаткалі мяне: кс. дзекан Шкоп і двух ягоных вікарых.*

*Сярод ксяндзоў я трымаў польскі тон. На плябаніі і ў касцёле я гаварыў у Лідзе па-польску. Па дварох я езьдзіў на гарбаткі, і адведвалі мы ў Лідзе чыноўнікаў, якія хоць цару служылі, але ў часе з сабой яны гаварылі па-польскі. Мяне ўжо тады да гэтых сфераў лішне не цягнула. У такіх гасьцях я часта пазяхаў і дамоў рупіўся. Я спасьцярог вялікую розніцу паміж жыцьцём на плябаніі і жыцьцём парахвіянаў. Саткнуўся я з людзьмі ў спавядніцы і чуў, што ім памагчы трэба па-беларуску. Тады яшчэ я ня быў сьвядомым беларусам, але ўжо нешта падобнае ў мяне завязывалася. У Лідзе я спаткаўся з беларускім, хоць нясьвядомым яшчэ сьветам. Як паеду я на вёску, ды з людзьмі сваімі спаткаюся, тады я чую, што жыву і для людзей працую. Хоць тады я не гаварыў так з людзьмі па-беларуску, як гэта раблю цяпер. Але я людзям гэтым пяяў беларускія песьні, і людзі мяне за гэта любілі. Гэна маё спатканне з людзьмі было дужа натуральнае, а на'т і рамантычнае ў тым сэнсе, што ў маёй душы развівалася нейкая шырокая любоў да ўсіх тых людзей, сярод якіх я працаваў. Я езьдзіў па калядзе ў самыя далейшыя вёскі. Любіў я тады хадзіць і езьдзіць па берагох Нёмна. Там я спатыкаўся з праваслаўнымі, але і да іх я ў душы сваёй ня тое чуў, што на маім месцы чуў другі ксёндз польскі. Расказвалі мне гэныя беларусы, як у іх перад гэтым быў кс. В., што праваслаўных сьвяціў вадой з Нёмна, а праваслаўныя яго баяліся і ад яго ўцякалі і жаліліся на яго свайму бацюшку. У гэных вёсках я начаваў, і пятухі мяне там раніцай будзілі. ...*

*У Лідзе я любіў хадзіць у акружны суд і да прысягі людзей даводзіць. І зноў з новым для сябе сьветам я спаткаўся там. Расейскі царскі суд выглядаў дужа паважна. Яны на'т па рублю плацілі духавенству за кожную прысягу. На гэных судох засядалі прысяжныя, сьмятанка з тутэйшых людзей у павеце. Раз гэтак на судзе я побач сядзеў са старэнькім бацюшкам, настаяцелем ў Лідзе (*верагодна, а. Іосіф Каяловіч - *Л.Л.). Ён, нахіліўшыся да мяне, далікатна мяне запытаў, якой я народнасьці. У гэтым часе кожны ксёндз, калі гаварыў з бацюшкам, дык мусіў яму сказаць, што ён паляк. У даным выпадку гэта і я зрабіў. А гэны на мяне ўталопіў свае вочы і пытаецца далей, дзе я ўроджаны. Тут я сказаў яму праўду, што з Ашмянскага павету. Тады бацюшка на гэта ўсьміхнуўся, кіўнуў галавой і да мяне кажа: "Які з цябе паляк Ашмянскага ўезду?!" Гэны бацюшкаў сказ мне надта глыбока залез у душу, я яго і сёння помню. Многа я ўжо і перад гэтым думаў, хто я такі? ... Я ведаў добра, што я не расеец і ў душы сваёй я польскасьці не прызнаваўся, бо я чуў там, што я не паляк. ...*

*Але жыццё мяне папхнула ў шырэйшы свет. Па чатырох месяцах у Лідзе, мяне паклікалі на вікарага ў Віленскую катэдру"* [2].

Хутка з Вільні кс. Віктар Шутовіч паступіў ў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Скончыў два курсы акадэміі і, не маючы грошай, каб вучыцца далей, пакінуў вучобу. Аднак падчас вучобы кс. Віктар прыязджаў у Ліду: *"Калі я з Акадэміі на Каляды прыехаў у Ліду, ды за сталом засеў з ксяндзамі, ды горача павёў новыя гутаркі аб беларускіх справах, мяне даўнія мае калегі і дэкан не пазналі. Сіла маіх аргумэнтаў іх здзівіла. Там за сталом быў і старшы мой калега з Акадэміі кс. Шырокі, але ён маўчаў і не мяшаў мне ў маіх вывядах"* [3].

У 1917 г. а. Віктар Шутовіч прызначаны пробашчам у касцёл вёскі Барадзенічы тагачаснага Браслаўскага павета, дзе прабыў да 1927 г. 10 гадоў ён па-беларуску рабіў казанні ў касцёле, арганізоўваў беларускія школы, збіраў фальклор. Але ў 1927 г. а. Віктара прынудзілі пакінуць свой прыход, ён зноў быў пераведзены вікарыем у Ліду.

Беларуская Крыніца" ў 1927 г. пісала: *"12 студня сёл. г. па загаду Я. Э. Віленскага Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага вядомы беларускі народны дзеяч Кс. В. Шутовіч пазбаўлены парафіі ў Барадзенічах, Браслаўск. пав., і назначаны на вікарага ў Ліду. Дэлегацыя ад усей парафіі, просьбы з цэлым мноствам подпісаў, каб затрымаць у Барадзенічах Кс. Шутовіча не памаглі нічога. Прычыны такой вялікай кары на Ксяндза-Беларуса, паданыя афіцыяльна Кс. Шутовічу Я. Э.*

[1] Ks. V. Sutovic. U 25-tyja uhodki majho sviatarstva (1913 - 1938) // Chryscijanskaja Dumka № 16(164), 1 cervienia 1938.
[2] Там жа.
[3] Ks. V. Sutovic. U 25-tyja uhodki majho sviatarstva (1913 - 1938) // Chryscijanskaja Dumka № 17(165), 10 cervienia 1938.



***Ксёндз Віктар Шутовіч***

*Арцыбіскупам, зводзяцца да трох: ненавісьць народу, дрэнная слава ў паважных людзей, а асабліва ў суседніх ксяндзоў і ўрэшце дзейнасьць на шкоду Касьцёла ў Ёдах. ...*

*Ненавісьці да Кс. Шутовіча ў яго парафіян няма ані сьледу. Уся парафія нязвычайна яго любіць і шануе. Маюць да Кс. Ш. ненавісьць насланыя нам дзеля сеяньня польскай "культуры" розныя чужынцы, як сышчыкі, паліцыянты, вучыцялі. Людзі гэтыя, з касьцёлам переважна ня маючыя нічога супольнага, маюць сваёй мэтай нішчыць усе праявы беларускага жыцьця. Ясна, што Ксёндз-Беларус, верна служачы свайму народу, не даваў спадобы гэткім асобам. Як даведваемся, нават жменя так званай шляхты ў пар. Барадзеніцкай да Кс. Шутовіча ня мае ніякай ненавісьці, а толькі, дзеля сваей умысловай агранічанасьці, хацела-б, каб у касьцеле ў Барадзенічах ня было зусім мовы беларускай. А гэта нешта цалком іншае ад ненавісьці да самога пробашча, як пастыра і чалавека.*

*А йшчэ дзіўней выглядае закід Кс. Шутовічу, што ён дзеля таго ня можа астацца ў парафіі, што быццам утраціў добрае імя ў паважных людзей, асабліва ў суседніх ксяндзоў!*

*Праўда, добрага імя Кс. Шутовіч ня мае ў рознага роду сышчыкаў, праўда такжа, што ня мае ён добрага імені і ў некаторых ксяндзоў суседніх, якія полёнізуюць праз Касьцёл беларускі народ і глумяць усялякія яго адраджэнскія пачынаньні. Але паводле канонічнага права тады ёсьць утрата добрага імені, калі гэтае добрае імя пробашч сапраўды ўтраціў недастойным жыцьцём сваім, або сваякоў, з якімі жыве, або калі выявіўся які даўнейшы немаральны ўчынак пробашча. А гэтага ўсяго ніхто ня сьмее закінуць Кс. Шутовічу.*

*Урэшце трэці закід больш чым дзіўны. Зводзіцца ён да таго, як мы ўжо ўспомнілі, што Кс. Ш. працаваў на шкоду Касьцёла, што быццам выявілася ў Ёдах. Аказваецца, што тут трэба разумець вось што. Група польскіх авантурнікаў для полёнізатарскіх мэтаў пастанавіла забраць на касьцёл праваслаўную царкву ў Ёдах. Рэч ясная, што да такой "работы" найлепш было б ужыць мяйсцовага пробашча Кс. Шутовіча, але гэты на такую авантуру не пашоў. Здаецца, што, калі-б хто з нас быў большым каталіком, як сам Папеж, дык усёж-дыкі ў гэтай справе прызнаў бы слушнасьць не каму іншаму як Кс. Шутовічу.*

*Гэткія закіды, аднак пастаўлены Кс. Шутовічу ўладай духоўнай афіцыяльна. Аснова іх, як бачым - прадусім палітычная.*

*Прыватна ... Арцыпастыр падчорківае, што Кс. Шутовіч, як ксёндз і як чалавек, дужа добры, але што ён адначасна не тактычны і не разьбітны (nie roztropny) і што прадусім дзеля гэтага пазбаўляецца парафіі. Дапусьцім, што так. Але адначасна дазволім запытацца, хто з людзей, будучым на такім ці іншым грамадзкім становішчы, такіх "грахоў" не дапускаецца? Няхай кожнаму адкажа яго сумленьне*" [4].

Арцыбіскуп паабяцаў вернікам, якія склалі да яго дэлегацыю, што не будзе іх крыўдзіць і *"дасьць другога ксендза або Беларуса, або ўмеючага па беларуску"*. Але новы ксёндз Станіслаў Мажэйка не ўмеў ці не жадаў размаўляць па-беларуску *"калі-ж адважыцца гэта рабіць, дык хіба толькі дзеля таго, каб абсьмяяць беларускую мову"* і ніяк не спрыяў беларускай справе[5]. У верасні 1928 г. былы парафіянін а. Віктара пісаў, што кс. Мажэйка павінен быў пасля Шутовіча *"... перарабіць нашу парахвію з беларускай на польскую. Вось ён працаваў над гэтым шчыра ... Але, ... у нашай парафіі беларускі дух не аслаб"* [6].

Пра свой другі, кароткі, побыт у Лідзе а. Віктар піша ў мемуарах толькі адзін сказ: *"Пасьля гэтага быў я назначаны на вікара спярша ў Ліду ..."* [7].

Нехта з беларускіх дзеячаў наведаў а. Віктара ў Лідзе. Вось што ён напісаў у "Беларускай Крыніцы" пра гэты візіт: *"Ліда. Будучы надоячы ў Лідзе, захацелася мне пазнаёміцца з нашым новым вікарым кс. Шутовічам і выразіць яму свой жаль з прычыны таго гвалту, які ён церпіць ад сільных гэтага сьвету.*

*Але не думайце, чытачы, што так лёгка ўбачыцца і пагаварыць з кс. Шутовічам, як гэта на першы пагляд здаецца. Каб дайсьці да яго, трэба запасціся вялікай порцыяй нахальства, хітрасьці, а на'т подступу. Ведаючы аб гэтым, я пазваніў на плябанію. Адпёр дзверы нейкі ксёндз і запытаўся, чаго мне трэба. На мой адказ, што хацеў-бы відзецца з кс. Шутовічам, ён вельмі падазрона аглядзеў мяне з ног да галавы, стаў разпытвацца, хто я такі, скуль, чаго*

[4] Bielaruskaja Krynica № 4, 21 stydnia 1927.

[5] Там жа.

[6] Belaruskaja Krynica № 44, 1 wierasnia 1928.

[7] Ks. V. Sutovic. U 25-tyja uhodki majho sviatarstva (1913 - 1938) // Chryscijanskaja Dumka № 19(166), 20 cervienia 1938.

*хачу ад кс. Шутовіча, што маю супольнага з ім і г.д. Калі я ў чыстай польскай мове адказаў, што кс. Шутовіч ёсьць маім крэўным і школьным калегай, гэты ксёндз-дапрошчык відавочна ўспакоіўся і ненашоўшы нічога "антыпаньствовага" ў маіх словах і агульным выглядзе, казаў мне пачакаць у ганку, а сам пайшоў у пакой. Праз некалькі мінут выйшаў другі ксёндз невялікага росту, але вельмі тоўсты* (верагодна - ксёндз-дэкан Баярунец - *Л.Л.*), *і пачаў нанова рабіць дапрос. Вось тут то я і пазнаў, што маю дзела з старшым, бо ні адзін сычык, ані сьледавацель мяне так не дапрашываў падрабязна, як гэты ксёндз. Хоць я моцна стараўся захаваць супакой і адказваць не заікаючыся, але гэты тоўсты дапрошчык, відаць, пазнаў мой подступ, з пагардай адвярнуўся ад мяне, нічога не сказаў, а толькі тыкнуў пальцам на сходы, што мела значыць - там жыве кс. Шутовіч, і пайшоў у пакой. Я паднімаючыся на сходах сумна разважаў над навукай Хрыстуса і паступкамі некаторых яго слуг, як прыкладам гэты тоўсты ксёндз-дапрошчык. Кс. Шутовіча найшоў такім, якім яго знаў з газэт: энэргічным і ахвотным да далейшай працы на ніве адраджэння нашага народу. З далейшай гутаркі я пазнаў, што гэта чалавек жалезнай волі, што ніякая бура яго ня зломіць, ніякія гвалты, уціскі не заб'юць яго, што ён жыцьцё сваё ложыць на аўтар адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Дык памажыж яму, Божа, у яго працы і дай яму дачакаць лепшага заўтра!*

*С. Хлопскі."* [8]

На пачатку 1928 г. "Беларуская Крыніца" паведаміла што кс. Шутовіча будуць судзіць па арт. 129., частка 1., пункты 3 - 6 К.К. за *"падбурэнне адной часткі насельніцтва проці другой"* [9]. Суд адбыўся ў Браславе ажно 15-га снежня, і на падставе амністыі справа а. Віктара Шутовіча была скасавана[10].

У 1928 г. а. Віктар Шутовіч быў пераведзены ў вёску Тшцяна (Trzciana) каля Ломжы. З 1929 па 1932 г. служыў у ЗША.

У 1932 г. пераведзены вікарыем і прэфектам у Хорашчы (Choroszczy) каля Беластока. З вясны 1944 г. па 1945 г. служыў у Чырвоным касцёле Менска. 26 студзеня 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі, прысуджаны да 10 гадоў турмы. Выйшаў на волю 20 сакавіка 1955 г., з 1956 г. нелегальна служыў у Барысаве, дзе і памёр 1 сакавіка 1960 г.

А. Віктар Шутовіч з'яўляецца складальнікам зборніка "Калядныя песьні", выдадзенага Нінай Абрамчык у Берліне і аўтарам драмы "950 гадоў хрысціянства на Беларусі".

[8] Belaruskaja Krynica № 14, 1 krasawika 1927.
[9] Bielaruskaja Krynica № 2, 21 stydnia 1928.
[10] Bielaruskaja Krynica № 58, 21 snieznia 1928 г.

# Ліда ў творы незабыўнага Максіма Гарэцкага

***(З цыклу даследчых прац "Пісьменнікі Беларусі: чарговыя разгадкі ў спадчыне Лідскага рэгіёна")***

Даследаваць свой родны кут, свой край, у якім нарадзіўся, з'яўляецца найгалоўным маім абавязкам. Чаму? Адказаць складана. Можа, па той прычыне, што душой прынікаеш да сваёй радзімы? Можа, ад таго, што ведаеш, праз якія шляхі і перашкоды прайшла яна, каб мы сёння былі шчаслівыя? Нездарма гучыць і такое выказванне: "Мілы той куток, дзе перарэзаны твой пупок".

З кожным разам, калі дазнаюся што-небудзь новае пра маю малую радзіму - вёску Крупава ці пра горад Ліду, мяне цягне ўсё глыбей і глыбей, каб расшукаць тое, што яшчэ мала кім вызначана. Няхай сабе, гэты скарб ужо і вядомы камусьці, але ж знайсці яго самому і без ніякай дапамогі выклікае невыказаную асалоду і яшчэ большую прыязнасць да краязнаўства.

Горад Ліда хавае шмат цікавага і нязведанага. Парой, яно (нязведанае) нават знаходзіцца на паверхні, а мы шукаем яго ў глыбіні… Ужо не першы год мне даводзіцца ўзначальваць літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты", працаваць навуковым супрацоўнікам у Лідскім гістарычна-мастацкім музеі - яго літаратурным аддзеле (доме паэта Валянціна Таўлая). Становіцца вядомым, што Лідчына - гэта літаратурны край. Так, так! Спрачацца няма сэнсу. Тут налічваецца звыш 500 імён паэтаў і пісьменнікаў, чые жыццёвыя шляхі так ці інакш звязаны з Лідчынай: гэта тыя, якія хоць і адышлі ад нас, але з адметным следам, гэта тыя творцы, якія вымушаны былі пакінуць нашы мясціны, але нарадзіліся тут, гэта тыя, хто да гэтых пор радуе чытачоў, слухачоў сваімі творамі. Але зазначу, што свой пачатак літаратурная Лідчына бярэ з канца 16 стагоддзя, калі лідскі староста Ян Абрамовіч (? - 19.04.1602) выдаў у Вільні евангелістычны "Катэхізіс" у 1598 годзе, у якім змяшчаецца 300 рэлігійных песень. Як бачна, лідская літаратура прайшла шматгадовую шліфоўку. За свой час тут пабывалі, прыпыняліся, праязджалі вядомыя асобы не толькі ў Беларусі але і за яе межамі. Праз Ліду праязджаў вядомы паэт Аляксандр Блок, тут у лідскіх краях узгадваецца і бацька класіка рускай літаратуры Аляксандра Пушкіна Сяргей Львовіч Пушкін, тут працаваў на чыгунцы беларускі пісьменнік Карусь Каганец, тут нарадзілася Цётка, настаўнічаў Францішак Багушэвіч. Тут дырэктарам цвікавога завода быў Уладзімір Корбан, тут жыла Ніна Тарас, жыў і працаваў у газеце "Уперад" Валянцін Таўлай. Тут значны след пакінулі Ігнат Дамейка, Янка Купала, з зямлёй лідскай звязана Марыся Ямант - нарачоная Кастуся Каліноўскага. Тут нарадзілася першая беларускамоўная паэтэса Адэля з Устроні, тут… З Лідчыны Хрысціна Лялько, Данута Бічэль, Ірына Багдановіч, Віктар Праўдзін, Уладзімір Клімовіч і інш.

Так, праз лідскі край пракладзены шляхі-дарогі многіх дзеячоў культуры, як, напрыклад, беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Яго жыццё было кароткім і абарвалася ў час росквіту творчых сіл, жыццёвая сцяжына вяла яго не па роўнай, а наадварот - па пакручастай дарозе, дзе найчасцей сустракаліся цяжкасці, перашкоды. Нягледзячы на гэта, творца застаўся самім сабою, не здрадзіў свайму пісьменніцкаму, чалавечаму шляху. Як заўважылі даследчыкі, выбар Гарэцкага, як правіла, быў беспамылковы, бо ў сваіх памкненнях і ўчынках ён кіраваўся высокімі прынцыпамі гуманізму, ідэй праўды, дабра і справядлівасці.

З гісторыі беларускай літаратуры, вядома, што імя Максіма Гарэцкага заслужана ўпісана і размяшчаецца непадалёку ад творчай дзейнасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якімі, як сцвярджаецца, меў знаёмства.

Сёння ён - агульнапрызнаны класік беларускай літаратуры, адзін з самых таленавітых пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы. Сваё кароткае жыццё Гарэцкі прысвяціў высакароднай справе духоўнага адраджэння роднай краіны, выхаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў. Зараз на радзіме Максіма Гарэцкага (у вёсцы Малая Багацькаўка, што на Мсціслаўшчыне) створаны музей. Яго імем названы бібліятэка ў Горках, вуліцы ў Менску, Мсціславе, Горках. У Менску і Вязьме класіку беларускай літаратуры пастаўлены помнікі. Вобраз Максіма Гарэцкага ўвасоблены ў дакументальных стужках. Яго творчасць знаходзіцца пад пільнай увагай літаратуразнаўцаў. Рэгулярна арганізуюцца Гарэцкія чытанні, выдаецца яго творчая спадчына. З 1997 года дзейнічае Міжнародны фонд братоў Гарэцкіх.

Ваенныя падзеі (Першая Сусветная вайна, рэвалюцыя, жорсткія баі, раненні, лячэнне ў шпіталі пад наглядам Алаізы Пашкевіч (Цёткі)), Вільня, беларускія гарады і вёскі праз якія і прайшоў яго шлях, тэрыторыя тагачаснай Расійскай імперыі ўдала ахарактарызаваны пісьменнікам у шматлікіх творах. Не будзем спыняцца на іх, бо літаратурная спадчына яго багатая і вядомая з навучальнай праграмы.

Трэба зазначыць, што сёлета Максіму Гарэцкаму споўнілася 125 год з дня нараджэння (нарадзіўся 18 лютага 1893 года). Аб тым, што яго шлях быў пракладзены праз Лідчыну, ён афіцыйна пазначыў у сваім галоўным і вядомым нам рамане-эпапеі, кнізе-аўтабіяграфіі "Камароўская хроніка".

Передаю ў арыгінале, але скарочана.

*"17 ліпня. 7 г. раніцы, выехалі ў дарогу, у кірунку на м. Варняны, Астравец. Начавалі ў панскім двары Каменка. Тут багаты панскі палац, багатая мэбля добрае скуры, чырвонаармейцы яе здзіралі, валяліся кніжкі з багатае бібліятэкі. Тут касцёл ці царква. Сяляне маліліся богу. Адносіны з сялянамі былі добрыя.*

*У аднэй вёсцы былі настаўнікі, якія ведаюць Кузьму... Яны пачулі прозвішча і з гэтага даведаліся, што я Кузьмоў брат. Ад іх даведаўся пра Кузьму...*

*18 ліпня. Раніцай выехалі на Ашмяны. А 2-й гадзіне ўдзень былі ў Ашмянах. Начавалі ў панскім двары Ашмянка-Мураванка.*

*19 ліпня.10 г. р., выехалі. Ехалі на п. дв. Жодзіна, праз м. Табарышкі. Начавалі ў в. Дайнаўка.*

*20 ліпня. Даехалі да п. дв. Бартынікі, дзе і начавалі.*

*21 ліпня. Мястэчка Радом.*

*22 ліпня. Новы Двор.*

*23 ліпня. Ехалі праз м. Острына. Чуваць была ўлева артылерыйская страляніна. Начавалі ў в. Каневічы (Горадз. губ.).*

*24 ліпня. А 4 г. удзень выехалі з в. Каневічы, праз в. Абухава, п. дв. Будоны, тут і начавалі, з прычыны няспраўнасці мосту праз Нёман."*

Але больш прыемна нам, лідзянам, што Максім Гарэцкі не абмінуў і мясціны, праз якія ён дабраўся і да нашага роднага горада Ліды і далей пракладваў свой шлях.

*"22 жніўня. Уранні прыехалі ў м. Шчучын.*

*23 жніўня. Праехалі г. Аўгустоў. Ехалі па вялікім лесе, па шашы, шыбка. Разведчыкі, прыслуга - усе былі напагатове, ехалі шыбка, сядзелі і глядзелі ў правы бок, гатовыя біцца. Казалі, што палякі будуць з правага боку. Вялікае напружанне...*

*24 жніўня. Начавалі ў в. Булда.*

*25-26 жніўня. Стаялі ў 5 в. ад г. Гродні.*

*27 жніўня- в. і м. Каменка.*

*28 жніўня - в. Дымаўцы.*

*29 жніўня - г. Ліда. З Ліды хацеў дабрацца да Кузьмы, але пабаяўся застацца ад часці.*

*30 жніўня - м. Тракелы.*

*31 жніўня - Ліпнішкі, Субатнішкі.*

*1 верасня - Багданава, Трабы, Вішнева, Філіпятнікі.*

*2 верасня - м. Забрэззе, Дворышча, Дубіна, Літва Новая і Старая, Палачаны, Груздзёва.*

*3-4 верасня прастаялі ў в. Груздзёва.*

*5 верасня пераехалі ў м. Лебедзева...."* [1]

Дзякуючы гэтым запісам, у нас, лідзян ёсць гонар, што тут, на зямлі лідскай пакінута хоць невялічкая часцінка, але ж вялікага класіка беларускай літаратуры, жыццё якога прайшло не па зайздросным шляху.

***Алесь ХІТРУН*,**
*навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея*

[1] Фрагмент рукапісу "Камароўскай хронікі". Аўтограф. 1930-я гады (Асабісты архіў пісьменніка захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі пад нумарам 7 і складаецца з 119 адзінак захавання. Рукапісы пісьменніка можна таксама ўбачыць у фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва)

У трэцяй частцы, пад гадамі 1917-1921 гг. пісьменнікам адзначаны год "1920". У гэтым годзе ў час ваенных дзеянняў паводле захаваных звестак з "Пракопавага дзённіка" ёсць апісанні ўжо Гарадзенскіх мясцін.

***Янка Жамойцін***

# З перажытага

*(Заканчэнне. Пачатак у пяпярэдніх нумарах.)*

**У этап**

На пераломе восені і зімы, у халодны лістападаўскі дзень па турме разнесліся чуткі аб падрыхтоўцы ў "этап", што абазначала падарожжа ў лагер этапамі, ад турмы да турмы. Неўзабаве выкліканыя на турэмны калідор вязні на загад: "Выходи с вещами", - шыхтаваліся тройкамі ў групы з 30 чалавек і адпраўляліся на чыгуначны таварны вакзал, дзе чакалі падрыхтаваныя "цяплушкі" - таварныя вагоны. Унутры вагона трохярусныя памосты, на якіх можна было прылегчы, але малая адлегласць між ярусамі не дазваляла сесці, а ў найлепшым выпадку абаперціся толькі на локці рукі ў паўсядзячай пазіцыі. Самы ніжні ярус наогул пуставаў з-за холаду, што прабіваўся ад падлогі вагона. У адным з процілеглых куткоў выразаная ў падлозе вагона і чымсь прыкрытая дзіра - гэта "прыбіральня", дзе спраўляліся фізіялагічныя патрэбы пасажыраў. У іншым вугле "буржуйка" змайстравана з жалезнай пасудзіны, ад якой выведзена з вагона труба - дымаход. Буржуйка мела выконваць заданне печкі, дзеля чаго вагон і называўся цяплушкай. Адсутнасць паліва ажно да марозаў ніжэй - 15°C не апраўдвала той назвы, і вязні напераменку лярталі так, каб узаемна абаграваца альбо ратаваліся ад холаду трываючы ў безупынным руху, да знемажэння. Атрыманы на дарогу "паёк" у форме кавалка жытняга хлеба іількі (дробнай салёнай рыбы) ці куска сушанай прасоленай рыбы адстрашваў голад, выклікаў неўтаймаваную прагу, але не аднаўляў патрачаных калорыяў, а што даволі важнае ў тых абставінах - не выклікаў фізіялагічных неабходнасцяў. Раз у суткі адбываўся паралік вязняў і пры гэтай нагодзе "вадапой". На некаторых станцыях у Расеі быў бясплатна даступны кіпяток пасажырам цягнікоў далёкага курсіравання. Гэта лічылася дабрадзействам і тэмай сатыры на свабоду слова ў СССР: *"Я смело говорил и говорить буду, что у нас на каждой станции кипяток бесплатен"*. За такую прапаганду не судзілі. Калі наш цягнік затрымоўваўся на станцыі, дзе "кипяток бесплатен", ахова пасля пераліку прыносіла вядро тае цёплае вады і вядро халоднай. Вязні кідаліся на кожную ваду, якою яна б не была. Калі кіпятку на станцыі не было, атрымоўвалі мы вёдры вады проста з гідранта. Пераможцамі ў атаках на ваду былі вязні, якія мелі нейкую пасудзіну: банку з-пад кансерваў ці кацялок. Іншыя былі ад іх залежныя, але затое менш пасля скардзіліся на боль жыватоў.

Падарожжа цягнулася вяла, зборнымі цягнікамі, з доўгімі прыпынкамі і з-за неабходнасці было падзелена на некалькі этапаў, якія канчаліся ў перасыльных турмах. Усе яны былі да сябе падобныя. Кожная перасыльная турма была падрыхтавана да прыняцця натоўпу змораных людзей. Загнаныя ў турэмныя камеры, быццам жывёла, сасмяглыя людзі кідаліся перш за ўсё на бочкі са сцюдзёнай вадою, напоўненыя перад прыбыццём вязняў. Перад пустым бачонкам, які знаходзіўся ў іншым куце камеры, фармавалася зараз жа чарга, каб споўніць "накіпеўшыя" ў тым часе фізіялагічныя неабходнасці. Неўзабаве пасудзіна напаўнялася, і пачынаўся грукат у дзверы з дамаганнем вынесці "парашу". Ідэнтычныя водгукі даносіліся з іншых камер, але ніхто звонку гэтым не пераймаўся. Відаць гэта было ўжо ўпісана ў сцэнарый прыняцця "часцей", і "парашы" жоўценькім струменьчыкам плылі па камерах пад ногі натоўпу, напаўняючы паветра аманіякавым смуродам.

Наступны нумар праграмы - лазня з адначаснай пражаркай вопраткі і абутку. У той лазні "парадак" вядомы: стрыжка ўсіх валасоў жаночай (абавязкова) абслугай, змаганне за пасудзіну на ваду, а каму не хапіла цёплай вадзіцы, заставаўся яшчэ шанс на халодны душ. Калі ў пражарку аддаў хто кажух ці футра, немінуча атрымоўваў напалову цяснейшую, пакурчаную ад празмерна высокай тэмпературы. Лаянка, енкі праклёны нікога не ўзрушаюць. Апусцелыя камеры, у тым часе хутка памытыя іншымі вязнямі, прымаюць наступных падарожных; бочкі зноў напоўнены вадою. Дачакаўшыся з цяжкасцю наступнай раніцы - далей у "этап". Гэты няхітры эпізод з пересыльнай турмы ў Горкім можна без турбот аднесці да кожнай іншай "перасылкі", і для кожнай споўніць ён ролю быццам фатаграфіі. Вось як шаблонна была распрацавана.

**Першае сутыкненне з лагерам**

З апошняй перасылкі ў Петрапаўлаўску везлі нас нядоўга ў Акмолінск і там перагналі ў лагер (праўдападобна пад Акмолінскам, бо ніякага горада з лагера не было відаць). Гэта была мая першая сутычнасць з лагерам. Для нашага транспарту вязняў выконваў ён ролю каранціна. Баракі на 300-350 асоб кожны, застаўленыя "вагонкамі" (збітымі з дошак двухяруснымі нарамі для спання для чатырох асоб) сталі хутка напаўняцца маладымі хлопцамі - пераважна ўкраінцамі, балтамі, часткова беларусамі ды людзьмі арыентальнага тыпу. На доўгачаканае падсілкаванне пачалі выводзіць у сталовую чаргова баракамі, у якіх людзі былі памешчаны паводле транспартных саставаў. Зала сталовай адпавядала колькасці пасяленцаў барака, якія займалі месца абапал доўгіх быццам сталоў, прымітыўна збітых з няструганых дошак. Турэмная абслуга дзейнічала вельмі спраўна. Кожны чаргова атрымаў алюмініевую міску і кусочак чагось, што нагадвала камяк хлеба. У місцы ганялі адна адну крупіны нейкай быццам кашы пачарнелай у мутнай вадкасці. Па зале разносіліся крыкі: "Ложки нужны". На заўвагу з кухні:

"Нет и не будет", - публіка звычайна выхлёбтвала з місак тую вадкасць, пакідаючы на дне рыбіны косці. На гэты момант толькі і чакалі прытаіўшыеся цёмнашэрыя постаці ў бліскучых ад бруду бушлатах. Яны маментальна збіралі міскі, апаражняючы іх ад тых касцей, што вандравалі проста ў іх страўнікі. Гэта былі лагерныя "дахадзягі", якія шукалі паратунку для сваёй незайздроснай вегетацыі.

Заданнем каранціну, як аказалася, было ператварэнне турэмнай масы ў рабочую сілу ды ў характар тавару, якім павінны зацікавіцца "купцы" з навакольных лагерных пунктаў. На пачатак праводзілася ідэнтыфікацыя. Перад вывадам у лазню - востры загад усім пабрыцца пад пагрозай кары за непадпарадкаванне ды за незабеспячэнне магчымасці параўнання асабістага выгляду з турэмнай фатаграфіяй у персанальнай папцы. Аказалася, што цырульня не працавала, але гэта нікога не хвалявала. У бараку найбольш дасведчаныя былыя ваякі скрабалі ўжо сваё аблічча асколкамі шкла з пабітых ваконных шыбаў (нанач палаталі нейк тыя дзіры ў вокнах кавалкамі кардону). Мне таксама прыйшоўся кавалачак шкла, пры помачы якога ўдалося пазбавіцца зарасту з пакрываўленага пры нагодзе твару. Пасля лазневай працэдуры - сарціроўка паводле месцаў высылкі з турмаў, безупынныя лічэнні, канфрантацыі з персанальнымі дакументамі і ўрэшце камісоўкі. Камісоўка - гэта агляд адмысловаю камісіяй кожнага дагала распранутага вязня, акрэсленне яго катэгорыі працаздольнасці, залічэнне да прафесіі, якую ён сам назаве і прызначэнне да часовай рабочай брыгады. Я, падвучаны раней дасведчанымі вязнямі, назваў сябе рамеснікам - цесляром, што зрэшты не супярэчыла маёй сякой-такой умеласці з ранняга вясковага юнацтва. Выбар гэты збавіў мяне пазней ад высылкі ў руднікі. Цераз некалькі дзён з'явіліся "купцы" з лагера ў Карагандзе, якія патрабавалі пільна будаўнікоў для горада, у тым ліку і цесляроў.

### У працоўны лагер

Быў люты 1951-га года. Лагер на ўскраіне Караганды ўвесь час атакаваны ветрам, які безупынна наносіў пясок змешаны са снегам, пранікаючым у кожную шчыліну: у вушы, нос, за каўнер і т.д. З навічкамі, толькі што прывезенымі сюды, не цацкаліся. Кожны атрымаў сваю "зэкаўскую" вопратку "БУ", што абазначала "бывшую в употреблении", на якой мусіў зразу выпісаць хлорам свой атрыманы нявольніцкі знак: на шапцы, на плячах, на грудзях вопраткі, на портках. Знак павінен быць разборлівы і заўважальны здалёк, бо ў іншым выпадку пагражала пакаранне карцэрам. Мой знак ВВ-82. Дзень мінуў на безупыннай валакіце: бязлікіх "проверках", пераліках, "шмонах" (шмон - асабістая рэвізія), канфрантацыях з персанальнымі дакументамі і г.д. Вячэра нічым не рознілася ад таго падсілкавання ў акмолінскім каранціне. У канцы дня раздзел "навічкоў" па існуючых рабочых брыгадах, што ўспелі ўжо вярнуцца з працы ў лагер. Я папаў у брыгаду цесляроў (з Божай ласкі) - украінскіх хлопцаў з брыгадзірам, таксама ўкраінцам. Апынуліся ў ёй і беларусы: Мікола Яроцкі з ваколіц Баранавіч і дзядзька Міхась (які ніколі не карыстаўся прозвішчам). Так мы і стварылі беларускую секцыю з трох чалавек ва ўкраінскай брыгадзе.

Пачаўся быццам новы этап у маім нявольніцкім бытаванні, перыяд безнадзейнага манатоннага панурага змагання за прадаўжэнне тае біялагічнае вегетацыі, якая ў падсвядомасці дзесь падтрымоўвала ўсётакі праменьчык праўдападабенства чагось, што ва ўмовах жорсткага абсалютнага фізічнага і маральнага прыгону здавалася неверагодным.

Лагер параўнаўча невялікі - каля трох тысяч зняволеных, падзеленых на рабочыя брыгады, якія будавалі Караганду. Былі гэта амаль выключна маладыя хлопцы і часткова мужчыны да 45 гадоў. Апранутага ў ватаваныя лахманы "БУ", прапацелыя і засмоленыя з аграмаднымі з усіх бакоў здалёк бачнымі літарамі і нумарамі на вопратцы, людзі згубілі свае вонкавыя індывідуальныя прыкметы. Усе мы ператварыліся ў шэрую безназоўную масу - рабочую сілу - тавар, адзінкі якога пазначаны дзеля рацыянальнага выкарыстання. Гэтай, у асноўным, мэце быў падпарадкаваны рэжым таго "особого исправительно-трудового лагеря". Яго "особенность" заключалася ў тым, што згуртаваныя ў ім "враги советского народа", пазначаны былі літарамі і лічбамі, поўнасцю абстрыжаныя да скуры; ад'із аляваны ад вонкавага свету з забаронай якіх-колечы кантактаў з блізкімі, адведзін іх у лагеры, а нават лістоўнай карэспандэнцыі, калі не лічыць фармальнага дазволу на напісанне двух лістоў у год, якія часта канчалі свой маршрут у лагернай цэнзуры.

Дзесяцігадзінны працоўны дзень, апрача падарожжа на рабочыя аб'екты і ў лагер, безупынныя пералікі вязняў у лагеры і на рабоце - у сярэднім 16 разоў у дзень, запіранне на замок баракаў нанач пасля вячэры, ліхое харчаванне, якое не перапыняла пачуцця голаду, асабісты "шмон" (вобыск) кожнага не менш, чым тры разы ўдзень - усё гэта служыла той "асаблівасці" рэжыму.

Адзіны вольны ад працы дзень у месяцы быў пераважна прадбачаны на апаражненне баракаў дзеля "шмону" пасцелі, асабістых рэчаў і саміх баракаў, што практычна пазбаўляла вязняў магчымасці асабістых кантактаў у вольным ад працы часе, а тым больш шанцаў на якія-колечы арганізаваныя сустрэчы. Безупынны індывідуальны нагляд за вязнямі (асабістыя вобшукі, канфрантацыя нумароў з прозвішчам і г.д.) ды сачэнне за паводзінамі рабочых брыгад (пералікі, рабочыя заданні - "нарады", змены складаў брыгад, ацэнкі вынікаў працы калектываў) - усё разам служыла забеспячэнню ўнутранай ізаляцыі лагернікаў, паколькі адбірала ім шанц нават талкова пазнаёміцца.

Важным элементам нявольніцкага бытавання была бесперапынная галадоўка людзей, якая выклікала іх фрустрацыю, абмежаванне думак і ў рэшце рэшт паступовае ламанне псіхікі. Асабліва маладым людзям цяжка было прабіцца думкамі за абшары праблемы, звязанай з патрабаваннем арганізму забяспечыць яго вегетацыю.

Найважнейшым момантам асноўнай ежы - вячэры, што варта адцяніць, была раздача хлеба. Калі толькі брыгадзір выходзіў з хлебарэзкі з падносам

запоўненым пайкамі хлеба, вочы цэлай брыгады, як па загаду, ахаплялі той паднос, беспамылкова ацэньваючы велічыню запрацаваных пайкоў. Хлеб быў парэзаны на кавалачкі, дакладна адважаныя пароўну. Калі ў якім пайку не хапала хоць грама, то тая недастача была абавязкова прышпілена да асноўнага пайка кавалачкам шчэпкі велічынёю ў запалку. Паднос з хлебам нёс звычайна памочнік, а сам брыгадзір кожнаму ўручаў яго порцыю, мяркуючы так, каб акрайчык, называны гарбушкай, прыпадаў кожны чарговы дзень каму іншаму. Гарбушка лічылася адрозненнем, бо мела менш вадкасці ў скарынцы, чым вадзяністы мякіш, і з тае прычыны была больш аб'ёмістай, хаця не рознілася цяжарам.

Рабочыя калектывы стараліся інтэнсіфікаваць сваю працу дзеля перавыканання нормы, ад якой залежаў надзел хлеба, а то і дабаўкі аўсянага супу, які называўся кашай. Гэта быў спосаб на пабольшанне працы, бо той дадатковы паёк вымагаў затраты большай колькасці калорый, чым ён рэкампенсаваў. Зрэшты перавыкананне рабочай нормы прыводзіла да павялічэння асноўнай яе велічыні. Некаторыя хлопцы шукалі паратунку ў пазбяганні патраты энергіі, хаваючыся на будове ад работы. Такія паводзіны, аднак, супярэчылі інтарэсам калектыву і самога брыгадзіра, а выяўленне такой паставы пагражала штрафною брыгадай, што абазначала першую ступень да канчатковай гібелі.

Сістэма "особых" лагераў аднак не на тое была створана, каб прадоўжыць статыстычную смяротнасць вязняў саракавых гадоў з прычыны голаду. Гэтая праблема тут была жорстка кантралявана адмысловымі камісіямі, якія перыядычна праводзілі "камісоўкі" - агляд голых вязняў і адбор з рабочых брыгад "дахадзягаў" - гэта тых, у якіх ягадзіцы прыліпалі да шкілета. Калі такія заморы яшчэ мелі сілу сяк-так рухацца, іх пасылалі працаваць у кухню на тыдняў 3-4, альбо арганізоўвалі ў брыгады для лагерных работаў, падкармляючы аўсянкай да часу аднаўлення сіл.

Іншай "дабрадзейнасцю" спецлагера была адсутнасць у ім разбояў між вязнямі, крадзяжоў і даносаў, дзякуючы рэзкаму абмежаванню колькасці блатных. Практычна ў спецлагеры асталіся толькі тыя з іх, якія "запрацавалі" ў лагеры пакаранне за сабатаж, забойства кагось з аховы і да т.п., што можна было залічыць да палітычных злачынстваў. Гэта не замінала лагернаму кіраўніцтву лічыць іх "сацыяльна блізкімі" і давяраць розныя функцыі лагерных прыдуркаў. (Прыдуркамі называлі лагерную абслугу, якая не падлягала выводу на рабочыя аб'екты за лагер.) Удзел іх і ў гэтай галіне быў аднак змаярызаваны палітычнымі вязнямі, у прынцыпе з той групы, што мела сваё найбольшае прадстаўніцтва; у выпадку нашага лагера - украінцамі.

Нянавісць хлопцаў да прыгнятальнікаў выэлімінавала жорсткімі метадамі (пераважна забойствам) перад усім сексотаў (канфідэнтаў). Паступова зліквідаваны былі нават найдрабнейшыя крадзяжы. Прысваенне чаго-колечы не свайго, асабліва кавалка хлеба, пагражала карай фізічных катаванняў да паўсмерці, што не практыцы аказалася вельмі паспяховым у ліквідацыі зладзейства, якое з'яўлялася зморай бытавых лагераў. У лагеры была КВЧ (КАВЭЧЭ - "культурно-воспитательная часть"). Там можна было дастаць кавалак паперы, на якім пад наглядам было дазволена напісаць казённым алоўкам ліст (2 разы ў год), можна было і пазычыць кніжку. Большасць кніжак з галіны прапаганды не ўзбуджала ніякага зацікаўлення, не толькі з-за адсутнасці ўмоваў і сілы да чытання. На невялічкую колькасць класічнай літаратуры была чарга, у якой трэба было чакаць каля паўгода. Мне ўдалося аднойчы дастаць кніжку "Война и мир" Льва Талстога, якую трэба было прачытаць на працягу адзінага ў месяцы вольнага ад працы дня. Калі пазамыкалі баракі, раптам аб'явілі трывогу. У барак увайшоў афіцэр з аховай і, загадаўшы ўсім вышыхтацца ў праходзе між "вагонкамі", прачытаў інфармацыю аб пакаранні смерцю групы манашак у жаночым лагеры, якія сур'ёзна патурбавалі якогась эмгэбіста і зганьбавалі яго мундзір. Я, стоячы на сваім месцы, уляпіў вочы ў кніжку, каб не траціць часу. Заўважыў гэта наглядчык, вырваў ад мяне кнігу і аб'явіў тры дні пакарання БУРам (БУР - барак усиленного режима). Неўзабаве пасля адыходу аховы прыбег "воронок" (пасланец з камендатуры) ды адвёў мяне ў БУР - на карцарны паёк і прабыванне ў халодным памяшканні на нарах без сенніка, трое сутак. Так кончылася мая сутычнасць з літаратураю. Я цяжка пераносіў безупынныя вятры, якія наганялі пясок ці пясок змешаны са снегам, ды пясчаныя бураны. Пачаў адчуваць безупынныя болі горла і павышаную тэмпературу цела, што, аднак, не магло мець уплыву на звальненне з працы на будове горада. У 1952 годзе пачаў недамагаць сэрцам пры адначаснай гарачцы. Адведзіны лагернай санчасці, аднак, не аблягчалі сітуацыі. Урэшце лагерны лекар, гарадзенскі хлапец Мечыслаў Баркоўскі, паставіў дыягназ: endocarditis і ў 1953 выяднаў у сваёй начальніцы (фельчаркі ў чыне лейтэнанта МГБ) дазвол палажыць мяне ў інфэрмэрыю. Тэмпература аднак не ўступала, а недахоп лекаў і дрэннае харчаванне не стваралі магчымасці палепшання самаадчування.

Пад восень 1952 г. М. Баркоўскі з задавальненнем паведаміў, што ўдалося яму залічыць мяне да ўнутрылагернай брыгады, якую арганізавала камендатура для няздольных да працы на будове па-за зонаю лагера. Неўзабаве аднак аказалася, што гэта быў хітрык лагернага кіраўніцтва. Цераз дзён два па лагеры разнеслася трывожная вестка, што арганізуецца этап у інвалідны лагер у Спаск, што ў карагандзінскім стэпе. У спіску прадбачаных у этап хлопцы знайшлі і маё прозвішча. Спаск уславіўся ў Карлагу як "душагубка", між іншым для маладых людзей непрыдатных да працы, якіх пазбаўляліся каменданты рабочых лагпунктаў (у тым ліку і блатных - адказчыкаў ад работы). Спробы сябра Баркоўскага ў яго начальніцы звольніць мяне ад таго этапу аказаліся беспаспяховымі.

Некалькі землякоў: Арсень Наваграм з Навагрудка, Адамовіч (ліцэіст з Глыбоччыны - удзельнік падпольнай вызваленчай арганізацыі моладзі пасля вайны), Рамановіч, спомненыя Мікола Яроцкі і дзядзька Міша ды яшчэ некалькі сяброў, якіх не памятаю,

знайшлі хвіліну часу развітацца ці хутчэй, можа, выказаць спачуванні.

### Спаск

Грузавікі выкінулі нас - некалькіх старэчаў і маладых "дахадзягаў" - перад брамаю Спаскага лагера інвалідаў у сонечны восеньскі дзень. Як вокам глянуць абшар пустыннага стэпу, аплецены загародамі некалькіх радкоў калючага дроту вышынёю каля трох метраў. Між радкамі той пачварнай загароды стаяць, у адлегласці каля 250 м адна ад адной, вышкі з кулямётам і дрэмлючымі чырвонаармейцамі. Большая частка той тэрыторыі паперасечана глінянымі або каменнымі сценамі вышынёю ў тры метры з двума доўгімі баракамі ў кожнай клетцы між тымі сценамі. Толькі ў цэнтры гэтага пачварнага паселішча знаходзілася большая неперагароджаная плошча з некалькімі будоўлямі, каля якіх круціліся людзі. Трэцяя частка той тэрыторыі была аддзелена сцяною, абапал якой, з кожнага яе боку, былі працягнуты загарады з калючкі. Гэта падзел лагера на мужчынскую і жаночую зоны. Ад мужчынскай жылой зоны быў ад'ізаляваны цэнтральны шпіталь Карлага з амбулаторыяй і клінічнай лабараторыяй. Апошняй забудаванай часткай зоны быў двор з пякарняю ды рознымі майстэрнямі. Рэшта абшару, абгароджанага калючкай і вышкамі, была незагаспадарана. Усходняя яго частка, бугрыстая і скальная, гэта каменяломы. Першае, што кінулася ў вочы выкінутым пад брамай лагера зняволеным, гэта звышкіламетровая чарада людзей, паўзучая з каменяломаў у напрамку жылой часткі лагера. Далей, дзесь на поўнач за лагернай зонай, цягнуліся даўжэзныя бетонныя быццам бункеры. Гэта сіласы капусты і агародніны. Калі ад іх павеяў вецер, наносіў на лагер невынослівы смурод гнілізны. Непадалёк таго смярдзючага "овощехранилища" - плошча пакрытая бугарочкамі, між якімі дзе-нідзе валяўся кавалак скалы ці крушня каменьчыкаў. Гэта турэмны могільнік. Далей, да самога небакраю, шэры, спечаны сонцам стэп, непакоены пясчанымі подыхамі. Катастрафічнае ўражанне ад пабачанага пейзажу паглыбіў яшчэ нейкі афіцэр МГБ, які нечакана паявіўся з пасёлка функцыянераў МГБ і лагернай аховы, што непадалёк лагера. Афіцэр па невядомай нам прычыне прычапіўся да нас - некалькіх маладых хлопцаў - абяцаючы нам "уют" у адгароджанай ад рэшты лагера будоўлі з яўным выглядам астрога. Гэта, як пасля выяснілася, быў славуты "шизо" (штрафной изолятор), з якога рэдка каму ўдавалася вярнуцца ўласнымі сіламі. На адвячорку ўвагналі нас у зону. Калекаў зразу завялі ў інвалідскія баракі, іншым загадалі чакаць на спомненай цэнтральнай плошчы лагера.

### Нечаканае спатканне

Лагернікі чакалі ўжо нас з надзеяй, што даставім ім якія-небудзь навіны. Перад усім шукалі землякоў. Мне, на шчасце, зразу папаўся блізкі - Міхась Кучэйка, гадоў 45-47, як аказалася, невідушчы ад развітага крывянога ціску і глаўкомы. Той самы Кучэйка - дзеяч Жалудоцкай БНС у часе акупацыі, за што "w imieniu Rzeczypospolitej" была расстраляна цэлая яго сям'я за вячэрнім сталом, а ён сам, спознены з-за дарожнай аварыі, застаўся ў жывых, каб пазней падзяліць лёс мільёнаў савецкіх "зэкаў".

Міхась, як заўсёды, зычлівы аптыміст, хуценька выслаў некага ў шпітальную зону з просьбаю паклікаць лекара - Алеся Банькоўскага - майго сябра, былога кіраўніка Віцебскай акругі СБМ. Алесь маментальна прыпёрся ды яшчэ з Віктарам Хомічам - былым навагрудскім семінарыстам, а пасля "рагулеўцам". Віктар меў ідэальна каліграфічны почырк (ён выпісаў мой атэстат сталасці, які апынуўся ў кашы для смецця, калі я адмовіўся яго з'есці па загаду раз'юшанага жывадзёра ў слубіцкім (Франкфурт-на-Одэры) арышце восенню 1945 г.). Хлопцы схапілі мяне ў шпітальную зону, папярэдзіўшы вязняў, каб нікога аб гэтым не інфармавалі, калі нават стане шукаць і дапытвацца лагерная ахова. Алесю ўдалося яшчэ скантактавацца са сваім начальнікам шпітальнага аддзела (старым фельчарам - афіцэрам МГБ) і палажыць мяне ў бальніцу з-за абвастрэння эндакардыпу. Такім чынам сябры апярэдзілі вядомага ім з садызму "оперуполномоченного", які кожнага прывезенага ў інвалідскі лагер маладога чалавека прафілактычна кіраваў у "шизо". Усе іншыя фармальнасці ўзяў на сябе Віктар, які дзякуючы свайму ідэальнаму почырку і адсутнасці пішучых машынак выконваў абавязкі сакратара начальніка шпіталя палкоўніка Харашавіна. Маючы на ўвазе недахоп медыцынскага персаналу ў бальніцы, Алесь з першых дзён дастаўляў мне адпаведную літаратуру, праводзіў безупынныя гутаркі, вучыў выконваць перавязкі ды ўколы, браў як світу ў яго лекарскія абходы, так, што на працягу месяца зарэкамендаваў мяне як дасведчанага медбрата, што ў лагернай наменклатуры называлася "фельчарам". Спагадлівы яму начальнік аддзела, хоць і стараўся прыняць мяне на работу, аднак камендатура адмовіла з прычыны 25-гадовага тэрміну пакарання.

### У каменяломы

Прыблізна цераз месяц усіх хворых вывезлі на "камісоўку". Камісія, пабачыўшы мяне аджыўленага, нат не хацела зацікавіцца гісторыяй хваробы. Прызнала першую катэгорыю працаздольнасці і назначыла ў каменны кар'ер, у брыгаду Пятра Цімафеевіча Бандарэнкі - суджанага за трацкізм, лагерніка з 18-гадовым стажам, чалавека сяброўскага, але неразважнага ў сваёй нянавісці да лагернага рэжыму. У брыгадзе было нас некалькі адносна маладых; большасць - гэта старыя людзі, пераважна азіяты, ужо непрацаздольныя. Нашым, "маладняку", заданнем было накалоць молатамі і жалезнымі клінамі столькі асколкаў скалы, колькі іншыя - старыя - зняволеныя былі здольныя вынесці з кар'ера на бераг для спомненага "кульгавага" транспарту. Турботай брыгадзіра было так аблічыць колькасць выпрацоўкі, каб не трапіць ў штрафавікі. Зрэшты, Бандарэнка за нешта такое гатоў быў бы перагрызці нарадчыку горла, і той быў свядомы такой магчымасці.

Маім напарнікам у "малатабойні" быў мой равеснік Косця Ахметаў - крымскі татарын, настаўнік. Кульгавы ад пастрэлу ў нагу ў часе ўцёкаў са ссылкі ў Сібір у пошуках сваёй жонкі і асуджаны на 25 гадоў, цяжка пераносіў няволю. Закаханага ў сваёй жонцы Фаціме, хутка, пасля іх жаніцьбы паводле ўсіх татарскіх традыцыяў, быў сілаю разлучаны з ёю. Аул, дзе яны жылі і працавалі, быў нечакана акружаны войскам і на працягу адной гадзіны ўсе яго жыхары пад прымусам былі як папала пагружаны на грузавікі і паразбіванымі сем'ямі развезены ў розныя напрамкі. Гэтую трагедыю разлукі многіх сем'яў падзялілі і Косця з Фацімаю.

Алесь адведваў мяне, як мог падлечваў маю хранічную ангіну, якая мела ўплыў на хваробу сэрца і стараўся прадаўжаць маю медыцынскую навуку. Надышоў сакавік 1953 г., а з ім надзея на перамену лёсу мільёнаў нявольнікаў савецкай імперыі.

**Смерць тырана**

Аднойчы раніцай чамусьці доўга не адмыкалі баракаў. Нарэшце ў нашую лагерную секцыю (2 баракі на 350 асоб, аддзеленыя сценамі ад іншых) уварвалася група жаўнераў і выгналі ўсіх на двор, дзе было яшчэ навеяна ветрам снегу на 1,5-2 метры. У тую гурбу снегу ўціснулі стол, на які ўскарабкаўся афіцэр з паперай, абведзенай чорнай аблямоўкай і заявіў, што адчытае жалобнае паведамленне ЦК КПСС аб смерці Сталіна і загадаў: "Шапки долой". "Зэкі", быццам умоўленыя, пераглянуліся, але ні адзін не сягнуў рукою да шапкі. Тады збянтэжаны афіцэр таксама націснуў на лоб знятую раней сваю "вушанку" і паспешліва адчытаў тэкст. Вернутыя пад замок у баракі вязні загулі, як на базары. Сярод людзей запанавала эйфарыя. Яны абдымаліся, падбадзёрваліся надзеяй вольнасці. Пад вокны барака штораз падыходзілі жаўнеры, але баракаў не адмыкалі. На адзінае таго дня падсілкаванне выводзілі малымі групамі, пад узмоцненай аховай. Нікому аднак і ў галаву не прыйшла магчымасць бунту. Запанавала надзея на паступовыя перамены. Неўзабаве пачуліся весткі (аб вядомых сённяператасоўках у ЦК КПСС, а пасля і аб ганебнай, неверагоднай тады, смерці крывавага Берыі). Нашы лагерныя валадары сталі паступова губляць сваю ўпэўненасць у безадказнасці. У хуткім часе была аб'яўлена амністыя, але толькі для бытавікоў. Павыпусканыя на волю зладзеі і іншыя блатныя хутка сталі запрацоўваць на вяртанне ў лагер, між іншым і ў Спаск, дзе нечакана расла іх колькасць.

Палітычныя вязні сарганізавалі нефармальны самаўрад, з якім камендатура мусіла лічыцца. Жыццё ў дробязях стала паступова мяняцца, напрыклад, часцейшая перапіска, незамыканне баракаў, галаўныя прычоскі і да т.п. Паслабленнем рэжыму сталі злоўжываць перад усім блатныя. Па жаданні зэкаўскага самаўраду, пад прэсіяй усіх вязняў, з лагера вывелі блатных галаварэзаў на працягу адной гадзіны.

У лагеры стаў арганізоўвавацца культурны рух, пачынаючы з хору, аркестра, шахматнага гуртка інвалідаў і да т.п. Пашырэнне магчымасці асабістых кантактаў між вязнямі паспрыяла дэканспірацыі многіх цікавых людзей, у тым ліку літаратараў розных краін. Выйшла з лагернага падполля канфесійная дзейнасць розных веравызнанняў на асновах поўнай узаемнай талерантнасці і спагады. У праваслаўных распаўсюдзіліся пажаданні споведзі, захоўваючы яе інтымны характар. Каталіцкія ксяндзы і іншыя рэлігійныя групоўкі пайшлі ў напрамку калектыўных рэлігійных практыкаванняў.

Пад восень 1953 г. Алесь Банькоўскі забяспечыў мне месца ў шпіталі і дамовіўся са сваім сябрам хірургам, украінцам Зазуляй, на ампутацыю маіх міндалепадобных залозаў, запальны стан якіх ускладняў хваробу сэрца. Пацешыў, прытым, што здольнасць і хірургічны вопыт Зазулі аблегчыць па меры магчымасці наступства адсутнасці абязбольваючага сродку. Пацеха была невялікая, але аперацыя прынесла несумненныя карысці. Выдаленне залозаў прыпыніла інфекцыю сэрца, а час гаспіталізацыі пад кірункам Алеся быў старанна выкарыстаны на падрыхтоўку да працы ў шпіталі. Перашкодай накіравання на работу ў характары медбрата быў надалей тэрмін пакарання, але Алесю ўдалося нейк пераканаць свайго начальніка (старога фельчара - афіцэра МГБ), і той вырашыў даць мне працу, на яго адказнасць. У часе гутаркі з начальнікам па Алеся прыбег "варанок" з загадам з’явіцца ў камендатуру, а цераз 2 гадзіны майго прыяцеля ўжо вывелі з лагера: куды - ніхто не ведаў. Пасля пяці гадоў удалося мне адведаць Алеся ў Наваградку. Непакоены безупынна органамі НКУС, адчуваў сябе прыгнечаным псіхічна і не хаваў сваёй боязі кантактавацца з сябрамі ажно да сваёй заўчаснай смерці.

**Праца ў шпіталі і лабараторыі**

Мая праца ў шпіталі пачалася з палаты для хранічна хворых, пераважна гіпертонікаў, часткова паралізаваных эпілептыкаў, кардыялагічных і нервовых захворванняў і іншых, не выключаючы і дзесятка сімулянтаў - крымінальных рэцыдывістаў, разам каля сотні мужчын.

Жыў я з імі ў адной палаце, дык і праца мая была безупынная, кругласутачная - на кожны заклік хворых. Памочнікам маім быў санітар Міша - малдаванін, працавіты хлопец. На дзень прыходзіў у палату лекар, зняволены ўжо семнаццаты год - па прафесіі ветэрынар. Чалавек зусім абязволены, нерашучы. Даступнымі лекамі амаль выключна былі: валідол, папаверын, майскі ландыш, камфорны алей (у ампулах), рэдка глюкоза і парашкі кафеіну, якога безупынна дамагаліся тыя сімулянты-рэцыдывісты, якія ў выпадку адмовы не жартавалі. Гэта быў іх наркотык, а безупыннае запатрабаванне на яго змусіла нас падвоіць колькасць атрыманых парашкоў, мяшаючы іх з мелам - пры помачы лабарантаў, у зацішшы іх шпітальнай лабараторыі. У бязвыхаднай сітуацыі нашы грозныя "пацыенты" атрымоўвалі парашок чыстага мелу, ад якога таксама весялелі, перакананыя ў дабратворнасці спажытага "порошка". Для мяне з малдаванінам абазначала гэта гульню з агнём у выпадку дэканспірацыі нашага абману злачынцамі.

Безупыннае прабыванне сярод безнадзейна хворых людзей, бездапаможнасць ва ўмовах недахопу нават асноўных лекаў, недастатковая медыцынская

апека, бясконцасць гутарак з хворымі дзеля падтрымання іх надзеі на палепшанне - усё гэта перавышала мае псіхічныя магчымасці маладога тады, хай сабе і адданага справе, хлопца. Абставіны змусілі мяне завязаць сувязі з лекарамі шпіталя - вопытнымі ў лагерных умовах медыкамі ды з кіраўніцтвам клінічнай лабараторыі. Адны і другія аказаліся вельмі спагадлівымі і сумленнымі ў супрацоўніцтве. Добрыя рады і сведчаная імі помач не выручала аднак недахопу сродкаў. Найбольш неўралгічную сітуацыю прычынілі гіпертонікі - пераважна старыя людзі, якія складалі асноўную колькасць падапечных. Ціск крыві ў тых хворых нечакана час ад часу падвышаўся пад уплывам розных перажыванняў, і што раз справа канчалася, у большай ці меншай ступені, паралічам. Нат найхутчэйшая лекарская дапамога ў такіх выпадках аказвалася безнадзейнай, калі асноўнаю магчымаю працэдураю магло быць толькі спусканне крыві ў выпадку гіпертанічнага крызісу.

Даволі цесныя сувязі з лекарамі шпіталя, а асабліва з кіраўніцтвам лабараторыі, прычыніліся да завязвання і сяброўскіх кантактаў. На мой крытычны псіхічны стан звярнуў увагу кіраўнік лабараторыі прафесар Васадзе з Тбілісі і яго намеснік, здольны практык, інжынер хіміі Валодзя Хаменка, які практычна кіраваў лабараторыяй. Ён і папярэдзіў мяне, што прадаўжэнне працы і знаходжанне ў той сітуацыі, у якой я жыў тады, давядзе да псіхічнага надлому. Зацікавіў мяне працай лабараторыі і прафесіянальнай літаратурай на гэтую тэму. Хаменка пераканаў дырэктара шпіталя, палкоўніка Харашавіна, перанесці мяне да стацыянара ў лабараторыю. Ад той хвіліны пачаўся наступны этап у маім лагерным існаванні. Сістэматычнае і безупыннае паглыбленне тэарэтычных ведаў, канфрантацыя іх з практыкай пад наглядам і кіраўніцтвам як жа ветлівага праф. Васадзе і сяброўскага Валодзі Хаменкі спрыялі хуткаму пазнаванню тайнаў клінічнай лабараторыі і паступоваму выконванню што раз больш складаных аналізаў пад іх вокам. Цераз год вельмі інтэнсіўнай працы ўдалося здабыць мне нядрэнную кваліфікацыю самастойнага лабаранта. Узровень працы лабараторыі, дзякуючы спомненым кіраўнікам, быў высокі, хоць адсутнасць некаторых рэактываў і кампанентаў ускладняў яе. Так, напрыклад, рэакцыя Васэрмана на прысутнасць белай спірахеты ў крыві сіфілітыка, што было між іншым маім заданнем, вымагала да даследчага працэсу апрача хімічных рэактываў, якія рыхтаваліся супольна з Хаменкам, яшчэ сывараткі конскай крыві, эрытрацытаў барана і крыві з сэрца марскіх свінак. З-за адсутнасці кансервантаў ці гатовых прэпаратаў выкананню гэтага задання служылі жывыя істоты: конь, мерынос і цэлая калонія марскіх свінак, з якіх ні адна не згінула пасля дакладнай інгэрэнцыі ў нутро сэрца іголкай шпрыца. Варта адцяніць факт, што ў некалькіх выпадках спраўджаная кроў маладзенькіх дзяўчынак, прысланая для збадання з жаночай зоны лагера, выказала пазітыўную рэакцыю на прысутнасць белай спірахеты. Дзяўчаткі не мелі яшчэ ў жыцці сексуальных кантактаў, але прысутнасць у лагерным асяроддзі сіфілітак паспрыяла ў нейкіх абставінах заражэнню цераз іх кроў ці сліну.

**Сустрэчы з цікавымі людзьмі**

Паслабленне лагернага рэжыму паспрыяла, між іншым, наладжанню сувязей з вельмі цікавымі людзьмі. Нельга аднак абысці маўчаннем спаткання з самымі блізкімі, апрача Алеся і Віктара, хлопцамі. Пра Лёніка Каляду з Наваградка, юнака СБМ, а пасля падначаленага Барыса Рагулі, спамінаў мне ўжо капітан Кутузаў у час следства як аб неўстойлівым псіхічна падследным.

У шпітальнай зоне лагера была абведзеная мурам зона псіхічна хворых, з якой даходзілі часта крыкі, спевы ці сажнёвыя прамовы між іншым на беларускай мове. Выканаўцам апошніх быў, як аказалася, Лёнік. Раз прамаўляў з патрыятычным пафасам, іншым разам пагражаў лагернай ахове за яго зняволенне. Адведвалі яго мы з Віктарам. Час ад часу пазнаваў нас, успамінаў Наваградак і сяброў і раптам у паўслове перапыняў гутарку, каб перанесціся свядомасцю ў свой прывідны, незразумелы нам, свет. Лёнік перажыў лагер, вярнуўся ў Наваградак, падлячыўся і залажыў сям'ю. Сёння ўжо няма яго сярод жывых.

Іншым вельмі цікавым хлопцам быў Юзік Пабяржын з Глыбоччыны. Былы вайсковец - змагар за незалежнасць, паэт, прынцыповы ў сваіх перакананнях і незалежнасці думак, неразрыўны спадарожнік сваёй паэтычнай музы. Думкі яго, гнаныя пачуццямі, плылі так хутка, што найспраўнейшая рука не паспявала замацоўваць іх на паперы. Паслугоўваўся ў паэзіі ўсё яшчэ непадзельным у тым часе стылем нашаніўскай пары з дамінацыяй твораў тыпу паэмы. Хай мне дазволена будзе прыклікаць некалькі радкоў адной з яго паэм на тэму спаткання з музай, напісаную ў лагернай атмасферы, п.з. "Маё спатканне":

Вакол няволя, ў небе сінь туманаў
Уткала ясных зорак вугалькі.
Калючым дротам доля закратана:
Агні, сабакі, вышкі ды стралкі.

Сігнал адбою з рэйкі заржавелай
Загнаў сяброў на нары у барак
І я адзін з душою набалелай
Сачу, як тухне бледная зара.

За сплётам дроту, у стэповай далі
Шакалы вылі жудасным выццём,
А мне здалося, там лямантавалі
Над маім юным стоптаным жыццём.

Мне стала жаль, што вяну не даспеўшы,
Што марна гіну ў здзеку і нудзе,
Што ўжо не ўбачу годаў ласкавейшых
І тут бясследны след мой прападзе...

Працягла высокі ціск крыві ў Юзіка зруйнаваў цалкам яго здароўе. Атэрасклероз асабліва заатакаваў сасуды ног і пагражаў ампутацыяй ці гангрэнай, што для яго не было таямніцай. У такіх вось абставінах ён шукаў думкамі кантактаў са сваёю музай і вобраз яе маляваў у сваіх пачуццях, быццам зматэрыялізаваных

гуках слоў яе:

Я промень сонца, я гадоў цвіценне,
Я хмель кахання, я нашэпт лясоў,
Экстаз, нірвана, солад, захапленне,
Я aqua vitae, я раскошы сон...

Аднак жа не братаўся з тою абажанай ім з'яваю, разумеючы сваю недасканаласць, звяртаўся да яе з пашанаю ў другой асобе множнага ліку:

Я вас чакаў сустрэць як збавіцельку,
Сваю душу схаваць пад Боскі плашч,
А ў вас няма спагады чалавеку,
Чужы, чужы вам болю майго плач...

У сваіх роздумах, аднак, паэт даходзіць да вываду, што аднымі толькі пачуццямі сэрца нельга асягнуць вялікага ды дарма:

Хацеў зглыбіць я моры й акіяны,
Экзотыку няведаных краін,
Згадаць народаў і манархаў планы,
Спусціцца ў пекла, ўзняцца у раі...

Быццам дакор сабе ўкладае ў вусны музы:

Няшчаснік марны, сэрца свайго чашай
Змераеш неба праўды й пекла злосць?
Бязмежны свет не зменіць скрыпка ваша.
Душой змярай плод духу; сэрца - плоць.
Што ж, сэрца ваша, як марская губка
Усмокча толькі то, што ўкруг яго...

Муза яму бачыцца патрабавальнай, амбітнай:

Пегаса хочаш? Эх ты, недаверак!
Яго заездзілі другія ўжо ушчэнт.
Я муза муз, ўладарка уладарак.
Цябе вазьму я ў свой кабрыялет.

Цябе я з духамі Шылера й Гётэ
Таўстога й Лермантава падружу.
Спяваці будзеш мыслямі сусветаў,
У матэрыялізм дыхнем ізноў душу...

У гэтым незвычайным дыялогу, звершаваным у 65 страфах, напоўненых наперамен то эмоцыямі, то глыбокімі думкамі, паэт поўнасцю аддаецца чаканай гадамі музе і для асягнення пажаданага эпагею ў сваёй паэзіі гатоў вытрымаць кожную спробу, з вераю ў асягненне сапраўднага паэтычнага экстазу, які быццам і паявіўся ў яго пачуццях:

Пачуў акорды незямных сімфоній,
Мелодыю не йграную нідзе
І ажылі душы маёй затонкі
І ўваскрэсення прывітаў я дзень.

Строфы вершаў Язэпа Пабяржына, якія ўдалося мне вынесці з лагера "на волю", зразумела, не адлюстроўваюць поўнасцю характару яго паэзіі. Пісаў ён шмат і хутка, бічаваў савецкую імперыю і нявольніцкі, антычалавечы лад яе, апяваў красу роднае мовы і краіны ды драму суайчыннікаў...

Завязаліся ў лагеры кантакты з літаратурнымі крытыкамі і паэтамі, сярод якіх мне запамяталіся цесныя сувязі з украінскім паэтам Еўтушэнкам (імя, на жаль, не памятаю) і вядомым яўрэйскім дзіцячым пісьменнікам Кіпнісам (пасля звальнення ён пісаў да мяне з Кіева).

Вершы Пабяржына і Еўтушэнкі мы канспіравалі ў лабараторыі сярод прафесіянальнай дакументацыі. У 1956 годзе камендатура лагера "вынюхала" нешта падазронае, і на Вялікдзень (дзень быў вольны ад працы) афіцэр з групаю жаўнераў акружылі лабараторыю (у лагер жаўнеры ўваходзілі без зброі) ды пачалі "шманаць" (абшукваць). Даведаўшыся пра гэта, Еўтушэнка маментальна склікаў нешта каля трохсот "зэкаў", якія акружылі жаўнераў. Сам ён прабіўся ў лабараторыю і, пабачыўшы нас збянтэжаных, выклікаў афіцэра ды запрапанаваў яму зірнуць на панадворак. Той, глянуўшы на натоўп вязняў і выразна перапуджаных сваіх падначаленых, пад нейкай выдуманай прычынай адклікаў акцыю і падаўся з ваякамі да выхадной брамы ў суправаджэнні шматлікай грамады лагернікаў.

У 1955 годзе з лагера пачалі звальняць хранічна хворых людзей. Выйшаў на волю між іншым наш неацэнены прафесар Васадзе. Месца яго ў лабараторыі заняў Валодзя Хаменка. Да мяне што раз прыходзілі былыя мае падапечныя з палаты нявылечна хворых - развітацца. На пачатку 1956 г. у лагер прыехала камісія, адна з тых, пакліканых Вярхоўным Саветам СССР для перагляду спраў зняволеных, перад усім палітычнага характару. Сярод людзей вытварылася атмасфера надзеі і чакання У большасці выпадкаў выкліканых камісіяй звальнялі. Вызвалі і Язэпа Пабяржына, але ён вярнуўся злосны. Уцягнуты членамі камісіі ў палеміку і разгневаны іх увагамі, заявіў (паводле яго слоў), што ён не бачыць ніякай сваёй віны і, калі надарыцца магчымасць, аддасць усе сілы барацьбе за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны. Прызналі яго "неисправимым" і вярнулі ў лагер.

На пачатку 1956 г. вызвалілі і Хаменку. Па яго прапанове начальнік шпіталя назначыў мяне кіраўніком лабараторыі. На маё шчасце, ненадоўга.

**Вызваленне**

У жніўні 1956 года камісія паклікала і мяне. Перагляд маіх судовых дакументаў і гутарка не працягнуліся больш за 15 хвілін. Галоўнай тэмай не былі мае "праступленні", але справа майго грамадзянства. Заўвагі членаў камісіі ў гутарцы са мною сведчылі, што яны запазналіся з маёй справай і маюць на яе свой погляд. На пытанне: "Кто вы по национальности и какое ваше подданство?", я адказаў: "Беларус, грамадзянін Польскай Народнай Рэспублікі". "Но вас же судили как гражданина БССР?" Я пацвердзіў, але дадаў, што на гэта я не меў ніякага ўплыву.

На самай справе я беспаспяхова спрачаўся на

гэтую тэму ў следстве, але не ведаў, што тым часам да маіх дакументаў была даслана, праўдападобна сястрою, даведка аб грамадзянстве і пасведчанне з варшаўскай гімназіі, у якой я вучыўся да вайны. Пасля кароткай кансультацыі камісіі, яе старшыня аб'явіў рашэнне: "Освободить со снятием судимости и поражения прав". Дадаў прытым, што магу атрымаць накіраванне і білет у любое месца СССР, але дазволу на выезд у Польшчу трэба дамагацца ў Міністэрстве ўнутраных спраў рэспублікі. Такім чынам здзейснілася тое, што яшчэ ў зусім недалёкім прошлым было неверагодным і аб чым можна было толькі марыць, як аб цудзе, які ўшчаслівіў бы чалавека.

Рэчаіснасць аказалася аднак іншай. Прыдушанае пачуццё эйфарыі, выкліканае на момант свядомасцю асабістай вольнасці, нечакана ўступіла рэфлексіі, якая насоўвала натоўп пытанняў без адказу. Колькім сотням тысяч такіх, як я, удалося мінуцца з жаданай для іх пракурорамі шыбеніцай, перанесці цярпенні і здзекі следства, голаду і паднявольнай працы, патраціць гады маладосці, каб пачуць у канцы, што ўсё гэта адбылося без іх віны, ды наогул вінаватых у гэтых недарэчнасцях быццам бы і не аказалася? А колькіх не мінула незаслужаная смерць з рук катаў?

На гэтыя і падобныя пытанні, на жаль, і да сёння няма талковага адказу, а тады тым больш не было часу на разважанні. Паявілася новая рэчаіснасць і трэба было хутка дастасавацца да яе. Вядома было, што сярод заходніх рэспублік у БССР была найбольш збальшавізаваная бюракратыя, дык я пастанавіў "зачапіцца" ў Вільні, але білет запатрабаваў у Гродна, каб адведаць сям'ю ў Лідзе. Справа ў тым, што чалавек без пашпарта не лічыцца, пашпарта нельга дастаць без прапіскі, а Вільня - горад "закрытый", дзе нікога не прапісваюць. Прыйшлося тады пабадзяцца па акалічных мясцовасцях і ў канцы знайшлася жанчына, якая згадзілася прапісаць мяне за 100 рублёў у месяц без згоды на фактычнае закватараванне. Літоўцы ахвотна пазбываліся кожнага, хто стараўся выехаць у Польшчу, дык працэс здабывання неабходных дакументаў праходзіў даволі спраўна. У тым часе брат асмеліўся паведаміць мне, што жонка мая загінула трагічна хутка пасля майго арышту, а сын, прытулены пачаткова чужымі людзьмі, быў пасля нейкага часу знойдзены і забраны сястрой Людкай, якая ў тым часе жыла ўжо ў Варшаве.

Я ўладзіўся на работу ў шпітальнай лабараторыі ў Лідзе, а напрыканцы 1956 года атрымаў гатовыя дакументы на выезд з Літвы ў Польшчу.

**Спатканні з роднымі**

Першага студзеня 1957 года ўхіліліся перада мною дзверы памяшкання Людкі ў Варшаве, на колькі дазваляў ланцуг, што забяспечваў перад магчымай агрэсіяй непажаданага прышэльца. У прасвеце дзвярэй паказаўся кучаравы сінявокі прыгожы хлопчык. Я здагадаўся, што гэта мой асірацелы сынок, а за ім яшчэ двое малышоў з выпучанымі на мяне вачыма. Калі пачулі ад мяне, кім я маю быць, у вачах цэлай тройкі з’явіўся адценак сумнення. Відаць, пабачаная "бушлатная" постаць за дзвярыма ніяк не прылягала ў іх уяўленні да бацькі Леслава з аповедаў Людкі. Пасля кароткіх "перагавораў" Леслаў усё ж такі адважыўся ўпусціць мяне ў памяшканне. Нікога старэйшага дома не было. Я з цяжкасцю ўстрымоўваў эмоцыі, выкліканыя тым незвычайным спатканнем з сыночкам, з якім не расставаўся ў думках праз усе сем гадоў адсутнасці. Прывітанне, аднак, у тых абставінах было стрыманае. Волю хваляванням усім прысутным дома дала Людка, вярнуўшыся з мужам з нейкіх нававодніх гасцей. Леслаў стараўся аказваць штораз больш прывязанне да мяне. Кожныя два-тры дні адведваў мяне ў шпіталі, дзе я пасля прыезду мусіў цэлы месяц лячыцца. Прызнаўся ён у гутарках са мною да непакоячай яго думкі, што я зноў магу дзе-небудзь прапасці. Я разумеў, што ён уважаў перад усім сваім гонарам пахваліцца (як і ўсе хлопцы) перад сябрамі, што ён, як і іншыя, мае праўдзівага бацьку, ды яшчэ невядома чым тлумачыў сваім сябрам маю адсутнасць. На самай жа справе відавочная была яго заклапочанасць дома, як цяпер звяртацца да мужа Людкі, да якога адносіўся дасюль як да бацькі і так яго называў, а Людка стала яго мамаю і так асталася да смерці. Каб яго не бянтэжыць гэтай праблемай, па маёй прапанове мы пастанавілі не мяняць яго адносін да сваіх цяперашніх "бацькоў". І так хлопец "разжыўся" двума бацькамі. Цераз год Леслаў перайшоў пад маю апеку, з хвілінай атрымання памяшкання. Адносіны між намі складаліся вельмі добра і засталіся прыяцельскімі да сёння, але, на жаль, не здолелі ўжо асягнуць пачуцця роднасці, тым больш, што я мусіў узяцца за працу, кончыць універсітэцкую асвету і так ужо засталося між намі. Незалежна ад спамянутых клопатаў, як жа цяжка прыйшлося пераадолець комплексы зняволення. Я сёння не паверу ні аднаму, хто прайшоў цераз сіта 4-5-7 - гадовага зняволення ў савецкай сістэме (іншай я не дасведчыў), што ён вярнуўся без комплексаў. Гэта была б хлусня або несвядомасць фактычнага стану. Сумняваюся таксама, ці ў якога-колечы былога "зэка" не засталіся ў падсвядомасці тыя кашмары, якія непакояць яго ў снах усё жыццё. Гэта, на жаль, толькі частка наступстваў перажытага маім пакаленнем моладзі. Мушу, аднак, з цэлай упэўненасцю заявіць, што ніколі не непакоіла мяне пачуццё раскаяння ці жалю з прычыны перажытага. Наадварот, калі паяўляецца сумненне, то перад усім у тым сэнсе, ці дастаткова сумленна выконваліся прынятыя на сябе грамадскія, хай сабе не так ужо і вялікія, абавязкі. Ці сума дзеянняў і лёсаў маладых людзей майго пакалення ўздзейнічала ці ўздзейнічае на лёс народа і Бацькаўшчыны? Ці наогул гісторыя наша, так шчодра фальшаваная іншымі, захоча заняцца тою праблемай? Нельга было б не адцяніць на заканчэнне той факт, што палітычная кастрычніцкая "адліга" 1956 года ў Польшчы прычынілася да вельмі зычлівага прыняцця звольненых гулагаўскіх вязняў, незалежна ад іх паходжання.

Так пачалася мая небезухібная сучаснасць, якой, аднак, не прадбачана месца ў гэтых успамінах.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**На “кукурузніку”**

Вось нататкі, якія я рабіў у самалёціку: *“15 ліпеня, гадз. 6,25, вылецелі на У-2. Моцны вецер лупіць у твар. На хвілю зняў пілотку, і адразу мне патузаў валасы.*

*Дрэвы блізкія. Дзіўнае пачуццё - нешта сярэдняе паміж паездкай на самалёце і на аўтамабілі. Пейзаж успрымаеш не як геаметрычны план, не як карту, а якраз як у аўтамабілі: з колерамі, з высокай трохмернасцю, часам нават з пералётным пахам пажарышча або сушанага сена. Калі з’язджаем з-над лесу над луг, самалёт забаўна слізгае ўніз і нагадвае тады невялікі лыжны спуск.*

*Пры адлёце даручылі мне глядзець, ці дзе з тылу не выскачыць “мэрс”. Што хвілю аглядаюся. Адзінае ўзбраенне самалёта - гэта, мабыць, мой рэвальвер...*

*Лясы. Пажар - дым уецца, у лясных палянках ляжыць нерухома, як стаячая вада... Ляцім над чыгункай. Пяскі. Абарончая лінія каля станцыі. Акопы ў кусціках - пэўна ад партызанаў, бо атачаюць станцыю вялікім паўколам.*

*Гарынь невярагодна звілістая.*

*Цень бяжыць за намі, вось павольна выпаўзае злева. На лузе некалькі коней. Пасуцца спакойна, прызвычаеныя да самалётнага пакрыквання. Раптам адзін скача перапужаны ўбок: спужаў яго наш разагнаны цень.*

*Лес сасновы, рэдкі, з густым падшыццем. Станцыя - кучка ўстрывожаных вагонаў. Вырвы ад бомбаў, яшчэ цёплыя, проста з печы.*

*У балотах - выдма, аточаная неразрыўным пасам акопаў - “гняздо супраціву”, таксама супраць партызан.*

*Падымаемся. Вялікае балота. Высокі купы цёрну і аеру. І голая, тыпова палеская выдма. Луг пусты, шырокі. І тут вырвы - чорныя, напоўненыя тлустай вадой.*

*Рэдкі дубовы лес. Нейкія вігвамы. Зямлянкі падобныя на стагі сена. Шырокая рака - Прыпяць! Забаўна: толькі над вадой пачуўся не ў сабе, бо плаваю слабенька! Вёска, частка дамоў спалена. Зноў выкрунтасы ракі. Мокрыя лісты вадзяной лілеі бліщчаць масіўна, як з зялёнага шкла. Велізарныя, не скошаныя лугі - і збоку імшары без травы, толькі сплеснелы мох.*

*Нейкае вельмі зялёнае мястэчка. Дарога абсаджана дрэвамі - без моста. Даспелае жыта ляжыць покатам. Нізкія тарфянікі - алешыны. Вада. На беразе зрываецца цэлая чарада чапляў. Каляя Лунінец - Мазыр. Спаленая станцыя пад велізарнай вярбой. Вырва - акурат у каляі. Тэлеграфныя слупы падпілаваныя.*

*Жыткавічы. Рэйкі пакручаныя выбухамі. Чад пажарышча.*

*Паварочваем на поўнач, на Менск. Прамы, як прарэзаны, канал у алеі дрэў.*

*Возера Князь, ці Жыд, ці Чырвонае. Не відаць берагоў. Доўгая паласа пены. Хвалі. З’явілася так раптам, што падумалася, ці гэта неба не абарвалася?*

*Хочацца курыць. Цень нас дагнаў, ідзе плячо ў плячо. Руіны вёскі. Толькі бяскрайні сасновы лес. Тая самая тайга, што аж у Сібіры...*

*Ужо па Палессі. Чыгуначная лінія, спаленыя дамы, нямецкія акопы. Шаша, побач іншая, нямецкая. Пры ёй доўгія пацеркі малых, глыбокіх акопаў, павернутых на ўсход.*

*Кукурузнік робіць раптам падскокі ўверх перад усё вышэйшымі дрэвамі. Трохі гушкае. Пад Менскам нарэшце большыя комплексы ворных палёў, не так, як дагэтуль, дзе былі толькі шматкі ў масівах лясоў і лугоў. Вёскі спаленыя. Людзі ў нейкіх ямах.*

*Змучыўся - тры гадзіны не змяняў позы!”*

**Першае вяртанне**

Вялікае і пустое поле, адцвіўшыя кветкі і пустазелле. Кукурузнік спыняецца. Сардэчна развітваюся з пілотам, які таксама пацягваецца, выпроствае косці і нязграбна рушыць шукаць недзе камендатуру аэрадрома.

Ногі маю здранцвелыя, як бы сапраўды тыя пару гадзін ехаў рыссю на кані. Паволі рушу к гораду, які віднеецца з далёку некалькімі абломкамі камяніц, некалькімі комінамі.

Я тут нарадзіўся. Дасканала памятаю дом бабкі на Рабкораўскай. Бабка памерла, але я яшчэ на пачатку1941 года пісаў да жыўшай там цёткі. Таму Менск для мяне - не толькі этап падарожжа. Ён таксама - нейкая частка вяртання.

Павольна даходжу да першых руін. Не вельмі патрапляю ў тым зарыентавацца. Тады здалеў спазнаць толькі сваю вулічку, усю ў садзіках і драўляных дамках. І яшчэ нейкую бакавую і выхад на на галоўную вуліцу з чыгуначным мостам. Тут ніколі не быў.

Зрэшты, хоць бы быў, таксама нічога не пазнаў бы. Тое, што тут бачыў, гэта нейкая велізарнае спля-

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

ценне руін. Людзей амаль няма. Іду наперад, стараюся трапіць у цэнтр. Метад просты: шукаю вышэйшых руін.

Што за страшны горад гэты Менск у палове ліпеня 1944 года! Ведаю, што тры гады таму быў страшна збамбаваны. Але ні тады, ані цяпер да вялікай бітвы тут не дайшло. Толькі гітлераўская "планавая акцыя".

Нарэшце я ў цэнтры. Тут пару дамоў ацалела. Знайходжу галоўную вуліцу, як старога знаёмага вітаю чыгуначны мост. З неспакоем выглядаю вулічкі, якія паварочваюць налева. Калі з вялікіх, мураваных блокаў гітлераўцы парабілі кучы бітай цэглы, то што значыла для іх тыя струхлелыя, драўляныя дамкі?

Ёсць вулічка. Іду лётам пад гару, але засопся, як быццам узлез на шосты паверх. Дзіўная мешаніна пачуццяў - не ведаю, што мацней прыспешвае мне дыханне - радасць, што ўбачу рэчы і людзей з такой даўніны, ці страх, што з іх застану.

Першае здзіўленне - вулачка цэлая. Парканы з дошак, струхлелыя, зялёныя ад імху. Пладовыя дрэвы. Драўляны тратуар пад парканамі. Памятаю - другі дом направа. Не адразу яго пазнаю. Быў прысадзісты, але зараз да паловы схаваўся ў зямлю. Вокны на вышыні пояса. Адчыняю брамку. Усё жудасна малое. Вялікі "новы" дом з успамінаў аказваецца хаткай. Стары - то па-просту развалюха. "Абшырны" некалі дзядзінец налічвае можа дзесяць крокаў. Садзік толькі не страціў прыгажосці, хоць таксама паменшаў бязлітасна.

Вось жыллё бабкі. Апошні раз тут быў васямнаццаць гадоў таму назад. Уваходжу, стаю згорблены - такі нізкі пакоік. Была тут сталовая. Прысягнуў бы, што памятаю пах жылля, сумны і ўтульны. Пуста. Ані людзей, ані старых рэчаў, ані тога паху.

- Ці ёсць хто? - пытаюся ахрыплым голасам.

Таксама адказвае цішыня. Трывае досыць доўга, каб зразумеў, што тая, якой шукаю...

- А вам каго?

Выходзіць маладая, дробная, вельмі збедаваная жанчына, глядзіць на дзіўнага госця ў экзатычным мундзіры.

Пытаюся пра цётку, гарбушку, санітарку. Памерла ў красавіку гэтага года. Не дачакалася, пару месяцаў ёй не хапіла. Не была старая, была збалелая. Не ўмела ў звярыным гітлераўскім свеце выгандляваць трохі харчу, выцыганіць, выдраць у іншых.

Жанчына глядзіць на мяне. Пытаюся, ці не ведае, што сталася з маім дзядзькам, доктарам, тым з Петрыкава на Палессі.

Вось другая версія смерці дзядзькі Міхала пасля той, пра якую мне даў зразумець хлопец з Петрыкава ў І дывізіі.

- А вы?... - пытаецца жанчына.

Гавару, што сваяк, што ў польскай арміі. Тады ўсмешка здагадлівасці раз'ясняе яе твар.

- Ах, гэта пра вас гаварыла? Не пазнала адразу, бо на фатаграфіі...

Выбегла ў дальшы пакой, праз хвілю вяртаецца з фатаграфіяй, салідна наклеенай на тоўсты картон з пазалочанымі краямі. На фатаграфіі маладая жанчына ў вялікім капелюшы са страўсавым пяром і паругадовым хлопчыкам у марской кашульцы. Забраў той здымак. З тым зматэрыялізаваным успамінам у вайсковым мяшку выйшаў з краіны дзяцінства. Падвойнае прадчуванне, якое мяне наведала ў дарозе, з большага спраўдзілася. Толькі тая радасць была ў ім непатрэбная.

Больш таго дома не бачыў. Колькі разоў праязджаючы праз Менск, выглядваў праз вокны вагона, бачыў чыгуначны мост, нічога болей. На завяршэнне, у баку, дзе павінна бы знайходзіцца вулічка Рабкораўская, бачу рыштаванні, будаваўшагася шматпавярховага гіганта. Таму і тых дамкоў, мабыць, няма чаго шукаць.

Іду, шукаю дарогі на Вільню. Гэтая паўночназаходняя частка горада меней знішчана, хоць тут недалёка вакзал, чыгуначны вузел. Але немцам у знішчэннях не ішлося пра знішчэнне вайсковых аб'ектаў, ішлося пра знішчэнне.

Тыя дамкі. Гэта такая брыдота, якая пад старасць становіцца прыгажосцю. Як брыдка тут павінна было быць, калі тыя, збудаваныя з круглякоў дамкі былі маладыя! А цяпер трохі імху, трохі старасці, больш выбуялы бэз, таполя, пару вішань - і вось уражанне мінулай эпохі, якая ўжо стала антыкварыятам.

Адчуваеш незваротнасць тых часоў. Зноў жывеш сваёй маладосцю. Гэта значыць, табе сумна.

Кантрольны пункт і канец успамінаў. Тут трэба энергіі, хуткай увагі, звышбаявітасці, каб трапіць на аўтамабіль. Калі мне гэта ўдаецца, пакідае мяне цалкам той няўдачны паварот у краіну дзяцінства.

Новы паварот у горад маладосці, які чакае мяне, захапляе цалкам. І нецярплівасць, і радасць у тым чаканні засталіся, нягледзячы на менскі досвед. Бо тут была толькі адна, адзіная сямейная нітка. А там ведаў увесь горад. Там вяртанне мусіць быць іншым.

**Дарога ў Вільню**

Памятаю яе толькі з чарнавіка незакончанага рэпартажу. Пыл. Учэплены за заднюю сцяну грузавіка маладзенькі малодшы лейтэнант за гадзіну з загарэлага і чарнавалосага стаў сівым, мае нездаровую, зямлістую скуру, папялістыя вейкі, патоўшчаныя, як у якой-небудзь мадысткі, павекі.

Тут край больш паўночны, чым пад Масквой. Узгоркі, пакрытыя лесам. Рэдкія дамкі відаць толькі мімалётна. Лясы, адсунутыя немцамі ад шашы на адлегласць стрэлу з аўтамата, замыкаюць гарызонт пахмурай зелянінай амаль асенніх елак. Дарога дрэнная. Выбоіны. У равах патрушчаныя ваенныя жалязякі. Шкілеты легкавых аўтамабіляў, выцягнутыя як чарапы нейкіх гігантскіх ваўкалакаў. Знерухомелыя танкі, яшчэ здавалася б чырвоныя ад агню, які іх пажраў, а папраўдзе ўжо ржавеючыя. Нехта з аўтамабіля крычыць, што трупы. У адной і другой вёсцы грамадкі жанчын і дзяцей каля прыдарожных магіл.

Палонныя. Першы раз бачу такія натоўпы. Ідуць, узбіваючы пыл, як чарада авечак. Мундзіры расшпіленыя, рудыя зарослыя, падцятыя падбародкі, гарбатыя насы, ружовыя вочы. Глядзяць пад ногі. Спераду вядзе іх нейкі хлопец... з палкай. Ззаду адзін канвойны з аўтаматам.

Адрау шафёр запавольвае машыну, выхіляемся, глядзім. Аднак іх столькі, што аўтамабіль набірае раз-

гон, наш хвост пылу хуткі, амаль гарызантальны сутыкаецца з воблакам пылу, які вісіць спакойна над імі і праз хвілю ўжо далёка.

Радашковічы цэлыя. Найбліжэйшае мястэчка Краснае - толькі куча камянёў і попел.

Маладзечна знішчана амаль цалкам. Нейкая кабета стаіць каля вялікай вясковай печы і ў трагічнай рэальнасці адпраўляе містэрыю хатняга агню: гатуе страву, атачаная некалькімі дзецьмі. Праз некалькі гадоў я ўпакую гэты вобраз у "Верасень".

Далей слядоў баёў менш. Вёскі цэлыя, цэлыя каляі і нават чыгуначныя масты. Падаюць гудкі лакаматывы, доўгія ружанцы брудна-цагляных платформ сунуцца на захад. У небе дурэюць козлікамі "Які" з гучным выццём.

Смаргоні аднак зноў спаленыя. Тыя самыя Смаргоні, якія не адбудавалі яшчэ руін з 1916 года. На скрыжаванні дарог за імі бачым у першы раз учора яшчэ фанабэрысты і загадны, сёння ўжо толькі просты дарожны ўказальнік: "На Вільню і Кёнігсберг".

Ашмяна ацалела. Малыя домікі. З вокнаў праз буйныя пеляргоніі (герань) выглядваюць твары жанчын.

Недзе на тым шляху здарыўся мне цуд. Цэлы час, седзячы на версе грузавіка, выглядваў наш "Віліс", шукаючы бела-чырвоны сцяжок сярод соцень аўтамабіляў.

Як я заўважыў, не разумею. Мігнуў мне "Віліс" перад намі. Пачаў лямантаваць, махаць рукамі. Яшчэ больш дзіўнае, што пачулі ў тым пякельным шашэйным балагане.

Мікулка мусіў пасунуцца, каб зрабіць мне месца. Таксама быў вельмі знерваваны: пакінуў у Вільні жонку. Толькі наш шэф, досыць нечакана злучаючы ў сваім прозвішчы героя "Агнём і мячом" з героем "Патопу", захоўваў нічым не засмучаны пагодны настрой.

Апошнія кіламетры доўжыліся найбольш. Калоны аўтамабіляў пхаліся амаль нябачныя ад пылу. Мы прагна выглядваем на гарызонце знаёмы гарадскі сілуэт. Але толькі лагодна хвалістыя ўзгоркі з ужо жоўкнучым жытам, толькі далёкія сасновыя лясы.

Вільня з'явілася раптам, як бы хто тузануў тэатральную дэкарацыю. Невялікі ўзгорак, паварот - унізе ўвесь горад! Знаёмыя сілуэты касцёлаў, далёкія перспектывы вуліц, Замкавая гара. Здалёк усё, як даўней...

**Другое вяртанне**

Зблізку... Пры ўездзе застылі адзін пры другім разбітыя танкі, самаходкі, транспарцёры. Далей налева і направа папялішча. Жудасна разбіты віленскі Новы Свет, абломкі Гандлёвай, асмалены на чорна праём Вострай Брамы. Шкло хрумсціць пад нагамі. Дымяцца руіны Вастрабрамскай, Завальнай, Ягелонаўскай...

У цэнтры знішчэнняў меней, рухацца можна лягчэй. Куды едзем?

Канешне, першынства мае Мікулка - пакінуў тут жонку. Заязджаем на велізарны пляц Лукішкі, спыняемся каля пары старых дрэў. Мікулка злазіць, цяжка ідзе, пакідаючы нас з лёгкай усмешкай.

Чакаем не меней знерваваныя, чым ён. Нядоўга чакаем, найбольш чвэрць папяросы. Мікулка вяртаецца, шэры з твару, махае рукой: выехала.

Ад гэтага часу пачынаецца дзіўныя матанні "Вілісам". То я, то Мікулка прыпанінаем сабе чарговыя адрасы, найперш сваякоў, потым прыяцеляў. Гаворым шафёру - прама, направа, яшчэ раз направа. Аўтамабіль спыняецца часам перад руінай, часцей перад цэлым домікам. Тады ідзём - то ён, то я. Няма нікога! Выехалі ў Варшаву - гавораць найчасцей суседзі, аглядаючы нас падазрона. Часам разводзяць рукі - не ведаюць, не чулі нават пра такіх. Часам не глядзяць у вочы, буркаюць - арыштаваны, загінуў.

Вяртаемся да машыны. Іншы адрас. Праз нейкі час спіс прыяцеляў вычарпаны. Прыпамінаем сабе не без цяжкасці калег, знаёмых. Шафёр пачынае бурчаць - задоўга валэндаемся. Толькі наш талковы Сарока працягвае пагодна ўсміхацца.

Як у цяжкім сне. Дзесяць гадоў праведзены ў тым горадзе, найбуйнейшых, найрухлівейшых гадоў, у якіх было найлягчэй на ўсмешку, знаёмства, сяброўства. І ні аднаго са сваякоў, прыяцеляў, знаёмых.

А горад зусім не вылюднеў. Традыцыйныя месцы шпацыру - "Ерак", "Бернардынская", "Вялікая" - заліты людскім натоўпам. Бесперапыннай плынню цягнуцца тут чародкі смяшлівых, ладна прыбраных дзяўчат з прычоскамі, поўнымі дзіўных, зусім нам невядомых куклаў і локанаў. За імі сунуцца тройкі і пяцёркі маладзёнаў у забаўна доўгіх і расшпіленых не там, дзе трэба, марынарках, у высокіх ботах, з валасамі, якія спадаюць амаль на плечы, а ўжо на каўнер, як найменш. Стаім у роспачы, мяшаемся з натоўпам, не верым сабе самім, каб ні аднаго, прынамсі з выгляду...

Плыве каля нас рака іншай, чым наша маладосці. Ані аднаго знаёмага твару.

Куды маем ехаць? Ужо няма ніякіх адрасоў Сарока маўчыць. Вырашае шафёр: канчаецца бензін. Зварочваем у бакавыя вулачкі. Яшчэ раз спыняемся на Міцкевіча каля Лукішак.

І тады нарэшце ляціць крык з тратуара:

- Ежы!

**Пераклічка палеглых**

Прыціскаю яго да сэрца. Гэта Поль Буйніцкі, таксама яхтсмен, брат Дорка. Малая была наша Вільня, гэтай адной ніткі хапіла, каб разблытаць цэлы клубок.

Вечарам слухаем аповесць Поля. Ужо перад тым дайшла да нас вестка, што Дамбінскага расстралялі немцы. Не ведалі дэталей, неяк не хацелася верыць. Гаварылі, што Генрыка немцы злавілі ў мястэчку Ганцавічы, дзе ён кіраваў сярэдняй школай. Як мог застацца, не ўцякаць?

Поль вестку пацвярджае, дэталей таксама не ведае. Праз пару гадоў дойдзе да мяне пару дапаўненняў. Генрык уцёк з Ганцавіч, схаваўся, аднак, недалёка адтуль, у суседнім мястэчку. Выдала яго немцам лекарка-полька, нейкая Пімпіцкая ці Пумпянская. Арыштаваны і ведзены на экзекуцыю спрабаваў уцячы. Загінуў, застрэлены ў блізкім ляску. Лекарка не шмат атрымала ад сваёй подласці. Праз нейкі час нешта пачала круціць, гуляць падвойную гульню. Немцы яе расстралялі таксама.

У цэлым я не ўпэўнены ў тых дэталях. Чуў іх некалькі разоў з розных бакоў і заўсёды ў неабавязковай версіі. Дзіўна, што смерць такога выбітнага чалавека не стала дагэтуль прадметам судовага разгляду ці прынамсі гістарычных пошукаў.

Поль распавядае больш дэтальна гісторыі іншых прыяцелеў, якія былі бліжай.

У першыя дні чэрвеня, пяць тыдняў назад, немцы правялі вялікі ўдар, нацэлены ў паслядоўнае, левае інтэлегенцкае кола. Між іншымі быў разгромлены тутэйшы Саюз польскіх патрыётаў, свядома звязаны з нашым цэнтрам у СССР.

Арыштавалі ў т.л. кіраўніка тутэйшага СПП Казіміра Намыслоўскага і яго жонку Муху Жаромскую, нашую каляжанку з групы, а маю з паланістыкі.

Лёс не шкадаваў для гэтай пары драматычных перажыванняў. Муха пасля апраўдання ў нашым працэсе ў снежні 1937 года выехала ў Кракаў. Пазнаёмілася там з Намыслоўскім, які якраз кінуў “Легіён маладых” і ствараў групу левай інтэлегенцыі, падобную да нашай па характары. У верасні 39 года быді ў Варшаве. Муха была на апошніх днях цяжарнасці. Нягледзячы на гэта, вырашылі ўцякаць пехатой у Вільню. На палове дарогі аказаліся ў нейкай вёсцы, якраз быў налёт, людзі ўцяклі.

Тады якраз Муха і пачала раджаць. Намыслоўскі сам прыняў дзіця. Праз пару дзён Муха ўстала і зрабіла пеша другія дзвесце кіламетраў да Вільні.

Падчас акупацыі засталіся ў Вільні і абое папаліся. Поль не ведаў дэталей. Напэўна ў немцаў быў балаган, не ведалі, каго злавілі, досыць, што іх выпусцілі. І замест таго, каб выехаць з Вільні, дзе іх ведалі так шырока, засталіся, пачалі весці вялікую канспірацыйную працу.

Толькі пазней даведаўся я найстрашнейшыя рэчы: выдаў іх малады чалавек, які пасля нашага працэсу пачаў круціцца вакол рэштак групы. Быў гэта правакатар, падчас акупацыі працаваў адначасова на карысць віленскай АК і гестапа.

Намыслоўскі, арыштаваны, павесіўся ў камеры, каб падчас допытаў нікога не выдаць. Муху выслалі ў лагер, спачатку пад Коўню, потым у страшны Штутгоф пад Гданьскам. Праз некалькі месяцаў даведаліся, што памерла там ад тыфу.

Гэты малады правакатар не спыніўся на кіраўніках і актывістах. Сыпаў, каго ўдавалася. Аказаўся, зрэшты, не толькі шпіком, але і катам.

Я пісаў ужо шмат пра Уладка Барысевіча. Быў гэта дзівак, трохі калека, хворы на сэрца, “вечны студэнт” права, абсалютны жыццёвы недацёпа. Яго бацька, вайсковы лекар, бадай што з Сувалак, пасля паўторнай жаніцьбы занядбаў яго і давёў да таго, што Уладак кінуў дом. Вялікая асоба Генрыка захапіла яго цалкам. У часы “Па-просту” вёў бухгалтэрыю і сядзеў на лаве падсудных. Падчас акупацыі быў дазорцам нейкага дома і ажаніўся. Быў, што называецца, чалавекам, які не патрафіў бы зрабіць крыўды найгоршаму ворагу.

Правакатар сустрэў Барысевіча на вуліцы. Той абрадаваўся: сведка нашай забаўнай і някепскай маладосці. Правакатар забраў Барысевіча разам з парай апрычнікаў са сваёй “арганізацыі”, зацягнуў на “маліну” і пачаў катаваць, змушаючы да здрады. Барысевіч нікога не здрадзіў і сканаў пад катаваннямі.

Яго жонка і Ганецкая J. пайшлі ў лагер разам з Мухай. Ім пашанцавала: у сакавіку наступнага года вярнуліся ў Варшаву, страшна змучаныя пасля тыфу, але ўсё ж такі жывыя. Прывезлі вестку пра смерць Мухі.

Поль нас гукнуў каля дома, у якім я часта бываў: тут жылі Загорскія, Ігнацы, стары эсдэк і яго сын, “Слон”, мой супольнік з “Вільнядрамы”. Хачу туды зайсці, але Поль стрымлівае. Мецэната Ігнацыя забілі немцы. Слон у “Доры”. Першы раз пачуў тады гэтую панурую назву. Ужо ён адтуль не вярнуўся.

**Тыя самыя колеры**

Перш, чым распавёў нам гэта ўсё, яшчэ кароткая сцэнка з таго першага дня.

Едзем па спляценні сярэднявечных вулічак. Тут блукаў перад вайной, глядзеў на страшную яўрэйскую беднату і гаварыў сабе: я з імі, супраць тых, сытых, задаволеных. Сёння вулічкі пустыя. Бедната пагінула пад гітлераўскімі кулямі на блізкіх Панарах. Зрэдку толькі пройдзе крадком заблуканы пешаход або прамчыць вайсковы аўтамабіль.

Гэты, што нас мінае, звычайны, таму не звяртаем на яго ўвагі, захопленыя выглядannем самой вулачкі, якая вынырвае з гэтага лабірынту..

Толькі, калі нас мінае, усведамляем сабе нешта і паварочваем галовы ўсе адначасова. І бачым, што тыя ў тым аўтамабілі таксама паварочваюць галовы адначасова з намі. І адначасова абедзве машыны тармозяць. Моўчкі, павольна вылазім з аўтамабіляў. Паволі, не ведаючы добра, што рабіць з рукамі, рушым на спатканне, углядваючыся ўзаемна ў значкі на шапках і сцяжкі на аўтамабілях.

Значкі розныя, сцяжкі такія самыя. Нашыя арлікі цяжкія, масіўныя, без карон, пястаўскія. Іхнія лягчэйшыя ў выкананні, але каранаваныя і з тарчамі ў кіпцюрах.

Запавольваемся, стаім за пару метраў адны ад другіх. Не вельмі вядома, што тыя рукі будуць рабіць, хапацца за рукаяткі рэвальвераў ці выцягваца для прывітання?

Ціха над мёртвай вуліцаю. Гаворым адначасова мы і яны:

- АК?

- Берлінгаўцы?

- Першая Армія! - папраўляем.

Зноў маўчым, падаём адны адным рукі. Яшчэ хвілю глядзім адны на адных. Пагляды тыя падобныя: так глядзяць на некага, хто не мае рацыі, без клёку, бязмозглы.

Маем тыя самыя колеры на сцяжках і едзем у два розныя бакі. Нехта ж з нас мусіць мыляцца, нехта з нас мусіць ісці памылковай дарогай, нехта з нас мусіць той няправільнай дарогай цягнуць за сабой у прорву тых, чые нацыянальныя колеры носіць.

Не скажам гэтага цяпер. Толькі казырнём і ў маўчанні вернемся да сваіх аўтамабіляў. Павярнуўшыся, глядзім яшчэ назад. Яны таксама глядзяць.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Познаньскім выдавецтве выйшла кніга Дарыюша Анджэя Сікорскага “Рэлігія даўніх славян”, 352 ст.**




**У Менску ў выдаўца Зміцера Коласа выйшла кніга Алега Трусава, Лявона Баршчэўскага і Аляксея Хадыкі “Гісторыя Расіі ад Сераднявечча да сучаснасці”, 534 ст., наклад 300 асобнікаў.**



**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў раман П.В. Гацілава “Падарожжа ў Яцвягію”, 344 ст., наклад 1000 ас.**




**У Менску ў выдавецтве “Альфа-кніга” выйшла кніга Вячаслава Шведа “Рэквіем паўстанцам 1863-1864 гг.” 312 ст., наклад 400 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў зборнік дакументаў і матэрыялаў “Польшча-Беларусь, 1921-1953”, 422 ст., наклад 200 ас.**




**У выдавецтве “Архе” выйшла кніга С.яргея Пясецкага “Жыццё раззброенага чалавека”, 244 ст., наклад 1000 ас.**

